

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 4 мая 1990 г. №18 (3532) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**




Пімен ПАНЧАНКА

## НА ТОЙ МАЁЙ ВАЙНЕ

Хапіла мне і той вайны
адной:
Я ў бой хадзіў.
Таму і непадсудны...
Мой родны край
Такі журботна-сумны,
Жыццё цяпер у нас —
Нібы тэатр абсурду.
А вінаваты хто?
Нікчэмны міф
Альбо фальшывы строй?

Забыць... Завыць...
Запіць...
Бязладдзя ў нас занадта:
Чым больш жывеш —
Ідыятызму больш...
Часцей я ўспамінаю вас,
Сябры-салдаты,
Салдацкі шлях,
Салдацкі гнеў,
Салдацкі боль.

А сёння — чорны час
Зняваг і бессардэчнасці:
Штодзённая нястача
Нас гне і гне, і гне...
На сто галоў
Вышэй па чалавечнасці
Былі байцы
На той маёй вайне.
І не было нам даражэй
нічога,
Чым парадненне з воляю
людзей.
Былі і маладосць,
І перамога,
І родная зямля,
І мой шчаслівы дзень.

## *X з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі*

**Як мы паведамлялі, на мінулым тыдні адбыўся X з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Згодна Статута СП Беларусі, прынятаму на з'ездзе, адбыліся выбары старшыні творчага саюза, яго чатырох намеснікаў, а таксама Рады СП БССР у колькасці 55 чалавек.**

**Тайным галасаваннем на альтэрнатыўнай аснове старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі выбраны В. Зуёнак, яго намеснікамі — А. Жалязоўскі, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, В. Супрунчук.**

**Дэлегаты з'езда выказалі падзяку народнаму пісьменніку Беларусі М. Танку за шматгадовую працу на пасадзе старшыні праўлення творчага саюза.**

**Сёння «ЛіМ» пачынае публікацыю матэрыялаў X з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі.**



# ПІСЬМЕННІЦКІ САЮЗ: СЁННЯ І ЗАЎТРА

## *Даклад першага сакратара праўлення СП БССР Васіля ЗУЁНКА*

Таварышы! Здаецца, упершыню наш Саюз пісьменнікаў пяцігодку выконвае датэрмінова: на свой X з'езд мы сабраліся не праз пяць год, як гэта было вызначана папярэднім з'ездам, а на год раней.

Прычыны такога прыспешвання відавочныя і лучацца яны не толькі і не столькі з пытаннямі творчасці, колькі з тымі ўсё больш узрастаючымі разыходжаннямі між ім, нашым Саюзам—як творчым інстытутам, — і тымі творцамі, якіх ён, па ідэі, павінен яднаць. Адбылося своеасаблівае адчужэнне: пісьменнік піша, выдае кнігі сам па сабе, а Саюз працуе, праводзіць мерапрыемствы таксама сам па сабе. Момантаў і пунктаў творчага судакранання і творчай неабходнасці становіцца ўсё менш.

Не былі выключэннем, а хутчэй могуць паслужыць пацвярджэннем у многім тупіковага становішча і апошнія чатыры гады.

З'яўляліся творы — добрыя, сярэднія, горшыя. Аднак роля Саюза ў гэтым працэсе ніяк не была вызначальнай, а—паглядзеўшы праўдзе ў вочы,—можа, і мізэрнай...

Вось чаму хочацца адмовіцца ад традыцыйна-панылага пераліку кніг і аўтараў, прыгадваць і рабіць спробу сістэматызаваць і аналізаваць нашы мерапрыемствы і акцыі. Іх было шмат—і талковых, цікавых, і часам не дужа ўдалых,



дзяжурных,—зрэшты, малюнак гэты добра бачны са старонак справаздачнай брашуры, якую атрымалі дэлегаты.

Пералік зробленага ўнушальны і сведчыць, што служба СП і яго органы, абраныя на мінулым з'ездзе, не сядзелі склаўшы рукі.

І ўсё ж —пытанні карцяць іншыя, жыццё іх ставіць, жыццё патрабуе — праўдзівага і бескампраміснага адказу на іх.

Сёння, калі расхістваюцца і разбураюцца, дзе з поспехам, а дзе і са значнымі стратамі для наступаючых, доты, дзоты, НП і КП, узведзеныя, абжытыя, замаскіраваныя каманд-на-бюракратычным апаратам шматлікія сістэмы, для нас жыццёва важна агледзець, ацаніць і вызначыць творчую неабходнасць нашай роднае сістэмы, створанай спецыяльна для нас—нашага творчага Саюза.

Усё часцей чую галасы: а ці патрэбен ён наогул, той Саюз, і ці не ёсць ён па прыродзе сваёй, а сёння ці не хоча застацца і надалей своеасаблівым механізмам, створаным дзеля зручнага, класічна простага, безадказнага кіравання літаратурай і літаратарамі?

Што ж, калі азірнуцца назад, да вытокаў, то можна прасачыць, як натуральнае імкненне творчых сіл да згуртавання (бо луг вырастае з разнатраўя і разнаквецця, а лес— з вынасістых, пад неба, дрэў) паступова прыбіралася да рук адміністрацыйнымі камандзірамі ад літаратуры, як губляў пісьменніцкі Саюз аблічча саюза вольных, таленавітых і розных, мастакоў, як выраджаўся ён у звычайны дэпартамент. Форма вельмі прыдалася (і прадалася) сістэме. А з гэтага вынікалі і сыпаліся на галовы найбольш незалежных, непакорлівых, непадатлівых да вуздэчак і лейцаў (бо таленавітых) творцаў усе беды, ганенні і праследаванні.

Аднак жа ці вінаватая сама ідэя творчага Саюза, калі была выкарыстана яна ў імя заганных мэт?

Заўсёды і ўсюды творчыя людзі шукалі водгуку блізкіх, родпасных душ, імкнуліся ў еднасці знайсці і радасць разумення, і апору, і падтрымку. — зрэшты, гэта памкненне ўласціва кожнаму нармальнаму чалавеку, бо ён, пры ўсіх сваіх індывідуальных асаблівасцях і схільнасцях, усё ж істота калектыўная.

Дык вось, калі падыходзіць з гэтага боку, то наша паяднанне, наш Саюз не такое ўжо безнадзейнае і кепскае ўтварэнне. І асабліва гэта выразна бачыцца ў нашых—канкрэтна беларускіх—умовах. У кожнага саюза ёсць мэта з яе прыцягальнай, гуртуючай энергіяй. У нас жа яна—звышмэта. Трагічнай воляй абставін мы пастаўлены ва ўмовы, калі трэба змагацца за выжыванне нашай мовы, нашай літаратуры, культуры, нашай духоўнасці і, зрэшты, нацыі, народа. Паяднаны ідэяй адраджэння, наш Саюз (як і іншыя творчыя саюзы) павінен стацца на гэтым шляху вялікай сілай, кансалідуючым пачаткам.

Уявім на хвілінку, што выйшлі мы на гэтую дарогу кожны сам па сабе, кожны са сваёй дудкай ці хай сабе і барабанам,—хто з намі будзе лічыцца? Разам, калектыўна — мы сіла і не абы-якая. І паспрабуй хто-небудзь не заўважыць ці не пачуць, калі гэта сказаў не адзін, другі, трэці, а Саюз—усе грамадою.

Саюз павінен сцвярджаць і адстойваць асноўныя, фундаментальныя каштоўнасці, важныя для выжывання і нацыянальнага развіцця, росквіту народа, — гэта перш за ўсё яго мова і культура.

«Па ўзроўні адукацыі мы знаходзімся на 28-м месцы ў свеце»,—канстатуе радыёстанцыя «Саюз» з Масквы (18.III. 90 г.).

**(Працяг на стар. 2—3).**

Даклады друкуюцца са скарачэннямі.

# ПІСЬМЕННІЦКІ САЮЗ: СЁННЯ І ЗАЎТРА

**(Пачатак на стар. 1).**

«Па краіне адлічэнні на культуру складаюць 1,3 працэнта ад дзяржаўнага бюджэта, а на Беларусі—0,75! Як гэта разумець?» — усклікае дырэктар акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Іван Вашкевіч у інтэрв'ю «ЛіМу» (2.III.90 г.). Спытаем і мы: «Як гэта разумець?», дадаўшы да пытання яшчэ адну лічбу: «...доля бюджэтнага фінансавання АН БССР у нацыянальным даходзе складае ўсяго 0,16 працэнта. Гэта ў два з лішнім разы ніжэй за саюзны ўзровень» (газета «Звязда», 4.III. 90 г.—інтэрв'ю А. Ганчарэнкі, галоўнага вучонага сакратара Прэзідыума АН БССР)...

Вяртанне на гістарычна авангардныя пазіцыі «калектыўнай асобы» нацыі сведчыць аб тым, што мільёны людзей, аб'яднаныя ў гэтую духоўную і матэрыяльную агульнасць, звязваюць сваю будучыню, свае надзеі з развіццём сваёй культуры і мовы, з паступовым рухам сваёй уласнай гісторыі.

Занядбанне нацыянальных пачуццяў, нацыянальных асаблівасцей, нацыянальны нігілізм, узведзены ў афіцыйны лозунг зліцця народаў і нацый, прывёў у многім да тых бед у духоўным жыцці грамадства, з якімі мы сёння трагічна сутыкнуліся.

Вось куды, на вырашэнне якіх задач, у дадатак да сваіх, уласна творчых, нам неабходна скіраваць агульныя намаганні, змацаваныя нашым Саюзам!..

Ды што тут агітаваць і пераконваць? Думаецца, усе гэта не горш за мяне разумеюць.

Думаецца... Аднак жа, глядзіш, не-не дый падштурхнуць збоку ці ззаду—маўляў, распадайцеся і разыходзьцеся: «...«Тутэйшыя» три года боялись «распадаться». Союз писателей—боится до сих пор...».

Што ж, яно так—наш Саюз цягам доўгіх гадоў прывучыў нас да пэўных стэрэатыпаў, быў пастаўлены сам ва ўмовы ведамаснага існавання і паставіў нас у абавязковыя акалічнасці і метады гэтай жа сістэмы.

Наступіў час руйнавання традыцыйна-кансерватыўных стэрэатыпаў. Але і час асцярогі: не стварыць новых. І хутчэй, не форму трэба мяняць, а сутнасць. Азірнёмся вакол, кінем позірк у гісторыю. Веча, асамблея, рада, савет, парламент, сход, мітынг,—якія б найменні ні з'яўляліся і тэстаментна ні аб'яўляліся—усё вырашаецца і вырашаецца напоўненасцю гэтых грамадска-палітычных сасудаў: якая закваска, якія дрожджы і на якой аснове яны бушуюць і пеняцца. Сутнасць у гэтым.

Вось, скажам, адзін са стэрэатыпаў.

Мы прывыклі па тых, бюракратычных, канонах успрымаць сакратарыят СП як нейкую ўладу, настаўленую ці падасланую зверху. Дык ці не пара ўжо рашуча развітацца, нават не падаўшы руку, гэтай заскарузлай, самімі ж намі не аспрэчанай і не адхіленай раз і назаўсёды норме літаратурнага жыцця? Каму і навошта патрэбна тая ўлада, калі яна ні на вяршок, ні на кроплю не можа зрушыць ці дадаць у творчым жыцці кожнага з нас? Не кіраўніцтва нам патрэбна, а сяброўская добразычлівая атмасфера без патуг на кабінетнае лідэрства, без ценю зайздрасці.... Дэмакратычная альтэрнатыўная выбарнасць, справаздачнасць, змяняльнасць — своечасовая і натуральная,—гэта імкнецца засведчыць і замацаваць праект Статута Саюза пісьменнікаў БССР, які мы сёння будзем абмяркоўваць і прыстасоўваць да нашай штодзённай дзейнасці, — дарэчы, статута першага для нас у гісторыі.

Саюз патрэбен, але тады і ў тым выпадку, калі ён знойдзе сваё месца не толькі ў сённяшнім бурлівым і зменлівым творчым свеце, але і ў жыцці кожнага з нас. Пакуль жа ён, скажам прама, у не дужа зайздросным становішчы. Як сказаў мне нядаўна Рыгор Іванавіч Барадулін, Саюз пачынае нагадваць фурманку, у якой ужо колы хістаюцца і атосы зваліліся. А хто больш-менш знаёмы з гэтай транспартнай тэхнікай, той, дадам ад сябе, ведае — калі атосы зваліліся, воз робіцца амаль непадуладны ездаку, бо кіруецца толькі аглоблямі, на іх адна надзея—куды вынесуць... А тут ужо ясна: з «аглабельным кіраўніцтвам» мы, дзякаваць богу, нажыліся і хапілі творчых радасцей...

Як жа ўдыхнуць новыя сілы ў жыццё нашага Саюза? Думаецца, тут само жыццё і падказвае многае.

Побач з жанравымі секцыямі настойліва грукаюцца ў саюзаўскія дзверы разнастайныя творчыя структуры—пастаянна дзеючыя аб'яднанні па інтарэсах, эстэтычных поглядах, творчых падыходах, платформах, дзейнасць якіх накіравана на рашэнне пэўных канкрэтных творчых ці іншых задач. Прыгадаем — ствараецца Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй унікальнае выданне шматтомнай «Кнігі Памяці», кнігі-помніка людзям, якія загінулі ў гады вайны,—вось вакол здзяйснення ці, дакладней, у імя здзяйснення гэтай высакароднай мэты можа арганізавацца калектыў пісьменнікаў, які на пэўны час будзе скіроўваць сюды свае творчыя намаганні.

Ці вось яшчэ прыклад, народжаны жыццём: у нас у Доме літаратара з'явілася гэтая аб'ява—аб конкурсе, адначасова вучобе, пошуку талентаў маладых драматургаў,—а ўсё гэта разам можна назваць школай Аляксея Дударава. Няхай пабольш адкрываецца такіх школ, няхай вакол прызнаных майстроў яднаецца моладзь, гурт аднадумцаў, — няхай спрачаюцца над старонкамі напісанага, выяўляюць шляхі, вучацца, творча растуць... Тое ж самае можна сказаць пра пастаянна дзеючы семінар фантастаў, з якімі актыўна працуе Уладзімір Шыцік... Маладыя прыхільнікі гістарычнай тэмы збіраюцца на абмеркаванне сваіх праблем і пытанняў разам з Кастусём Тарасавым... Аб'яднанне рускамоўных літаратараў «Слова» ад вузка цэхавых творчых сустрэч мае намер узяцца за арганізацыю сваіх выданняў... Зусім нядаўна ўтварылася асацыяцыя жанчын-пісьменніц. І ў іх шырокае кола дзейнасці, задум...

Напэўна ж, будуць утварацца дыскусійныя клубы па розных праблемах. І тут ужо зусім не вызначальную ролю адыгрываюць жанравыя рамкі. Экалагічная дзейнасць, напрыклад, секцыі публіцыстаў захапіла і аб'яднала і празаікаў, і паэтаў, і драматургаў.

Словам, выяўленне творчых інтарэсаў павінна знаходзіць пастаянную падтрымку, разуменне ў кожнага з нас. Да ўсіх гэтых ініцыятыўных крынічак, рухаў трэба кожнаму ставіцца так, каб не Саюз распадаўся на асацыяцыі, аб'яднанні, гурткі, а каб усе яны аб'ядноўваліся ў Саюз, адчувалі ў ім патрэбу, мацаваліся ім, абараняліся, набывалі не толькі юрыдычна-прававы, але, што для нас найпершае і самае галоўнае,—творчы грунт.

І важна яшчэ адно, каб у гэтым дабратворным працэсе не нашкодзіла імкненне стварыць беларускай літаратуры нейкую альтэрнатыву (а ў падтэксце, а то і адкрыта-дэкларацыйна даводзіць, што яе як бы і не было, гэтай літаратуры...).

Так, бясспрэчна, альтэрнатыўнасць — перадумова і, можа, падмуркавы камень усякай творчасці. Творчая асоба — альтэрнатыва ўсім астатнім — узятым разам і паасобку. Гэтым жыве мастацтва. Жыве! — а не забівае. Альтэрнатыўнасць—не ў закрэсліванні, а ў спаборніцтве, у пошуку шляхоў да цудоўнага, да ісціны.

Ясна ж, як божы дзень: самая згубная для мастацтва і такая распаўсюджаная, з дазволу сказаць, філасофія — ці яшчэ адзін трывалы стэрэатып: «І я ж гэтак магу... Ці, прынамсі, і я не горш магу напісаць...». А як гэта ўжо заўважалася неаднойчы, — бяда ж уся ў тым, што можаш не горш, а лепш не можаш... На падобным грунце трымаецца ўся дзейнасць трыумфатараў і куміраў маскультуры, бо кожны са шматлікіх мільёнаў іх апалагетаў, ці як цяпер любяць казаць, заўзятараў, нутром, падкоркаю адчувае, што гэтак і ён можа, гэта як бы ён сам раве ці вычварае розныя крывулякі. Зусім іншае—святое—адчуванне, калі бачыш ці чытаеш нешта намнога вышэйшае за цябе,—тут трэба падцягвацца, вырастаць душою, напружваць не толькі мускулы, але і духоўную энергію,—а навошта?.. Масавае нібы-мастацтва вельмі ёмка і ўтульна, па-гаспадарску, пачувае сябе ў гэтым бедламе, у гэтым шабашы агульнага псіхозу.

Трывожна, што такія меркі перакідваюцца, прыкладваюцца ўжо і да літаратуры. І тлумачыцца гэта, здавалася б, вельмі добрымі намерамі: прыцягнуць на свой бок чытача, захопленага і зведзенага ў палон рознымі разбойнымі ВІА, конкурсамі прыгажунь са шнурочкамі на пэўных месцах—усялякай сексбандай, а цяпер яшчэ і ламбадай—амаль што «ламбандай»...

Намеры намерамі, але тут вельмі лёгка пераступіць мяжу і зваліцца, боўтнуцца з галавой у багну антымастацтва.

А шляхі да чытача трэба шукаць у іншым кірунку. Трэба вырашаць кардынальныя пытанні.

У нас адабралі беларускую школу, адлучыўшы тым самым ад роднай мовы некалькі пакаленняў беларусаў, пазбавіўшы адначасна родную літаратуру чытачоў — актыўных, нацыянальна свядомых і зацікаўленых,—а цяпер зларадна паказваюць пальцам: вас не чытаюць, кнігі не разыходзяцца, падпіска не расце, а то і падае...

Ды адкуль жа ўсё возьмецца, калі падрэзаны карані?..

Ці, можа, і праўда ў нас няма і не было літаратуры?

У адным з выступаў (а можа, і не ў адным) здольнага і вострага палеміста - крытыка Сяргея Дубаўца такая думка ўжо звіла гняздо.

Цікава—альбо гэта той самы пальчык, што паказвае: «Глядзіце, глядзіце, а кароль жа—голы!..», альбо гэта імкненне сцвердзіць сябе і сваё пакаленне, закрэсліваючы папярэднікаў?

Калі гэта першае, то можна было б нагадаць тое-сёе з нашай літаратуры, з чым яна, як у добрых беларускіх строях, выйшла ў свет, у людзі. Можна было б назваць імёны, творы, ды, зрэшты, Сяргей як бы і сам абвяргае свой тэзіс,— помніце яго нядаўняе эсэ пра тры жаночыя постаці ў нашай літаратуры? Знаходзіць у ёй сваё любімае і іншыя,—як, да прыкладу, Кася Камоцкая, пра якую расказвае карэспандэнт «Чырвонай змены» Г. Ждановіч: «Кася складае свае песні і на вершы тых маладых, каго сёння ведае кожны,—Анатоля Сыса, Сяргея Дубаўца, таго ж Адама Глобуса, і паводле незабыўнай класікі—Янкі Купалы, Алеся Гаруна і сучаснага класіка Алеся Разанава...». Бачыце—усё ж ёсць, аказваецца, нешта ў нашым кубёлку!.. І калі тое-сёе знайшла там Кася, дык чаму не можа і Вася? Можа, дазволена будзе і яму прыгарнуцца душой да чагосьці свайго, запаветнага? І якую альтэрнатыву—ды і навошта? — можна адшукаць Якубу Коласу з яго пакуль што нікім непераўзыдзенай «Новай зямлёй»? Максіму Гарэцкаму? Аркадзю Куляшову? Івану Мележу? Уладзіміру Караткевічу?..—не будзем чапаць жывых...

Калі ж гэта (вернемся да нашага першапачатковага пытання) імкненне «сцвердзіць адмаўляючы», то зноў жа—на ўспамін прыходзяць многія павучальныя гістарычныя паралелі,—калі скідвалі Пушкіна з карабля сучаснасці, калі браліся ў рожкі з Купалам і Коласам і г. д. і да т. п.

З тактычнага боку гэта, можа, нават і добра і натуральна: пабарукацца з бацькам, але ж не трэба яго кідаць вобзем так, каб і хрыбетнік папалам.

Са стратэгічнага ж боку тут ёсць аб чым задумацца і глыбей і шырэй: літаратура, як і жыццё народа, не перарываецца, новае не вырастае на голым месцы. Трымайцеся ж грунту, хлопцы...

Збоку гледзячы, яно вельмі пацешна (на радасць звадышам рознага толку), калі б'юцца і валтузяцца свае — бацькі з дзецьмі ці браты, скажам... Старэйшыя, відаць, вастрэй і больш балюча адчуваюць трагікамічнасць сітуацыі. Думаецца, што і малодшым хопіць развагі і клёку, каб не смяшыць свет, каб зразумець, што нам яшчэ не дзяліць, а набываць, нажываць трэба...

Мы забываемся ў пыле і дыме спрэчак аб, магчыма, самым галоўным: супраць твора літаратуры (хай сабе і кепскага) можа быць толькі адзін аргумент — твор літаратуры. Напішы лепш. Гэта будзе самая плённая спрэчка—творчая. З мастацтвам можа спаборнічаць толькі мастацтва.

Сцвярджэнне апостала Іаана — «Хто гаворыць: «Я люблю Бога», а брата свайго ненавідзіць, той ілжэц»,—добра накладваецца і на нашыя літаратурныя норавы. Аб іх чысціні трэба дбаць, аб духоўным ачышчэнні і прасвятленні. Мы зараз шмат гаворым аб пакаянні, але найчасцей аб чужым, а не сваім... Пісьменнік жа, мастак—у ідэале—не толькі прарок, што шукае і адкрывае ісціну, **а сама ісціна.**

Для літаратуры, як і наогул для мастацтва, няма «мінулага — учарашняга», «існага—сённяшняга», «наступнага—будучага»,—усё яно, усе гэтыя катэгорыі пранізаны адзіным сілавым полем духоўнасці, паяднаны касмічнай ідэяй руху і развіцця чалавека і чалавецтва. Вось чаму гэтак важна не толькі для нас, беларусаў, але і для ўсёй зямной цывілізацыі не даць разарвацца ёй на нашым, беларускім, звяне.

А пагроза такая ёсць.

Бадай, ні адна літаратура ў працэсе свайго саматварэння не думае тут жа аб сваёй уласнай смерці. А наша—тайна ці яўна, свядома ці падсвядома, разумеючы ці здагадваючыся, уголас ці маўчком —змушана гэта рабіць. Бо як інакш назавеш адміранне мовы, як не смерцю і літаратуры, на якой яна творыцца. І тое, што зараз мы важымся зрабіць з ратаваннем нашай мовы — усяго *пакуль што толькі меры рэанімацыйныя.* Вы паспрабуйце што-небудзь рабіць, калі ў вас баліць галава, ці наколвае сэрца, ці нават на мезяным пальцы пазногаць ные... Працы ўжо у вас не будзе ці, як звычайна кажуць, праца з рук валіцца. А тут жа — мову аднімае... Мова памірае, — які ж душэўны тонус у яе працаўніка—пісьменніка, — можа хто-небудзь зразумець?! Думаецца, што гэта незразумела ні англійскаму, ні рускаму, ні пакуль што, на поўную меру, скажам, *літоўскаму пісьменніку* (хоць яны ўжо і здагадваюцца аб нечым). Гэта зразумела толькі нам—беларусам... Ніхто з нашых калег з усенародным, усеабдымным і непахісным статусам мовы, беручыся за пяро, не заклапочаны падобнай трывогай, — ён думае толькі — зразумела ў меру свайго таленту і творчых задач, пакліканых ім, гэтым талентам, зняволены толькі адным: у парыве натхнення ці карпатлівай працы выявіць сябе і свой погляд на жыццё, сваю мару, сваю легенду аб ім у мастацкіх вобразах, малюнках і з'явах, што непакояць і турбуюць — балюча ці радасна, успешна—яго душу.

Мы ж яшчэ зняволены ў гэтым стане—свядома ці падсвядома — перманентным пытаннем: быць ці не быць?.. З-за кожнага нашага радка, з-за кожнага сказа выглядае мефістофелеўская ўхмылачка: «А каму ты пішаш? Хіба што сабе?..»

Натуральны, чалавечы стан літаратуры вызначаецца *натуральным, чалавечым станам мовы.* Літаратура будзе свабодна, на поўныя грудзі, дыхаць, як нармальны, здаровы арганізм, калі будзе здароваю ў жыцці сённяшнім і несмяротнаю ў перспектыве гістарычнай пачуваць сябе мова.

Калісьці Максім Танк у адчуванні своеасаблівага касмічнага стану чалавека нашай эры заўважыў:

## Прэзідыум з'езда

**Рыгор БАРАДУЛІН**
**Генадзь БУРАЎКІН**
**Васіль БЫКАЎ**
**Васіль ВІТКА**
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**
**Ніл ГІЛЕВІЧ**
**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**
**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**
**Васіль ЗУЁНАК**
**Вольга ІПАТАВА**
**Віктар КАВАЛЕНКА**
**Анатоль КУДРАВЕЦ**
**Максім ЛУЖАНІН**
**Іван НАВУМЕНКА**
**Пімен ПАНЧАНКА**
**Вячаслаў РАГОЙША**
**Барыс САЧАНКА**
**Віктар СУПРУНЧУК**
**Максім ТАНК**
**Іван ЧЫГРЫНАЎ**
**Іван ШАМЯКІН**

## Сакратарыят з'езда

**Таіса БОНДАР**
**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**
**Васіль ГІГЕВІЧ**
**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**
**Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ**
**Вольга ІПАТАВА**
**Павел КАВАЛЁЎ**
**Анатоль КЛЫШКА**
**Уладзімір ЛІПСКІ**
**Алег ЛОЙКА**
**Павел МІСЬКО**
**Мікалай МАТУКОЎСКІ**
**Іван НОВІКАЎ**
**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ**
**Аляксей РУСЕЦКІ**
**Алесь САВІЦКІ**
**Віктар СУПРУНЧУК**
**Рыгор ШКРАБА**

*X з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі*

# ТВОРЧАСЦЬ: ШТО СПРЫЯЕ, ШТО ЗАМІНАЕ

## *Даклад старшыні рэвізійнай камісіі СП БССР Вячаслава РАГОЙШЫ*

Відаць, лёсам так наканавана: стаць красавіку найбольш памятным месяцам у жыцці нашай пісьменніцкай арганізацыі. Шосты, восьмы, дзевяты і цяперашні, дзесяты, з'езды беларускіх пісьменнікаў прыпадаюць менавіта на красавік. Можна было б толькі падзівіцца-пацешыцца такому супадзенню, калі б... Калі б не чорная дата: 26 красавіка 1986 года, за два дні да якой закончыўся наш папярэдні з'езд...

Аднак красавік нам памятны і іншым. У 1985 годзе адбыўся лёсапаваротны красавіцкі Пленум ЦК КПСС, які пачаў перабудову нашага грамадска-палітычнага жыцця, дэмантаж адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Беларуская літаратура, што, як і сам народ, была пад пагрозай фізічнага знікнення, у той жа час атрымала агромністы імпульс духоўнага развіцця. І гэта надало беларускім пісьменнікам новы запас трывушчасці, усяліла ў іх надзею на лепшую будучыню, веру ў заўтрашні дзень.

З гэтай *верай і працавала* ў паслячарнобыльскі час беларуская пісьменніцкая арганізацыя, у тым ліку ўсе яе выбарныя органы — праўленне, прэзідыум праўлення, сакратарыят, бюро творчых секцый і камісій, не выключаючы і рэвізійную камісію. Рэгулярна праводзіліся пленумы праўлення СП БССР, пасяджэнні прэзідыума праўлення і сакратарыята, на якіх узнімаліся і вырашаліся самыя розныя праблемы, звязаныя са стварэннем і функцыянаваннем актуальных высокамастацкіх твораў. Сярод гэтых праблем — пошук новых форм сувязей пісьменнікаў з жыццём, актывізацыя літаратурнай крытыкі, удасканаленне прапаганды беларускай літаратуры, работа з творчай моладдзю, пашырэнне кантактаў беларускай літаратуры з літаратурамі братніх народаў і замежных краін, сцвярджэнне дзяржаўнасці беларускай мовы і інш.

Праверыўшы і прааналізаваўшы дзейнасць рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі за справаздачны перыяд, рэвізійная камісія прапануе з'езду прызнаць работу праўлення СП БССР здавальняючай.

Гэта, аднак, не азначае, што ўсё ў рабоце кіруючых органаў беларускай пісьменніцкай арганізацыі было бездакорным. Так, у свой час рэвізійная камісія праверыла выкананне сакратарыятам рашэнняў IX з'езда пісьменнікаў Беларусі. Абсалютная большасць пісьменніцкіх наказаў выканана. І ўсё ж такі пункт, як выданне стэнаграмы IX з'езда, застаўся нерэалізаваным. Не падрыхтавана як след, а таму найперш і не надрукавана і яшчэ адно выданне — «Саюз пісьменнікаў БССР — 50 гадоў», — стварэнню якога ў свой час удзялялася вялікая ўвага. Сакратарыят ківае на Дзяржкамвыд БССР: маўляў, ён не хоча браць у вытворчасць такія нерэнтабельныя рукапісы, вось ужо колькі год не выдаецца падрыхтаваная стэнаграма VIII з'езда пісьменнікаў Беларусі. Але ж і Дзяржкамвыд БССР можа кіўнуць у бок сакратарыята: а вы дайце канчаткова падрыхтаваны да выдання рукапіс, а тады і пытайцеся з нас. Такога рукапісу да гэтага часу ў выдавецтве няма. Зрэшты, і самой стэнаграмы з'езда членам рэвізійнай камісіі ў сакратарыяце не паказалі, паказалі толькі тэксты асобных выступленняў.

Часам пісьменніцкім сакратарам не ставала рашучасці, настойлівасці ў вырашэнні асобных пытанняў, напрыклад, кад-



равых (маю на ўвазе найперш кіраванне Бюро прапаганды мастацкай літаратуры). Нягледзячы на прапановы рэвізійнай камісіі, пасяджэнні сакратарыята, за вельмі рэдкім выключэннем, абыходзіліся без удзелу кіраўніцтва творчых секцый і грамадскіх арганізацый Саюза пісьменнікаў. Ды і самай элементарнай галоснасці ім не ставала. Якіх толькі аб'яў не сустрэнеш на дошцы аб'яў Дома літаратара! А вось элементарнай інфармацыі пра пасяджэнні сакратарыята, пра яго рашэнні — шукаць марна...

Зрэшты, тут трэба і нам самім пакаяцца. Не змаглі мы таксама як след наладзіць галоснасць рэвізійнай працы. Хоць вынікі праверак абмяркоўваліся на розных узроўнях (у сакратарыяце СП, Літфондзе, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры), а некаторыя з іх праводзіліся сумесна з парткомам і народным кантролем, — тут яшчэ засталося шмат нявыкарыстаных рэзерваў. У прыватнасці, мала мы звярталіся да літаратурнай перыёдыкі, да газеты «Літаратура і мастацтва».

Праўда, з другога боку, «ЛіМ» літаральна задыхаецца ад матэрыялаў інфармацыйнага характару. На добры толк, ён павінен быў бы публікаваць падрабязныя справаздачы пра ўсе пленумы СП БССР, пасяджэнні розных творчых секцый і камісій, выступленні на якіх часта больш цікавыя, чым некаторыя спецыяльна заказаныя газетай артыкулы. Але дзе ж узяць неабходную плошчу? Рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі даўно ўжо пара мець самастойную літаратурную газету, накшталт «Литературной России» ці «Літературної України». Гэта, зрэшты, некалькі аблегчыла б долю двух (усяго ж двух!) так званых тоўстых беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісаў — «Полымя» і «Маладосць», — у якіх таксама залішне завозна ад рукапісаў раманаў, аповесцяў, паэм, вершаў...

Нельга забываць і пра тыя матэрыяльна-бытавыя праблемы, з якімі літаральна штодня сутыкаюцца пісьменнікі і над якімі патрэбна будзе працаваць далей і беларускаму аддзяленню Літфонду СССР, і новаму складу праўлення, і рэвізійнай камісіі СП БССР. Далёка яшчэ не ўсе пісьменнікі маюць нармальныя жыллёвыя ўмовы, асабліва — тыя, што жывуць не ў сталіцы рэспублікі. Што ўжо тут казаць пра дадатковыя 20 м² для рабочага кабінета пісьменніка, дакляраваныя калісьці ў спецыяльнай пастанове саюзнага ўрада!

Вельмі дрэнныя ўмовы працы аддзяленняў СП БССР у Магілёве і Віцебску, зусім адсутнічаюць гэтыя ўмовы ў Брэсце (хаця, заўважу, вырашыць гэтае пытанне абяцаюць на ўсіх узроўнях яшчэ з 1981 года). Далёка не заўсёды задавальняюцца заяўкі пісьменнікаў на пуцёўкі ў саюзныя дамы творчасці і санаторыі. Нялёгка пісьменніку набыць машыну. Што ж да будаўніцтва кааператыўнага пісьменніцкага гаража, то пра гэтую вострую праблему, здаецца, у Літфондзе і прафкоме ўжо і гаварыць не хочуць...

Цэлы комплекс пытанняў звязаны з маральным і матэрыяльным заахвочваннем пісьменніцкай працы. Гэта і магчымасць выдання твораў, і ганарары, і творчыя камадзіроўкі па краіне і за мяжу, і паездкі на розныя літаратурныя святы, юбілеі, і прадстаўленні на розныя прэміі і ўрадавыя ўзнагароды... Рэвізійная камісія, відаць, ад таго часу, ад якога існуе Саюз пісьменнікаў, канстатуе: парушаецца сацыяльная справядлівасць пры выданні твораў пісьменнікаў. Адны (звычайна, тыя, што пры ўладзе і пры званнях) выдаюцца і перавыдаюцца штогод, другім (найперш маладым), каб выдаць хоць бы танюсенькую кніжачку, трэба чакаць гадамі... Часта пра гэта гавораць у СП БССР пры абмеркаванні перспектыўных планаў выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». Гавораць і пра рускамоўныя шматтыражныя кнігі, т. зв. макулатурныя і звычайныя, якія пажыраюць ільвіную долю паперы, загружаюць *паліграфічныя магутнасці*, адсоўваюць убок беларускія малатыражныя (нават вострадэфіцытныя, юбілейныя) выданні.

Калі б у нас было ўласнае пісьменніцкае выдавецтва, пра што ўжо неаднаразова гаварылася з самых розных трыбун, але што да гэтага часу не вырашаецца, праблема адчужэння пісьменніка ад яго твора страціла б крыху сваю вастрыню. Ва ўсякім разе, пісьменнікі самі маглі б вырашаць, што, каго і калі выдаваць, якім тыражом, колькі плаціць і г. д.

*Дарэчы*, пры цяперашняй гаспадарчай самастойнасці прадпрыемстваў можна было б уплываць і на цану кніжных выданняў, якая за апошнія гады неймаверна вырасла. Цяперашнія цэны на беларускія кнігі, што выходзяць у «Мастацкай літаратуры», не толькі не заахвочваюць пакупнікоў набыць выданне, а, наадварот, адпалохваюць іх. Пры нашай моўнай сітуацыі варта было б цэны на беларускія кнігі некалькі знізіць у параўнанні з аналагічнымі рускамоўнымі выданнямі. Толькі тады можна было б дасягнуць фактычнай роўнасці ў прапагандзе мастацкай літаратуры на беларускай і рускай мовах.

Мы гаварылі пра адсутнасць неабходнай самастойнасці рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Гэта перш за ўсё адбіваецца на розных творчых паездках пісьменнікаў па краіне і асабліва — за мяжу. Гэтымі паездкамі цалкам распараджаецца маскоўская Замежная камісія пры СП СССР; СП БССР толькі рыхтуе дакументы на канкрэтных асоб, якіх гэтая камісія ўключае ў склад нейкай дэлегацыі ці мэтавай групы.

Рэвізійная камісія поўнасцю падтрымлівае той пункт праекта новага Статута СП Беларусі, які юрыдычна зацвярджае наяўнасць у структуры рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі сваёй замежнай камісіі, са сваімі юрыдычнымі і валютнымі магчымасцямі.

У апошні час намаганнямі грамадска-творчых і адміністрацыйных падраздзяленняў СП БССР, а найперш — новага старшыні Бюро прапаганды Генадзя Дзмітрыева, прыкметна ажывілася работа па прапагандзе твораў беларускай мастацкай літаратуры, менш стала фармалізму, ідзе пошук больш трывалых і дзейсных кантактаў з масавай чытацкай аўдыторыяй у рэспубліцы. Тым не менш нашы агульныя намаганні па прапагандзе беларускай літаратуры яшчэ далёка не поўнасцю адпавядаюць тым задачам, якія ставіць жыццё. Творы нават лепшых беларускіх пісьменнікаў яшчэ падоўгу залежваюцца на паліцах кнігарняў і бібліятэк. Застаюцца на тым самым узроўні, а то і падаюць *тыражы некаторых беларускіх кніг*.

Але пытанні прапаганды беларускай літаратуры, асабліва за межамі БССР, вырашыць сіламі аднаго Саюза пісьменнікаў немагчыма. Аднак СП БССР можа і павінен з'явіцца ініцыятарам вырашэння гэтых пытанняў, звярнуўшыся ў адпаведныя інстанцыі. Думаецца, наспеў час выйсці з прапановай у Дзяржкамдрук БССР аб выданні ў рэспубліцы рэкламна-прапагандысцкіх штогоднікаў на рускай і англійскай мовах.

Многія пытанні прапаганды беларускай літаратуры за межамі рэспублікі і іншанацыянальных літаратур у Беларусі магла б вырашыць спецыяльная Калегія па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях. Такія калегіі існуюць сёння ўжо пры саюзах пісьменнікаў сямі савецкіх рэспублік: у Грузіі, Азербайджане, Арменіі, Эстоніі, Літве, Малдавіі і Казахстане — там, дзе пытанні мастацкага перакладу, творчага ўзбагачэння і прапаганды роднай літаратуры ўзняты на дзяржаўны ўзровень.

Па ідэі, Саюз пісьменнікаў — арганізацыя творчая. А раз так, то асноўная яго дзейнасць павінна абапірацца на працу творчых секцый, зыходзіць з іх, абумоўлівацца імі. Аднак за час свайго існавання СП ператвараўся ў такую бюракратычна-ведамасную надбудову, што ўжо і творчага базіса не стала відаць. Ствараецца часам уражанне, што не апарат СП існуе для пісьменнікаў, а пісьменнікі — для свайго апарату. Вядома, творчыя секцыі так ці інакш пакуль што працуюць: і праблемы асобныя вырашаюць, і творы некаторыя абмяркоўваюць, і нават у СП рэкамендуюць... Ды паколькі яны канчаткова, па сутнасці, нічога не вырашаюць, не маюць амаль што ніякай улады, ніякіх правоў, то ў працы секцый удзельнічае ўсё менш і менш пісьменнікаў. Што да тых, хто стаў членам праўлення або, тым больш, выбіўся ў сакратары ці рэдактары — тыя ўвогуле з'яўляюцца на сходы секцыі рады ў гады. Калі б секцыі «закрыць», то ў нашым СП, бадай нічога не змянілася б.

Некалькі слоў пра статус рэспубліканскай рэвізійнай камісіі, яе ўзаемаадносін з рэвізійнай камісіяй СП СССР. Трэба адразу сказаць, што статус камісіі пакуль што няпэўны, месца і роля яе нават у праекце новага Статута СП БССР вызначаны, на нашу думку, занадта невыразна і сціпла. Што да сувязей з рэвізійнай камісіяй СП СССР, то такіх сувязей пакуль што ўвогуле не назіраецца. Ніякай метадычнай або якой іншай дапамогі нам яна за справаздачны перыяд не аказвала, на свае пасяджэнні ні разу не запрашала.

Старшыні рэспубліканскіх рэвізійных камісій павінны ўваходзіць у склад рэвізійнай камісіі СП СССР на правах намеснікаў старшыні гэтай камісіі ці, прынамсі, звычайных яе членаў. Гэта ж усяго пятнаццаць чалавек з нейкіх 130-ці яе *членаў*. Тады можна было б каардынаваць працу ўсіх рэспубліканскіх рэвізійных камісій паміж сабою, з аднаго боку, і кожнай рэспубліканскай камісіі з цэнтрам — з другога. А гэта ж не толькі своечасовасць, сістэмнасць і аб'ектыўнасць розных праверак, але і абмен вопытам, творчая вучоба, узаемадапамога і ўзаемавыручка.

Увогуле, трэба было б распрацаваць і зацвердзіць ужо на сёлетнім з'ездзе пісьменнікаў СССР спецыяльнае палажэнне пра рэвізійную камісію СП СССР і рэспубліканскіх пісьменніцкіх арганізацый, дзе ўсе гэтыя і іншыя пытанні ўлічыць і заканадаўча замацаваць.

## Мандатная камісія з'езда

**Святлана АЛЕКСІЕВІЧ**
**Раіса БАРАВІКОВА**
**Генадзь БУБНАЎ**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ**
**Міхась ГЕРЧЫК**
**Ніна ЗАГОРСКАЯ**
**Сяргей КАВАЛЁЎ**
**Анатоль КАЗЛОВІЧ**
**Ала КАНАПЕЛЬКА**
**Яўген КАРШУКОЎ**
**Міхась КАЦЮШЭНКА**
**Яўген ЛЕЦКА**
**Уладзімір МАРУК**
**Уладзіслаў РУБАНАЎ**
**Алег САЛТУК**
**Давід СІМАНОВІЧ**
**Браніслаў СПРЫНЧАН**
**Анатоль СЫС**
**Віктар ШНІП**
**Павел ШРУБ**
**Алесь РАЗАНАЎ**
**Анатоль СУЛЬЯНАЎ**
**Любоў ТАРАСЮК**
**Кастусь ЦВІРКА**
**Васіль ЯКАВЕНКА**
**Віктар ЯРАЦ**

## Рэдакцыйная камісія з'езда

**Алесь БАЖКО**
**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА**
**Дзмітрый БУГАЁЎ**
**Мікола ГІЛЬ**
**Леанід ДАЙНЕКА**
**Зінаіда ДУДЗЮК**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Мікола КУСЯНКОЎ**
**Арсень ЛІС**
**Георгій МАРЧУК**
**Уладзімір МАШКОЎ**
**Уладзімір ПАЎЛАЎ**
**Мікола ПРАКАПОВІЧ**

## Камісія па выпрацоўцы рэзалюцыі з'езда

**Уладзімір АРЛОЎ**
**Янка БРЫЛЬ**
**Васіль БЫКАЎ**
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**
**Ніл ГІЛЕВІЧ**
**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**
**Леанід ДАЙНЕКА**
**Генрых ДАЛІДОВІЧ**
**Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ**
**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**
**Алесь ЖУК**
**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**
**Віктар КАВАЛЕНКА**
**Уладзімір КАЛЕСНІК**
**Аркадзь КАНДРУСЕВІЧ**
**Віктар КАРАМАЗАЎ**
**Анатоль КУДРАВЕЦ**
**Хрысціна ЛЯЛЬКО**
**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ**
**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**
**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**
**Барыс САЧАНКА**
**Віктар СУПРУНЧУК**
**Тамара ЧАБАН**
**Таццяна ШАМЯКІНА**
**Мікола ЯНЧАНКА**
**Алесь ЯСКЕВІЧ**




### Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## *ПАД ЗНАКАМ БЯДЫ*

Васілю Быкаву

Была прад намі шыр зямлі
З яе палямі і лясамі,
Ды выбіраць мы не маглі
На ёй для боя месца самі.

Артполк ствапамі пратрубіў,
Загад кароткі быў і строгі,
Каб ты адвагі не згубіў,
Не збочыў са сваёй дарогі.

Ты ад званка і да званка
Пад грому страшнага раскаты
За камандзіра і стралка
Каля сваёй стаяў гарматы.

Усюды чуў ты матчын плач,
Што, як пажоўклы ліст бярозы,
Ад Сталінграда да Ушач
Па ўсіх краях разносіў *слёзы*.

І на акопных рубяжах
Для нас была адна сістэма,
Якую несла па франтах
Пра Васю Цёркіна паэма.

Мы ажыўлялі з ёй тады
Свае кароткія прывалы:
«Здаюць салдаты гарады,
Назад бяруць іх генералы...»

Салдатам ты адчуў сябе
Яшчэ пад зоркай навабранца,
Калі ў трывозе і журбе
Сам пачынаў за зброю брацца.

А потым быў сярод сяброў,
На смерць засыпаных зямлёю.
*Яны ўліліся ў шум бароў*,
Вятроў і рэк сваёй крывёю.

Ці ж лёгка там было ляжаць
У непрытомнасці ад *раны*?
І нехта мусіў напісаць,
Што ўзводны Быкаў... пахаваны.

Галінкі дрэў сярод вайны
Тваю аплаквалі заранку,
А ў роднай хаце ля Дзвіны
Чытала маці пахаванку...

Абняць гатоў быў цэлы свет,
Каб выпаўзці з смяротнай стомы
І не застацца ў цвеце лет
Пад цьмянай шыльдай —
Н е в я д о м ы.

Ад той шалёнае вайны
Шмат нацярпелася зямля ўся.
І ў тым няма тваёй віны,
Што ад палка адзін застаўся.

Цябе глытком жывой вады
З нябыту вера ўваскрашала.
Пад знакам горкае бяды
Ты наступіў на смерці джала...

Не ведаю, ці ёсць той Бог,
Што на зямлю спускаўся з неба,
*Калі ж табе ён дапамог*,
То за яго маліцца трэба,

Бо не замёў зімы сувой
Тваіх слядоў, цябе самога.
І дух байцоўскі ўзняўся твой
Вышэй таго, магчыма, Бога...

Мінула шмат трывожных дат.
Былі ў нас спёкі і адлігі.
На вышыню, што браў салдат,
Змаглі твае прабіцца кнігі.

Ад іх павеяў подых дзён,
Агнём прастрэляных, крывавых.
І стаў яскравей нам відзён
Рубеж апошняй пераправы.

Дык хай жа ліст календара
У хвіліны радасці, натхнення
Чырвонай фарбаю зара
Твае пазначыць нараджэнне!

# *Выбарчы клуб «ЛіМа»*

# ЗМАГАЦЦА ЗА ПРАЎДУ

**Кандыдатам у народныя дэпутаты БССР па Сляпянскай выбарчай акрузе № 26 г. Мінска вылучаны старшы рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя» Віктар СУПРУНЧУК**

**Біяграфія.** Віктар Супрунчук нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна. *Вучыўся, як і ўсе, але да працы* далучыўся рана. Спачатку працаваў грузчыкам, затым паступіў у Белаазёрскае гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча электратэхнікі. Быў прызваны ў Савецкую Армію. Да выбранай прафесіі вярнуўся толькі пасля звальнення ў запас. Электрамантажнік, электразваршчык — спецыяльнасці так патрэбныя на вёсцы, таму без занятку не застаўся. Праўда, увесь час юнака не пакідала мара, у якой не кожнаму прызнаваўся. Першым крокам да ажыццяўлення яе стала паступленне на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Наступныя — звязаны з авалодваннем журналісцкай прафесіяй. Пачынаў у заводскай шматтыражцы, перайшоў у «Сельскую газету». Працаваў у літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання. Цяпер старшы рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя».

**Творчасць.** Першыя допісы В. Супрунчука з'явіліся на старонках бярозаўскай раённай газеты «Маяк коммунизма». Потым працаваў у «Сельской газете». Пасада В. Супрунчуку дасталася турботная, пастаянна даводзілася выязджаць у камандзіроўкі. Ды не ў тыя, калі неабходна расказаць пра якога-небудзь перадавіка ці паспяховае завяршэнне чарговай сельскагаспадарчай кампаніі. Паездкі гэтыя, як правіла, падказваліся лістамі чытачоў. За месяц набіралася па некалькі камандзіровак. Там бабулька скардзілася, што своечасова не адрамантавалі хату. У другім пісьме ветэран вайны абураўся хамствам мясцовага кіраўніцтва. Бывала, што і старшыня калгаса шукаў управу на сакратара райкома партыі.

Ва ўсім гэтым неабходна было *дэталёва разабрацца, пра* ўсё прынцыпова расказаць. Ды не трэба забываць, што гэта былі, як мы цяпер кажам, застойныя гады. Крытыкі не любілі, крытыку не падтрымлівалі. Колькі нерваў папсаваў В. Супрунчук, адстойваючы праўду, колькі зласліўцаў нажыў! Ды ад свайго не адступаў...

Паездкі ў камандзіроўкі, найчасцей у саму глыбінку, давалі *і такія назіранні*, што заставаліся, як кажуць, па-за межамі артыкулаў «на тэмы маралі». Да ўсяго засталіся яшчэ ўражанні юнацтва, тое, што памяць назапасіла, калі быў мантажнікам і электразваршчыкам. Яны і падказалі В. Супрунчуку тэмы апавяданняў, лепшыя з якіх неўзабаве ўвайшлі ў першую кнігу маладога празаіка «Страсці», якая пабачыла свет у 1982 годзе.

Чарговыя кнігі — зборнік аповесцяў і апавяданняў «Недзе баліць ля сэрца» (1986) і раман «Жывеш толькі раз» (1988) — пацвердзілі, што В. Супрунчуку найбольш удаюцца вобразы персанажаў, якія цвёрда адстойваюць праўду, жывуць не так, як усе. Асабліва пераканаўчым атрымаўся Патоліч — галоўны герой рамана «Жывеш толькі раз». Менавіта Патоліч і яму падобныя сваімі паўсядзённымі справамі набліжалі перабудову.

Маланкава хутка знікла з кіёскаў «Саюздруку» кніжка «Бібліятэкі часопіса «Маладосць», у якой была змешчана аповесць В. Супрунчука «Банальны дэтэктыў». Аўтар паспрабаваў свае творчыя мажлівасці ў прыгодніцкім жанры і паспяхова справіўся з пастаўленай задачай.

Дарэчы, і новая кніга пісьменніка «З плоці і крыві», якая ў наступным годзе выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», спалучае ў сабе вастрыню сюжэта і дакладнасць псіхалагічных матывіровак у паводзінах персанажаў. З героем «Банальнага дэтэктыву» капітанам Ярусем чытач зноў сустрэнецца ў аповесці «Капітан і злачынцы». У дэтэктыўным жанры напісаны і раман «З плоці і крыві», у якім гаворка ідзе аб наспелых, яшчэ з застойных часоў, праблемах у рабоце органаў унутраных спраў.

**Перадвыбарчая платформа.** В. Супрунчук выступае за кансалідацыю ўсіх сіл грамадства. Гэтаму, на яго думку, будзе садзейнічаць афіцыйнае прызнанне і рэгістрацыя Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

Кандыдат у дэпутаты пераканаы, што трэба дамагацца справядлівага размеркавання ўсіх прадуктаў і тавараў. Найпершую ўвагу, мяркуе ён, неабходна звярнуць на тыя з іх, якія выпрабляюцца на тэрыторы рэспублікі. Тым больш, што ў гэтых адносінах склалася дзіўнае становішча. Скажам, амаль усе беларускія халадзільнікі ідуць за межы Беларусі, гэткае ж становішча і з каляровымі тэлевізарамі «Гарызонт». Ненармальна, што лепшая частка прадукцыі жывёлагадоўлі вывозіцца з рэспублікі.

В. Супрунчук за тое, каб цалкам і назаўсёды была спынена любая гаспадарчая дзейнасць у *раёнах, якія пацярпелі ад* чарнобыльскай катастрофы. Вызваленыя плошчы, лічыць ён, неабходна засяваць травамі, каб *вецер не разносіў глебу, а з ёй* і радыяцыю. Ён гатовы дамагацца, каб гараджане, якія жывуць у так званым прыватным сектары, мелі права карыстацца прысядзібнымі ўчасткамі.

В. Супрунчук упэўнены, што толькі адстойваючы інтарэсы рэспублікі перад Саюзам, лічачы іх прыярытэтнымі, можна дабіцца роскввіту нацыі, сапраўднага нацыянальнага адраджэння, усталявання правоў чалавека.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# ЗАХАВАЦЬ НАЦЫЮ

**З перадвыбарчай платформы кандыдата ў народныя дэпутаты БССР па Сенніцкай выбарчай акрузе № 72 Мінскага раёна пісьменніка Васіля ЯКАВЕНКІ**

Калі мне давядзецца стаць членам беларускага парламента, пастараюся, сярод іншага, змагацца за

— дзяржаўную (у складзе СССР) суверэннасць Беларусі, *стварэнне новай Канстытуцыі* БССР, якая б адпавядала статусу суверэннай дзяржавы і на справе гарантавала правы і свабоды грамадзян;

— ліквідацыю дыктату партакратыі, двайной сістэмы кіраўніцтва народнай гаспадаркай; выбранне ўрада, які б абараняў інтарэсы народа, а не «Цэнтра» і клана людзей, маючых уладу;

— прыярытэт пытанняў экалагічнай бяспекі насельніцтва ў дзяржаўнай палітыцы;

— прынящце законаў па радыяцыйнай бяспецы насельніцтва рэспублікі, прыцягненне да строгай адказнасці асоб, вінаватых ва ўтойванні і свядомым скажэнні інфармацыі аб памерах чарнобыльскай катастрофы, штучным стрымліванні адсялення насельніцтва з раёнаў, забруджаных радыенуклідамі;

— развіццё вёскі, перадачу сялянам права валодання зямлёй, развіццё альтэрнатыўных форм уласнасці і вытворчых адносін;

— павышэнне ролі сям'і, для чаго, у першую чаргу, аблегчыць жыццё нашых жанчын, вызваліўшы іх ад начных змен і цяжкай фізічнай працы, аплачваючы догляд малых дзяцей;

— свабоднае развіццё навукі, пазбавіўшы яе бюракратычных путаў;

— абарону ад далейшага заняпаду, дэградацыі, духоўнага і *фізічнага вымірання беларускай нацыі*.

# ЗАКОН, ЯК ДЫШАЛЬ?

**Выбары на Беларусі, падобна, доўга будуць прыцягваць увагу грамадскасці. Яны, між іншым, выявілі неабходнасць змен у выбарчым заканадаўстве. Патрэбна разабрацца з многімі выпадкамі, мякка кажучы, некарэктнай агітацыі «груп супрацоўнікаў», «клубаў выбаршчыкаў» і іншых, якія часам нават не пажадалі сябе назваць, пускаючы ў свет паклёпніцкія лістоўкі.**

**Да паўторных выбараў прычыніліся ўжо і некаторыя навабраныя народныя дэпутаты Мінскага гарадскога савета народных дэпутатаў, аб'яднаныя супольнай платформай «Дэмакратычная плынь». На адным з пасяджэнняў дэпутацкай групы ў сувязі са зваротамі грамадзян, якія палічылі неправамоцнымі адмовы акруговых і Мінскай тэрытарыяльнай камісій у рэгістрацыі кандыдатаў у народныя дэпутаты, было вырашана стварыць часовую камісію, якая б *занялася высвятленнем акалічнасцяў справы*.**

**Прааналізаваўшы заявы грамадзян, народныя дэпутаты Мінгарсавета прыйшлі да высновы што найбольш часта адмова ў рэгістрацыі абгрунтоўваецца артыкулам 33 Закона Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Беларускай ССР», дзе запісана: «Кандыдатамі ў народныя дэпутаты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў вылучаюцца, як *правіла, грамадзяне, якія працуюць або пражываюць на тэрыторыі адпаведнай акругі»*. Такім чынам, фраза «як правіла», не з'яўляючыся юрыдычным тэрмінам, бярэцца членамі выбарчых камісій для скасавання і канстытуцыйнай дэкларацыі, і артыкула 2 згаданага Закона, якія абвяшчаюць усеагульнае выбарчае права грамадзян. У другім артыкуле Закона аб выбарах запісана, што ні час пражывання ў дадзенай мясцовасці, ні род і характар заняткаў разам з іншымі прычынамі не могуць быць падставаю прамога або ўскоснага абмежавання выбарчых правоў грамадзян Беларускай ССР. «Як правіла», што прызнаюць і юрысты, носіць толькі рэкамендацыйны характар. Прымяненне яго ў якасці нарматыўнага тэрміну *супярэчыць* Канстытуцыі БССР і зместу артыкула 2 Закона аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў Беларускай ССР.**

**Другой прычынай адмовы ў рэгістрацыі кандыдатаў у народныя дэпутаты стала своеасаблівае разуменне членамі выбарчых камісій сутнасці паўторных выбараў. Пры адмаўленні грамадзянам у рэгістрацыі звычайна гучыць спасылка на артыкул 33 выбарчага заканадаўства, дзе гаворыцца: «На сходзе (канферэнцыі) вылучаецца *адзін кандыдат у дэпутаты мясцовых Саветаў*». Калі ж арганізацыя або ўстанова ўжо вылучыла ў ходзе агульных выбараў свайго кандыдата і той стаў народным дэпутатам, то яны больш вылучаць нібы і не маюць права. Але ў артыкуле 54 «Паўторныя выбары», на які, дарэчы, акруговыя камісіі чамусьці не спасылаюцца, сказана: «Паўторныя выбары праводзяцца не пазней чым у двухмесячны тэрмін пасля агульных выбараў. Утварэнне выбарчых камісій, рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты і іншыя мерапрыемствы праводзяцца ў парадку, устаноўленым гэтым Законам». Цытаваны артыкул, такім чынам, накіроўвае да артыкула 33. У ім жа, згадаем, запісана: «На сходзе (канферэнцыі)...», але ж не «на сходах (канферэнцыях)». І ні ў адным з артыкулаў ані слова пра немагчымасць вылучэння чарговага кандыдата на паўторных выбарах, калі раней вылучаны кандыдат ужо стаў народным дэпутатам.**

**Менавіта пра ўсё гэта гаварылі народныя дэпутаты Мінгарсавета *на сустрэчы з членамі* Мінскай гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі. Тут патрэбна некаторае тлумачэнне. Атрымаўшы дастаткова вялікую колькасць скаргаў ад незарэгістраваных прэтэндэнтаў на кандыдацтва, дэпутацкая група «Дэмакратычная плынь» вырашыла сустрэцца з Мінгарвыбаркомам. Такая магчымасць прадставілася ў часе семінара, які праводзіўся для дэпутатаў Мінгарвыканкомам 12—13 красавіка. На сустрэчу быў запрошаны старшыня гарадской камісіі А. А. Мількота. *Дадзеная ім інфармацыя* не задаволіла дэпутатаў, і яны выказалі пажаданне сустрэцца з усімі членамі камісіі. Настойваючы на сваім жаданні, народныя дэпутаты Мінгарсавета кіраваліся артыкулам 25 Закона Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік «Аб статусе народных дэпутатаў у СССР», дзе, ў прыватнасці, сказана, што «дэпутат як прадстаўнік дзяржаўнай улады, мае права на месцы запатрабаваць спынення парушэння, а ў неабходных выпадках звярнуцца з патрабаваннем да адпаведных органаў і службовых асоб перапыніць такія парушэнні». А «службовыя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў, а таксама ж работнікі міліцыі, да якіх скіравана патрабаванне дэпутата, абавязаны неадкладна прыняць меры для выпраўлення парушэння...»**

**Дэпутатаў Мінгарсавета найперш *здзівіла, што, як сказаў* А. Мількота, Мінгарвыбарком запрасіў на сваё пасяджэнне і народных дэпутатаў гарадскога Савета. Як памятаем, менавіта яны і былі ініцыятарамі гэтай сустрэчы. Выказаная дэпутатамі нязгода з некаторымі рашэннямі выбарчых камісій, абгрунтаваная вышэй прыведзенымі развагамі адносна прымянення артыкулаў 33 і 54 Закона аб выбарах, была адведзена спасылкамі на растлумачэнні выбарчага заканадаўства Цэнтральнай выбарчай камісіі. Але і ў гэтай брашуры, са зместам якой, дарэчы, знаёмы найперш члены камісій ды, хіба, найбольш настойлівыя дэпутаты, няма тых адзіна вызначаных фармулёвак *па прымяненні рэспубліканскага* выбарчага заканадаўства.**

**Дыскусія цягнулася больш дзвюх гадзін. У ходзе яе, калі сітуацыя паварочвалася не на карысць гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі, А. Мількота колькі разоў «абсаджваў» неўтаймоўных дэпутатаў іх «гасцявым статусам» у сценах будынка Мінгарвыканкома: тут, маўляў, пасяджэнне камісіі, і вы сюды ўсяго толькі запрошаны.**

**І яшчэ адна інфармацыя, якая прагучала ў ходзе сустрэчы. Яна змушае задумацца аб характары беларускіх Законаў аб выбарах, а найперш — аб дзейнасці Мінгарвыбаркома. У ходзе ранейшых агульных выбараў было вылучана звыш 1500 кандыдатаў у народныя дэпутаты Мінгарсавета. Камісія, пра што сказаў А. Мількота, не ў стане была пракантраляваць слушнасць усіх вылучэнняў і часта *«як правіла»* не бралася пад увагу. Аўтар гэтых радкоў, дарэчы, У адзін са студзеньскіх дзён правёў блізка гадзіну разам з другім сябрам Мінскай гарадской рады ТБМ у Мінвыбаркоме, дзе звышпільны юрыст вычытваў літаральна кожнае слова ў пратаколе сходу рады па вылучэнні кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР і мясцовых Саветаў. *Вось вам і не ў стане была пра*кантраляваць! «Як правіла» тады асабліва пад увагу, памятаецца, не бралася. На паўторных выбарах, працягваў Аляксандр Аляксандравіч, вылучэнцаў амаль у тры разы менш і ёсць магчымасць пракантраляваць кожнага з іх. Але як растлумачыць такія адхіленні ў дзейнасці камісіі грамадзянам, якія, нягледзячы на «як правіла», усё ж былі зарэгістраваны перад 4 сакавіка і не дабралі на выбарах літаральна некалькіх галасоў, а зараз ужо ім адмаўляецца ў *рэгістрацыі па той жа акрузе*?!**

**І. ЧАРНЯЎСКІ,
народны дэпутат
Мінгарсавета.**

# І ў лёсе шмат агульнага...

**Пра нядаўна выдадзены «Мастацкай літаратурай» анталагічны зборнік «Сербская паэзія» вядуць размову адзін з яго стваральнікаў Івана ЧАРОТА і наш госць з Югаславіі, пісьменнік, журналіст, перакладчык, а з верасня 1989 года выкладчык сербскай мовы на філфаку БДУ Томіслаў ШЫПАВАЦ.**

**Іван ЧАРОТА.** Ведаю вас як дасведчанага і крытычнага прафесіянала, ды яшчэ і нераўнадушнага да нацыянальных праблем, у тым ліку да складанага апошнім часам сербскага пытання. Так што можаце, не баючыся, выказваць свае заўвагі. У любым выпадку і тым, хто працаваў над кнігаю, і, хочацца верыць, чытачам будзе не без карысці прыслухацца да голасу «з таго боку».

**Томіслаў ШЫПАВАЦ.** Акрамя нас, суразмоўнікаў, пакуль ніхто не выказваецца... Таму я магу без комплексаў успрымаць патрабаванні і свае задачы і пастараюся шчыра выказаць усё, што думаю. Натуральна, буду імкнуцца да аб'ектыўнасці і не буду прэтэндаваць на ролю вярхоўнага суддзі.

**І. Ч.** Якія ўяўленні вы мелі пра Беларусь, нашу гісторыю, культуру, літаратуру да таго, як прыехалі сюды?

**Т. Ш.** Прапанова без падвоху? Бо калі так, то я павінен падзяліцца і ўражаннямі пра тое, як доўга і складана мне тут даводзіцца тлумачыць, што харваты — гэта не сербы, а славенцы — не тыя і не другія. Увесь замежны свет, за выключэннем спецыялістаў, глядзеў на вашу краіну да апошняга часу агулам і называў Расіяй не толькі Малую ці Белую Русь, але і ўсё астатняе. У нас таксама бачанне пераважна інтэграванае — думаю, што на гэта меліся і дагэтуль маюцца падставы... Прыехаўшы ў Мінск, працуючы не абы-дзе, а ў беларускай навучальнай установе, я не шмат бачыў, а тым болей чуў адметнага ад таго, што вядома па Маскве, Ленінграду... Беларускую мову чую хіба толькі ў Саюзе пісьменнікаў ды час ад часу на факультэце, а так і кніг большасць рускіх, канцэртныя праграмы, фільмы, спектаклі таксама. З другога боку, як больш-менш дасведчаны гуманітарый, я асабіста разумеў і разумею, што беларусы — нацыя са сваёй гісторыяй, сваёй культурай, сваімі нацыянальнымі традыцыямі і перспектывамі. Дарэчы, беларусаў прыблізна гэтулькі сама, як і сербаў. І ў лёсах нашых народаў шмат агульнага. Ды вось так сталася, што за іншымі справамі нам не было калі клапаціцца аб узаемным збліжэнні, культурным супрацоўніцтве. У гэтым плане амаль нічога няма...

**І. Ч.** Павінен удакладніць: не ўсё так ужо «пуста», як можа здацца з першага погляду. Я займаюся праблемай беларуска-югаслаўскіх кантактаў немалы час і мог бы прывесці прыклады вельмі цікавых, істотных кантактаў розных часоў. Іншая справа, што нашыя сувязі не мелі сістэматычнасці, пакуль што не даследаваліся і слаба стымулююцца—асабліва ў апошні час. Хоць — зноў-такі без задніх думак — дазволю сабе падкрэсліць, што ў нашым універсітэце каля дваццаці гадоў выкладаецца сербска-харвацкая мова, а ў апошнія гады і славенская, і македонская, у той час калі ніводзін універсітэт СФРЮ беларусістыкі не мае. Праўда, пакуль што гэта яшчэ не ўратоўвае ад вамі згаданага абагуленага бачання Югаславіі, неадрозніваня сербаў ад харватаў і славенцаў і нават філолагамі ўжывання дэфініцыі «югаслаўская літаратура», не кажучы ўжо пра драбнейшае...

Дык вось, зыходзячы з усяго намі зараз акрэсленага, мы і лічылі патрэбным даць шырокаму колу аматараў літаратуры ўяўленне аб сербскай паэзіі апошняга часу, таму і з'явілася выданне, пра якое мы з вамі сабраліся пагутарыць.

**Т. Ш.** Не зусім карэктна, мабыць, адразу рабіць закіды, але ж не ўтрымаюся ад пытання: «Якую сербскую паэзію вы хацелі адлюстраваць менавіта такім выбарам?» Удакладняю, што маецца на ўвазе: храналагічныя вехі не агавораны; прынцыпы адбору аўтараў і твораў таксама.

**І. Ч.** Даруйце, у анатацыі запісана абсалютна канкрэтна: 1945—1985 гады. Ну, а прынцыпы дакляраваць абстрактна ці ёсць сэнс?

**Т. Ш.** У мяне, між іншым, выклікае сумненне правамернасць вылучэння, акцэнтавання 1945 года, і не з палітычнага, а з гісторыка - літаратурнага пункту гледжання. Ці не лепш, напрыклад, узяць проста тых паэтаў, якія жывуць, альбо тых, якія пісалі толькі ў пасляваенны час? А яшчэ лепш — даць анталогію нацыянальнай паэзіі ад пачатку і да сённяшніх дзён.

**І. Ч.** Відаць, нам не абысціся без некаторых звестак прадгісторыі выдання. Яго ініцыятарам выступіў бялградскі пісьменнік і выдавец Момчыла Джэркавіч, які звярнуўся да Саюза пісьменнікаў рэспублікі і выдавецтва «Мастацкая літаратура» з прапановаю падрыхтаваць анталогію сербскай паэзіі і анталогію беларускай паэзіі, так сказаць, на двухбаковых і парытэтных пачатках. Ідэя была ўхвалена, падтрымана, і дасягнута дамоўленасць, што кнігі выйдуць у нас і ў вас адначасова. Пасля гэтага мы атрымалі матэрыялы, падрыхтаванчя М. Джэркавічам, з якіх потым рабіўся выбар. І вось гэтыя матэрыялы вызначалі рамкі 1945—85. Са свайго боку, мы рыхтавалі панараму беларускай паэзіі ўсяго XX стагоддзя. Ну, а які вынік, будзем глядзець разам.

**Т. Ш.** Што ж, у любым выпадку і пры любой задуме вашае выданне мае сэнс і значнасць. А тым болей, што ўдалося пазнаёміць сваіх чытачоў з больш як шасцю дзесяткамі майстроў паэтычнага слова, прычым прадстаўнікоў розных накірункаў, школ, стыляў, манераў пісьма. Тут, як кажуць, колькасць сама па сабе надае якасці. І ў гэтым плане наўрад ці правамерны нейкія прэтэнзіі. Нельга не заўважыць таксама, што вы бралі ў асноўным вядомыя творы альбо творы вядомых аўтараў. Прызнаю, што большасць імёнаў, уключаных вамі ў зборнік, заслугоўваюць вялікай увагі. Адвольнасці, якая б прымушала крычаць «гвалт!», здаецца, няма. Ды пры ўсім гэтым некаторыя пытанні ў мяне застаюцца-такі.

Я ўсё роўна трымаюся думкі, што цяжка скласці поўнае ўяўленне пра сербскую паэзію, адсякаючы апошнія чатыры дзесяцігоддзі ад папярэдняга перыяду, ад нашага мадэрна з такімі велічынямі, як Е. Дучыч, М. Ракіч, У. Петкавіч-Дзіс, А. Шанціч, Р. Драінац, Д. Васілеў, а таксама і ад рамантыкаў высокага палёту яшчэ ранейшага часу — Б. Радзічавіч, Е. Евановіч-Змай...

**І. Ч.** Згаджаюся, што названыя вамі перыяды былі важныя, велічыні ў паэзіі значныя, аднак, тады і пра эпас, сусветна славуты, трэба было клапаціцца, імкнуцца ахапіць неахопнае.

**Т. Ш.** Яно зразумела, ды ўсё ж шкада, што адасабляюцца творцы, якія былі сучаснікамі і паплечнікамі тых, якіх вы адрэкамендавалі сваім чытачам.

Вось, напрыклад, ваша анталогія пачынаецца з Іва Андрыча. Вядома, Нобелеўскі лаўрэат, сапраўды гігант нашай літаратуры. Але ж ён атрымаў тэкое прызнанне за прозу, вершаў ім напісана не так і многа, асабліва ў пасляваенныя гады. Разам з тым вы праігнаравалі М. Црнянскага, творчасць якога таксама прыпадае на адпаведны вашай канцэпцыі перыяд. Не зусім адназначна выглядае таксама зварот да спадчыны П. Петравіча, які памёр у канцы 40-х гадоў і ў апошні час пісаў мала.

Другі аспект — адкуль вы бралі надзейныя крытэрыі, каб вызначыць, хто павінен быць залічаны ў сербскія песняры з літаратараў, якія жывуць па-за межамі Рэспублікі Сербіі?

**І. Ч.** У такіх выпадках можа дзейнічаць пэўны комплекс крытэрыяў, сярод якіх галоўныя — мова, грамадзянства, генетычная нацыянальнасць пісьменніка, ягонае самавызначэнне, прызнаны і замацаваны навукова-крытычнай думкай статус... На што мы маглі абаперціся ў дадзеным выпадку? Мовай сербска-харвацкай карыстаюцца народы чатырох рэспублік; грамадзянства рэспубліканскага няма, а міграцыі, як і ўсюды, значныя, прычым да сталіцы ўсёй федэрацыі прыцягненне найбольшае, а яна, Бялград—сталіца якраз Сербіі; самавызначэнне—асабліва ў пытаннях «сербскі ці чарнагорскі», «баснійскі ці сербскі», «ваяводзінскі ці сербскі» часам мяняецца, залежыць ад агульнапалітычнага клімату; нацыянальнасць раней у вас фіксавалася нам нязвыкла і не зусім зразумела — з аднаго боку, можна было запісацца «югаславен», г. зн. па федэратыўнаму грамадзянству, а з другога, існавала як азначэнне нацыянальнасці «мусліман», утворанае канфесійнай прыкметай; меркаванні навукоўцаў і крытыкаў таксама не заставаліся адназначнымі і аднадушнымі — зацвярджаліся канцэпцыі, паводле якіх самастойнымі з'яўляюцца літаратуры Чарнагорыі, Ваяводзіны, не кажу ўжо пра Боснію і Герцагавіну... Такім чынам, мы непазбежна ставіліся ў сітуацыю, калі і прадбачыш закіды з розных бакоў, ды не можаш пазбегнуць запраграмаваных самім матэрыялам супярэчлівасцей. Справа складаная.

**Т. Ш.** А я і не сцвярджаў, што простая. Толькі выконваць яе ўсё роўна давялося. І веру, што вы шукалі ўраўнаважаную пазіцыю — так ці інакш відаць, што бралі ў разлік шырокі кантэкст. Аднак выйшла тым не меней засяроджанасць на Бялградскім коле паэтаў, натуральна, лепш за ўсё вядомым укладальнікам. З гэтага кола адсутнічае, праўда, Гойка Джога, на мой погляд, не менш значны за некаторых вамі ўключаных. Калі ж браць Ваяводзіну, дык чамусьці ў анталогію папаў толькі М. Анціч, хоць ён там не адзіны прыкметны. Мой родны край, Боснія і Герцагавіна, паверце, мае значна больш цікавых майстроў паэтычнага слова, чым вы паказалі. А тыя, на каго вамі звернута ўвага, памойму, не могуць успрымацца адназначна. Скажам, В. Мілошавіч, які жыве ў Сараеве, наўрад ці дае ўяўленне пра адпаведную генерацыю паэтаў з Босніі і Герцагавіны. Старэйшае пакаленне ў вас прадстаўлена С. Куленавічам, а ён, наколькі мне вядома, сам сябе ніколі не называў пісьменнікам сербскім. З малодшых выбраны Р. Петраў-Нога — той, які жыве ў Бялградзе.

**І. Ч.** Бадай, вы маеце рацыю, калі звяртаеце ўвагу на, так бы мовіць, ацэнтрысцкі падыход. Аднак ён у тым ці іншым выглядзе непазбежны, паколькі Бялград — і цэнтр метраполіі, і буйнейшы асяродак літаратурнага жыцця, і той пункт, з якога найбольш вядзецца агляд «паэтычнай краіны» крытыкамі ды літаратуразнаўцамі. Дарэчы, мы неаднаразова кансультаваліся з дасведчанымі спецыялістамі, улічвалі назапашаны ў вашай краіне вопыт падрыхтоўкі аналагічных выданняў.

**Т. Ш.** Не лішне, думаю, спыніцца вось на якой акалічнасці: у вашай анталогіі ёсць імёны, прадстаўленыя ці не залішне вялікай колькасцю вершаў, а пры гэтым не заўважаецца імкненне паказаць іх у разнастайнасці, шматграннасці. Я маю на ўвазе нізкі Д. Максімавіч, О. Давіча, В. Попы і некаторых іншых. Вы нібыта наўмысна абмяжоўваліся творамі адной кнігі, цыкла, танальнасці. Вельмі шкада, напрыклад, што вы не ўзялі самы славуты верш Дэсанкі — «Крывавую казку». Улічваючы, што змест і дух яго надзвычай блізкі, зразумелы беларусам, бяруся сцвярджаць, што ён быў бы асабліва ўспрыняты. З нейкіх незразумелых мне меркаванняў вы абмінулі славутую «Хану» нядаўна памёршага О. Давіча — на мой погляд, якраз у гэтым творы выявіўся найцікавей. Зноў-такі. С. Вукасаўлевіч атрымаў вядомасць найперш як аўтар паэмы «Кадзіняча», а вашы чытачы пра яе ніякага ўяўлення не атрымліваюць. Акрамя гэтага, што б вы ні казалі, а І. Лаліч пададзены залішне буйным планам, ён усё ж такі не з першарадных песняроў.

**І. Ч.** Не дзеля апраўдання павінен сказаць, што амаль у кожным асобным выпадку нам даводзілася прыкідваць розныя «за» і «супраць». Магу і сам дадаць: па сённяшніх мерках, відаць, Б. Чопіч страчвае сваё колішняе месца, ды гістарызм, аб'ектыўнасць адлюстравання працэсу патрабавалі яго ўключыць, і гэта, пераканаdebe, важна. Да «Крывавай казкі» я стаўлюся гэтаксама, як і вы, яна была перакладзена і ўключана ў зборнік, а потым выпала, як кажуць, па тэхнічных прычынах. А вось «Хана» О. Давіча падалася нам творам, які ў перакладзе страчвае асноўныя вартасці і, на жаль, візітнай карткаю быць не можа.

**Т. Ш.** Мяне, акрамя названага, здзіўляе, што вы мала рупіліся, каб належным чынам увесці ва ўжытак малазнаёмы шырокаму колу матэрыял, каб з'арыентаваць як след у сербскім паэтычным свеце беларусаў. Так, прадмова не выконвае функцыі, якая ёй звычайна адводзіцца, каментарыяў мала, даведкі занадта агульныя... Відаць, у вашай сітуацыі не лішнім было б даць нават аналіз асобных вершаў.

**І. Ч.** Ну, гэта ўжо магчыма пры раскошы. А ў нас абмежаваныя магчымасці...

**Т. Ш.** Дарма вы спасылаецеся на ўмовы. Кніга па вонкавых мерках выйшла неблагая — і афармленне, і папера на вашыя абставіны добрая, і каленкор...

**І. Ч.** За прадмову, шчыра кажучы, мы дзелім адказнасць з калегам Джэркавічам, бо не здолелі выканаць тое, што планавалі. А каментарыі, звесткі пра аўтараў, былі падрыхтаваны не такія. Скарачаліся яны менавіта з прычыны захавання планавага аб'ёму, г. зн. выдавецкіх магчымасцей. Іх можна было цалкам уключыць хіба што за кошт вершаў. Ды так было б, думаю, горш.

А, зрэшты, гэта ўсё ж такі пытанні другарадныя. І мне, і чытачам больш цікава, як вы ацэньваеце якасць перакладаў.

**Т. Ш.** Мабыць, падтрымліваючы размову ў гэтым напрамку, я найбольш рызыкую. Найперш таму, што беларускую мову толькі пачынаю вывучаць, пра ўсе яе магчымасці і тонкасці яшчэ не маю сваіх меркаванняў. Ну, а на падставах таго, што здолеў прачытаць і паслухаць у вашым агучванні, магу адзначыць: шмат якія істотныя асаблівасці стылістыкі і нават фанетыкі ўлоўліваюцца як роўнасці блізказначныя. Цікава было б параўнаць іх з рускімі перакладамі.

**І. Ч.** Усё намі перакладалася без моў-пасрэдніц, з арыгіналаў, прычым толькі малая частка з дапамогаю падрадкоўнікаў, якія таксама з арыгінала рыхтаваў адзін член нашага перакладчыцкага гурту. А што да параўнання, дык у гэтым аспекце рызыкую ўжо я. Аднак дазволю сабе адзначыць, што ўмоўнай, сярэднеперакладчыцкай мовы, якая шкодзіць сучаснаму рускаму перакладу, наш «цэх» яшчэ, дзякуй богу, не выпрацаваў. Акрамя таго, беларуская мова захавала больш натуральнасці, такой неабходнай у дадатак да паэтычнага майстэрства.

**Т. Ш.** У перакладчыцкім актыве ў вас апынуліся — наколькі я разумею, пачынаючы арыентавацца ў беларускім літаратурным асяроддзі,— прызнаныя майстры перакладу і знаўцы калі не сербістыкі, дык славістыкі. Я сам з рускай перакладаў нямала, а тут, на вашу падказку, узяўся за вершы Максіма Багдановіча. Мяне здзівіла, колькі беларускіх слоў падобна да сербскіх, а ў самой паэзіі шмат блізкіх матываў.

**І. Ч.** Вось нам і хочацца, каб сваяцтва, блізкасць, падабенства разам з адметнымі рысамі нашага паэтычнага слова больш пазнавалася вашым народам. Таму чакаем анталогіі «Беларуская паэзія» ў Бялградзе, не можам не радавацца, што да справы ўзаемапазнавання далучаецеся вы. Жадаю вам поспехаў.

**Т. Ш.** Дзякуй, буду старацца. А яшчэ дзякуй усім тым, хто цікавіцца маімі думкамі, і хто прапанаваў і даў магчымасць выказаць іх на старонках «ЛіМа». Каб падагуліць, яшчэ раз падкрэслю: я не прэтэндаваў на ролю вярхоўнага суддзі, зробленае вамі бясспрэчна карысна, і тыя, хто лепш ведае беларускую душу, яе запатрабаванні, мо лепш ацэняць анталогію. Пытайцеся ў чытачоў-беларусаў.






# Баец са «школы баяністаў»

Аляксей Русецкі

**У сярэдзіне мінулага года скончыў паэму, якая называецца «Насустрач лёсу». Яе героям пасля перамогі над гітлераўскай Германіяй давялося ўдзельнічаць у апошніх падзеях Другой сусветнай вайны на Далёкім Усходзе. Прапаную чытачам газеты раздзел з гэтай паэмы.**

**Аўтар.**

Над спакойным гладкім Байкалам
навісь гораў зубчастых і скалаў
на сябе магістраль нанізала.
Змрок, святло, за тунелем—тунель,
побач з коламі круча й мель.
У ружовай далечы ранку
зіхаціць высока слюдой
бераг станцыі з назвай «Слюдзянка...»
— Па адным падыходзь, налятай!
Омуль вялены, омуль смажаны,
пахкі, смачны,
надзейна ўзважаны —
самы раз у дарозе яда!
На сталах залатая прынада
напаказ афіцэрам, салдатам,
тут, як кажуць, па рыбе — цана.
Гоман, смех, ціхі ўскрык:
— Лейтэнант!
Мураўскі... жывы... Як рада...
Праз натоўп насустрач — яна.
Лайтэнант каля «Слаўнага мора»
боль успомніў, а, можа, й сорам?
Ён ляжаў у варонцы, на дне,
смерць наяве была, а ці ў сне?
Ён шаптаў тады ёй праз морак:
— Ну паплач жа хоць ты па мне...
А яна яму штосьці пра раны,
«Пацярпі, мой родны, каханы...»
Сцёрла кроў і зямлю з вачэй
і яго паклала ямчэй.
І пабачыў ён волю боскай,
перад ім — Вера Вітошка.
Перад позіркам мутным яго
Магілёўшчыны іхняй мястэчка,
Слабада і маленства рэчка,
хаты побач — страха са страхой.
Праз гады звёў на фронце іх лёс.
Чулых слоў міласэрнай ласкі
не забыў Іван Мураўскі —
увайшлі ў яго, як гіпноз.

Калі зімнія сціхлі бai,
полк зрадзелы чакаў папаўнення
каля вёскі, ў майскім гаі.
Адбылося чэпэ-здарэнне.
Буданы батарэі,
будан
камандзіра слаўнага ўзвода
ад усіх — на ўзлеску паводдаль,
і туды прыблукала бяда.
Два пракуды — у самаволку...
Дзесьці ў вёсцы прыйшлі на дымок;
самай горкаю самагонкай
частаваў іх ласкавы дзядок.
«Рэквізнулі» па п'янцы пляшкі
і на золку ў будан прыйшлі.
Звар'яцеў лейтэнант Мураўскі:
піў за тых байцоў, чые каскі
дзесь ляжаць на грудках зямлі.
А затым — арышту нары,
пракурорскі грозны запал;
і «ўсцешыў» яго трыбунал
батальёнам
дысцыплінарным.
«Штурмавы», «штрафны» батальён
у армейскім фальклоры тых дзён
зваўся «Школаю баяністаў»,
а з яе, па закону вайны,
пасля штурму выходзіш «па-чыстай»
або мёртвы ці, нават, жывы,
толькі ўжо ў ачышчальнай крыві,
і ў табе — аніякай віны.

Пад Воршай, калі артылерыя
зямлі ўскруціла віры,
паўсталі постаці шэрыя,
пайшлі між азёр на прарыў.
Разбіты акопы, доты,
а з нейкіх сховаў яшчэ
агонь гармат,
кулямётаў
агонь напалам сячэ.
Тут хопіць адной атакі
на ўвесь батальён, яго танкі.
Табе ж аніякай рызыкі:
надзей на лепшае — нуль.
Сыграй, «баяніст» Мураўскі,
ёсць два аўтаматныя дыскі
на сто сорак звонкіх куль.
Грай марш адыходны наскі
чужынцам на гэтым полі.
Віну сваю скінь, сыграй
сваю апошнюю ролю,
каб вызваліць родны край!
Там недзе сястра і маці,
калі ж ты іх бачыў, сніў?
Яшчэ б адзін гэткі націск...
Пяхота ідзе ў прарыў...
А цемра на вочы абвалам...
Слоў міласэрных гіпноз;
яны ўвайшлі трывала
у сэрца, мусіць, як лёс.

Гудзе, грыміць эшалонамі
*сібірская*
магістраль,
трыма-чатырма вагонамі
сплывае Верын шпіталь.
Край тамбура — Вера Вітошка,
у чорным боціку ножка
прайшла на ўзроўні вачэй,
а сэрца смутак пячэ...
Праз суткі Іван Мураўскі
едзе за ёй наўздагон.
Павялі вянкі і краскі,
што ўкінуты ўчора ў вагон.
Апрыкралі нараў дошкі,
маўкліва забіўся ў кут,
прывід Веры Вітошкі —
*шчасце й пекла пакут.*
Ужо дзівак апантаны
ласкавыя словы яе,
што леглі гаюча на раны,
у мроі ўплятае свае.
Але ж у дарозе спатканне
паміж адыходных гудкоў
няпэўным было абяцаннем
сустрэцца калісьці зноў.
Нішто не стала зарукаю
ягонага шчасця,
цяпер
у сценку ён лобам стукае,
каб неяк суняць сябе.
Не будзе таго ніколі,
што зычыць усім маладосць:
на кулі зноў бегчы ў полі...
Роспач, агністая злосць...

Ноч. Колаў бяжыць перастук,
вярэдзіць інакшую рану —
Мураўскаму сніцца Івану
крык маці, надлом яе рук.
Тых дзён самых страшных юнацкіх
нідзе не забудзе ён...
«Тут, мусіць, тады вёз бацьку
закратаваны вагон».
Бухгалтар крухмалзавода
забраны як «вораг народа».
Ён свой гадавы баланс
няўзнак абгарнуў газетай
з вядомым вусатым партрэтам...
Няўцямны жахлівы час!
Ад небяспекі й гора
Іван уцякаў у Данбас
да землякоў-шахцёраў.
Там жыў са страхам і крыўдай,
у ёй і боль і сляза,
што думаў-баяўся адкрыта
тады каму-небудзь сказаць.
А ў сорак першым, увосень,
як іншым, прыйшлося яму
на фронце ў скрусе, трывозе
пытацца — чаму ж, чаму?..
Чаму пад Масквою немцы?
З панішчаных сёл, гарадоў
балючым дакорам у сэрцы
быў *попел гарачы й кроў.*
Чаму ў адбітым на золку
Смаленску —
роскід газет
са слаўнаю назваю «Колокол»
ды здрадніцкі той камітэт?
Дазнаўся, дадумаў тым часам,
далей ідучы праз бai,
чаму знайшліся ў калгасах
для ворагаў халуі.
І гора, зазнанае ўсімі,
якое прыйшло з вайной,
з адным спалучалася імем —
надзея з праклёнам яно.
Калі ж няўхільна дарогі
выводзілі да перамогі —
яму трыбуны, газеты
хвалу не сціхалі пяяць;
і глохла ў псіхозе гэтым
тады да яго непрыязь...
Мураўскі, ўзрушаны, ехаў
і думка была яму ўцехай:
як выйдзе з апошняга бою,
як выжыве смерці назло —
жыццё будзе ўжо не такое,
не можа быць, як было!

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# ВЫХАВАННЕ ГІСТОРЫЯЙ

Пра асноўныя накірункі ў рабоце часопіса «Спадчына» гаварылася летась у ягоным першым, так бы мовіць, заявачным нумары. Гаворыцца пра гэта і ў сёлетнім першым нумары, які нядаўна пабачыў свет. У выступленні галоўнага рэдактара І. Чыгрынава на «круглым стале» часопіса (матэрыялы яго пад назвай «Выхоўваць гісторыяй» падрыхтавала В. Іпатава) думкі аб прызначэнні і задачах выдання канкрэтызуюцца: «...мы і спрабуем паяднаць гісторыкаў і літаратараў. Менавіта таму на ...старонках з'яўляюцца і проза, і артыкулы па гісторыі... Цяпер такі час, калі трэба выхоўваць нацыянальную свядомасць народа, калі трэба разабрацца з гістарычнай спадчынай. Спадзяюся, што наша сумесная праца дасць вынікі, што часопіс паможа ў гэтым».

Сёння выхаванне гісторыяй — гэта найперш вяртанне праўды пра падзеі сівой мінуўшчыны і падзеі параўнальна нядаўнія. А праўда — гэта факты, факты і яшчэ раз факты. На іх надзвычай багаты свежы нумар «Спадчыны». У гэтым сэнсе ён выйграе ў параўнанні, скажам, са згаданым леташнім першым.

Памятаеце, тады была вернута частка публіцыстычнай спадчыны Янкі Купалы, пазначаная паслярэвалюцыйнымі гадамі. Публікацыі папярэднічаў артыкул В. Круталевіча — своеасаблівы «рэдакцыйны» каментарый. Ёсць артыкулы народнага песняра і на гэты раз — «Беларускае войска», «Моладзь ідзе!», «Незалежная дзяржава і яе народы», «Справа беларускага нацыянальнага гімна». Усе яны, дзякуючы Я. Саламевічу, перадрукаваны з газеты «Беларусь» і часопіса «Рунь». Першыя тры датаваны 1919-м, апошні — 1920-ым гадамі. Гэта быў цяжкі і складаны час для Беларусі. Нялёгкія і думкі, якія непакоілі Я. Купалу, прымушалі яго брацца за пяро публіцыста, каб пагаварыць з народам пра самае актуальнае, надзённае.

Але на гэты раз ніякага рэдакцыйнага каментарыя да артыкулаў няма. Ён і не патрэбны. І так відавочна, як пясняр дбаў пра будучыню народа, як хацеў яму шчасця і той сапраўднай дзяржаўнасці, якая ажывіла б нацыянальнае жыццё, дала б права на незалежнасць *не на словах, а на справе*. Купалавы думкі надзвычай сугучныя дню сённяшняму. Напрыклад, у артыкуле «Незалежная дзяржава і яе народы» ён клапоціцца, кажучы цяперашнімі словамі, пра дзяржаву прававую: «У вольнай незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць «ні эліна, ні іудзея». Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны-Беларусі».

Выхаванне гісторыяй — гэта і напамін аб тым, чаго каштаваў нам наш нацыянальны нігілізм, падмацаваны «звышрэвалюцыйнымі» ўказаннямі зверху. «...До основанья, а затем...» называецца артыкул А. Петрашкевіча, але так хочацца паставіць іншае слова: «а зачем?» Чаго толькі не перажыла беларуская зямля: «І зноў падумалася: божа літасцівы, што зрабілі *з намі, што мы зрабілі самі з* сабой, не пакінуўшы ад пяцісотгадовай нашай даўніны, нашай спадчыны ні драбніцы! Амаль нічога з таго, што мог бачыць наш Скарына на сваёй зямлі, мы ўжо ніколі не ўбачым. Адны руіны, адны замчышчы, парослыя бур'янам».

Не сказаць, што звесткі, якія прыводзіць А. Петрашкевіч, новыя. Ды напамін неабходны, каб само веданне стала часцінкай нацыянальнай памяці — балючай, пакутлівай. Трэба ўсё памятаць: добрае і благое. Інакш, хочам таго ці не, а спросцім і гісторыю, створым для яе яшчэ адзін вельмі ж прамы «канал», на «берагах» якога таксама будзем адчуваць сябе няўтульна.

Чарговы нумар «Спадчыны» — гэта і артыкул «Рыжскі мірны дагавор» В. Круталевіча, і ўрывак з новага гістарычнага рамана Л. Дайнекі «Жалезныя жалуды», вершы «Летаргія» І. Багдановіч і «Магіла паэта» Л. Паўлікавай, развагі В. Раніцкага «Ці патрэбны тэатр гістарычнай драмы?» і нататкі Я. Сахуты «Стваралі жаночыя рукі» з яркімі ілюстрацыямі — пра вабнасць беларускага нацыянальнага касцюма...

Дарэчы, пра ілюстрацыі. Мастацкі ўзровень і ўкладкі, і вокладкі высокі, аднак жа... Чамусьці апошнім часам мы захапіліся «прымерваць» старадаўнія строі на досыць вядомых у культурных колах прадстаўнікоў нацыянальнай культуры. І на гэты раз Я. Сахута «апрануў» і музыкантку, і журналістку, і пісьменніцу. Яшчэ далей пайшоў Ф. Янушкевіч, фрагмент з карціны якога «Школяр з Полацка — Францішак Скарына» вынесены на вокладку «Спадчыны». *Ён узяў і намаляваў Скарыну з... самога сябе.*

Ды гэта між іншым.

Цікавы раздзел «Сілуэты продкаў». В. Чаропка («Князь, ваяр, манах») і В. Мялешка з П. Лойкам («Народны герой») падаюць буйным планам постаці сына Міндоўга, выдатнага дзяржаўнага дзеяча, князя навагрудскага і вялікага князя літоўскага Войшалка і аднаго з кіраўнікоў сялянскага паўстання на тэрыторыі Беларусі Васіля Вашчылы.

Адна з прычын папулярнасці «Спадчыны» і ў тым, што часопіс пад рубрыкай «*Помнікі* сусветнай культуры» друкуе «Новы запавет» (пераклад і каментарый А. Клышкі).

Прапануе «Спадчына» чытачам і «Старонкі Полацкага летапісу» (прадмова і пераклад са старажытнарускай В. Чамярыцкага). Запісы 1116—1186 гадоў пра падзеі на полацкай зямлі ўзяты ў асноўным з Кіеўскага летапісу XII стагоддзя. Узяты невыпадкова. Як зазначае В. Чамярыцкі, «па-першае, яны прысвечаны пераважна полацкай гісторыі. Па-другое, як мяркуюць асобныя вучоныя, сярод гэтых запісаў, мажліва, захаваліся сляды згубленага Полацкага летапісу».

*Акрэсліваецца ў часопісе і* раздзел «Сярод кніг». К. Тарасаў дэталёва разбірае зборнік артыкулаў і нарысаў А. Лукашука «Здзек», у якім аўтар выкрывае жудасныя рэпрэсіі ў трыццатыя гады (тэма сталінізму, дарэчы, гучыць у падборцы «Рассакрэчваючы архівы» і ў артыкуле Р. Герасімовіча «Злітуйцеся...»), а І. Сінчук дзеліцца сваімі думкамі пра кнігу І. Спаскага «Рускія яфімкі», выпушчаную Сібірскім аддзяленнем выдавецтва «Наука» (з гісторыі грашовага абарачэння).

На заканчэнне — такі штрых. Тыраж гэтага нумара «Спадчыны» ў параўнанні з папярэднім узрос на паўтары тысячы экземпляраў.

НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.

**Алесь ЗВОНАК**



# ЧАС ДАЎНО ПАТРАБУЕ АБНОВЫ...

..І рада, ўчуўшы халадок,
Душа, сабе не даўшы рады.
Р. БАРАДУЛІН.

I

Хоць не спі, хоць засні, а мінулае б'ецца у вокны
Шызым голубам, цемранай шэрасцю скурчаных дзён,
Марна памяць імкнецца адбельваць ад бруду палотны—
Кроў засохла на іх—след іржавы на вока відзён.

Колькі ты не сцвярджай: што было, ўсё сплыло беззваротна,—
Як асколак у чэрапе, крыўда не-не ды кальне:
Па-андрэеўску цяўкаюць злосна сям-там з падваротні
Сталіністаў паследкі, што часта ў высокай цане.

Углядаюся пільна у далеч на стыку стагоддзяў:
Новы век, чым ён здзівіць—*прасветам ці ліхам-бядой*?!
Як з публічнасцю будзе? Скасуем? Пакінем у модзе?
Як тады будзем зваць еўрапейскі агульны наш дом?!

Вецер змен-перамен так настойліва грукае ў шыбы,
На касцях дзён мінулых калымага падзей.
У вярхоўным палацы і ў богам забытай сядзібе
Аднаўленне жыцця талакой шматгалосай гудзе.

Можа, ў *нашай гасподзе* і здзейсніцца хоць напалову
Тая мара, што тройчы аплачана нашай крывёй,
За якую «без вестак адсутныя» склалі галовы,
Калі дэспат крывавы гісторыю вёў па крывой.

Жорсткай плата была. Шмат каму дасталося замнога
Ад даносчыкаў ціхіх, ад лютых заплечных майстроў.
Было жэрабя й мне спіхнутаму з шару зямнога,—
Прыцягненне ўтрымала—ўпустую вяслуе Харон!

II

Пражываю ў дзяржаве, якой прысягаў я на вернасць.
Тут карэнні мае ў яе глебу глыбока ўраслі.
Хоць зусім недалёка да шарай гадзіны вячэрняй,
*Не імкнуся падводзіць сумарны і сумны падлік.*

Тут зямля маіх продкаў—халопаў князёў Радзівілаў,
Тут мой прадзед Званкоўскі пад Клецкам зямельку араў,
Тут за Мар'інай Горкай любімай бабулі магіла,
Тут юнацтва майго і падзенняў і ўзлётаў пара.

Ах, юнацтва, юнацтва! Мацвееўскі ціхі завулак,
Мілай Ляхаўкі хаткі, вішнёвы над Свіслаччу сад,
Памяць горкая войнаў і рэха гарматнага гулу,
І яжоўскі разгул, і балючы дакор Курапат!..

Не сціскайся ад болю, грудная памятая клетка,
Захавай толькі водгулле самых шчаслівых хвілін,
Як шчадрэц навагодні, што ў хату наведваўся зрэдку,
Покуль чорная здрада убіць не паспела свой клін...

Палюбуйся, зірні ў светлы твар вечна юнай Радзімы,—
Гэта ж наша з табой беларуская маці-зямля!
У вазок распісны сядзем разам дасветнай ґадзінай
І—насустрач завеям сцюдзёных зімовых каляд!

III

Мірна ў небе пасуцца баранчыкі хмарак бялявых,
У тры столкі кладзе скібы чорныя востры нарог.
Праца йдзе па зямлі, вершыць звыклыя добрыя справы.
— Добры дзень!—я гукаю, вярнуўшыся з доўгіх дарог.

Неяк выпала так, што жыццё мне пакінула доля,
Хоць праз пекла пралёг мой дашчэнту знясілены крок.
Не скасіла мяне распраклятым дзікунствам няволя,
Не падстрэліў мяне нацкаваны служака-стралок...

Друг мой мілы, сардэчны, з кім пайку худую дзялілі,
З кім вярыгі няволі пранеслі праз попел і кроў,
Спіць пад сопкай даўно ў безыменнай халоднай магіле
Пад журботныя пасвісты дзікіх палярных вятроў...

Я ж прытулак апошні свой бачу ў вясновым убранні,
Я ж прытулак свой бачу у белай зімовай фаце,
А яшчэ ў пазалоце антонавак восеньскім раннем,
А яшчэ у ліпнёвай спякотнай красе — пекнаце!

Тут лясок, там барок, там дымок узнімаецца ў неба,
У *люстраны ставок заглядаецца сонечны твар*...
Бачу моладзь наўкруг. Што ім трэба? Відовішчаў, хлеба?
Як тым рымлянам. Дзе там той смак хараства?!

Я ім раю: кахайце, любіце жыццё безаглядна,
Каб не выпала вам паўтарыць наш пакутлівы ўрок!
Я люблю ваша племя, на пыху зважаю спагадна:

**АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ**



# Ты пайшоў насустрач вайне

*апавяданне*

*Памяці Івана Яфімавіча ЛАЗОЎСКАГА*

...Я ЎЖО не спадзяюся, што здарыцца цуд. Нічога больш не чакаю. А можа? Можа... Бо знаходзяцца ж, і цяпер яшчэ знаходзяцца людзі, калі чалавек астаўся жывы.

А ты... Ты не прапаў без вестак. Ты не быў паранены. Не быў кантужаны. Ты быў забіты.

Пахавальная, што некалі адным росчыркам перакрэсліла і перакроіла ўсё жыццё, да мяне трапіла толькі праз дваццаць год... У паперцы той рукой штабнога пісара — каліграфічна, сінім чарнілам — было выведзена: «Загінуў смерцю храбрых».

Васемнаццатага лютага тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года. Пад горадам Чудавам.

За дваццаць год ляжання за бажніцай у бацькоўскай хаце (за гэтай бажніцай некалі спачывала ўся радаслоўная сям'і, сюды складаліся дзяціныя метрыкі, тут чакала свае пары і твая метрыка) жорсткая паперка гэта парудзела і сцерлася. Не сцерліся толькі два няўмольныя словы: «Загінуў смерцю...» Без пары паклалі яны ў труну маці. Дачасна сагнулі бацькаву спіну, нібы жорсткім сухавеем зысушылі старыя вочы.

...Загінуў. Быў забіты васемнаццатага лютага. У мароз, напэўна, а, можа, у завею... Мусіць, як бег паперадзе роты з вінтоўкай наперавес, так і спатыкнуўся, так і ўпаў, не здагадваючыся, чаму раптам гарачым зрабіўся снег. Так, мусіць, і ляжаў на тым гарачым снезе, шырока раскінуўшы рукі, аж пакуль не прыйшлі па цябе, позна ўжо вечарам, пасля бою:

— Эх, таварыш лейтэнант... Таварыш ротны...

Ды не было часу доўга бедаваць. Не было, пэўна, і каму бедаваць: мала хто застаўся жывы з тых, хто раніцай яшчэ лічыўся тваёй ротай. Ды і спяшацца трэба было — каб не пакінуць на здзек ворагу — за ноч пахаваць усіх забітых. І цябе таксама пахаваць.

...Я трымаю ў руках тую бязлітасную паперку — яна і сама ўжо ва ўладзе небыцця, — перачытваю раз, другі, трэці... «Загінуў...» Загінуў, а я не плачу. Не плачу, бо ў мяне няма слёз, як няма ўжо і нядаўняга яшчэ сумнення і надзеі: «А можа? А можа...»

Я толькі намагаюся прыпомніць, а дзе *я сама была ў той дзень, калі ты* гэтак раптоўна спаткнуўся на тым гарачым снезе, што я рабіла ў той час, калі ты лавіў апошнім позіркам папялістую хмарку ў нізкім зімовым небе і клікаў на дапамогу. Можа, мяне таксама клікаў...

А я нічога гэтага не ведала. Не чула. Не адчувала? Я так далёка ад цябе была! Была там, дзе не праляцела ніводная варожая куля. Дзе людзі ні разу не пачулі гарматнага выбуху. Дзе ноччу можна было спаць, не баючыся, што цябе разбудзіць паветраная трывога.

І ты даруй мне за гэта.

Я не памятаю, што рабіла ў той дзень. Ды напэўна ж нічога асаблівага — усё тое ж, што рабіла штодня.

Мыла ў шпітальных палатах падлогу. Прыбірала пасцелі. Карміла цяжкіх параненых. Напэўна ж, каб падтрымаць, каб суцешыць, яшчэ і смяялася, жартавала.

І за гэта даруй мне.

Добра ведаю толькі адно, што ў той дзень — на людзях — я не паўтарала твайго імя, нікому не расказвала, які ты быў у мяне... І ты за гэта на мяне не пакрыўдзіўся б. Тваё імя бясконца паўтарала, з табой бясконца гаварыла і клікала цябе ў той дзень, як і кожны дзень, як і заўсёды, маё сэрца. Каб ты ўмеў пачуць яго! Ты не застаўся б ляжаць там, пад горадам Чудавам. Ты ўстаў бы. Ты прыйшоў бы.

Як прыйшоў майскім адвячоркам — за месяц да вайны.

●

Не прыйшоў, а прыехаў, праўда. З другога горада, з-за свету. Не папярэдзіўшы, не напісаўшы, а так, раптоўна, як снег на галаву.

І як мы стрэліся з табой у нашым студэнцкім інтэрнацкім калідоры.

— Ганька, цябе чакаюць!

Цікаўны, як у сытаўкі, нос Надзькі Бохан прасунуўся ў наш пакой і тут жа знік. Ого, каб без яе абышлася якая навіна!

Я куляй лячу ў калідор, лячу да дзвярэй нашага каменданта Лампіцкай — там заўсёды чакаюць нас усе неспадзяваныя стрэчы і навіны.

— Добры дзень!

Ты гэтакі ўзмужнелы, загарэлы, у новенькай з іголачкі форме і фуражцы — аж вочы ламае! — курсант-выпускнік пяхотнага вучылішча.

І я, па плячук табе, шчуплае, ушчэнт збянтэжанае дзеўчанё.

— Добры дзень...

Быццам і не было той двухгадовай перапіскі — штодня па пісьму.

Не ведаю, што было б, каб не дзяўчаты, мае таварышкі. Наўрад ці адважылася б запрасіць я цябе ў пакой. Сорамна — жаніх прыехаў...

...Як далёка засталася тая сустрэча ў нашым інтэрнаце. (А здаецца, нібыта была яна ўчора). Колькі песень пераспявалі мы ў той вечар.

**Броня крепка и танки наши быстры,**
***И наши люди мужества полны!***

Ніхто з нас ані хвіліны не сумняваўся: хіба магло быць інакш?

**Броня крепка и танки наши быстры!**

З пабеленае сцяны глядзеў на нас і слухаў нашы спевы мудры правадыр. Пад яго патрабавальным позіркам сваю квітнеючую будучыню мы ўяўлялі з яшчэ большай упэўненасцю.

**Когда нас в бой пошлет товарищ Сталин,**
**И первый маршал в бой нас поведет...**

І большага шчасця — уяўлялася нам — не спатрэбіцца. Бо ўсе ж мы непахісна ведалі і, як набожныя «Ойча наш», не збіваючыся, паўтаралі: «Чужой зямлі мы не хочам, але і свае зямлі, ніводнае пядзі свае зямлі, не аддамо нікому...»

Мы, як школьны ўрок, назубок вывучылі, што калі толькі вораг адважыцца ўсунуць сваё свіное рыла ў наш савецкі агарод, ён тут жа будзе адкінуты непераможнай Чырвонай Арміяй назад і разбіты на яго ж уласнай тэрыторыі... Дык чаго і каго было нам баяцца!

Даверлівае, ашуканае пакаленне асепленых рамантыкаў! Каб толькі магло яно ўявіць сабе, якой цаной паплаціцца яно за свой давер. І якую атрымае падзяку ў нашчадкаў.

...Колькі смеху тады мы высмеялі. І з чаго б, здаецца? Ды ні з чога—так сабе. Усе мы былі маладыя, бестурботныя, закаханыя. Усе былі шчаслівыя бясклапотным шчасцем маладосці.

А які поўнік свяціў нам у той вечар, калі я пайшла праводзіць цябе да гасцініцы! Свяціў ён і назаўтра, толькі назаўтра ён нам ужо быў зусім непатрэбны... Назаўтра мы сядзелі з табой на чужым ганку на соннай Задруцкай вуліцы, і сведкі *нам былі* зусім непатрэбныя. І толькі выпадковая хмарка дапамагла табе, дапамагла нам. Яна засланіла дакукупоўніка, і ты сказаў мне... Упершыню за два гады сказаў, хоць пісем перапісалі, хоць паперы звялі мы — вазы!

Днём мы без стомы блукалі па Дняпровых кручах. Умошчваліся і сядзелі на хвоі-ліры. Потым каталіся па Дняпры на лодцы. А потым абедалі ў нашым гарадскім рэстаране: елі каронны студэнцкі вінегрэт, елі гуляш і нават выпілі — удваіх — стопку чырвонага віна. І ўсё гэта на вачах у нашых хлопцаў, маіх аднакурснікаў! Аднак — і гэта было самае дзіўнае — безразважна кідаючыся ў бездань, я адчувала сябе ў той дзень самым шчаслівым чалавекам на свеце.

На трэці дзень ты паехаў у свой горад, даслужваць сваю службу, давучвацца на сваіх курсах. А я заставалася — таксама давучвацца — у сваім горадзе, зялёным птушыным гарадку ў белым цёплым пяску па калена, замкнутым у рагу дзвюх слаўных рэчак.

*Я засталася, але са мной як быццам* нешта здарылася. Знікла некуды зусім нядаўняя яшчэ рагатуха, якой варта было паказаць палец, каб рассмяшыць да слёз. У мяне з'явілася дзіўнае, зусім незнаёмае пачуццё адказнасці — перад сабой і перад табою. Ты сказаў мне, што хочаш, каб мы заўсёды былі разам. І я сказала табе, што таксама хачу, каб мы былі разам заўсёды... Вось чаму адразу, як ты паехаў, я раптам неяк пасталела, нібыта падрасла. А дзяўчаты, мае сяброўкі, казалі (вядома, здзекаваліся), што я нібыта паразумнела нават...

А потым ад цябе прыйшло пісьмо. Больш за мяне гэтага пісьма чакалі дзяўчаты нашага пакоя. Напіша — значыць, не дарэмна прыязджаў. А не будзе пісьма — дык... (Дурныя, што яны разумелі. Нам з табою так было добра!)

І пісьмо прыйшло. Аж на дванаццаці *старонках! Памятаю, дзяўчаты ў той жа* дзень на ўсіх маіх сшытках-канспектах закрэслілі маё прозвішча і ўрачыста надпісалі тваё.

І мне гэта было так прыемна! У мяне было такое адчуванне, нібыта маё ўласнае прозвішча мне ўжо больш было непатрэбнае, нібыта яно ўжо адслужыла мне сваю службу, і таму я магла лёгка ад яго адмовіцца...

Пасля таго пісьма мае таварышкі штодня будавалі і перабудоўвалі (як толькі

---

Ганарар за апавяданне прашу пералічыць на рахунак № 707801 Белжылсацбанка ў фонд «Дзеці Чарнобыля».

Аўтар.

Ліха з вамі, шалейце, скачыце вар'яцкі свой «рок»!

Час пакліча—з вас кожны надзене салдацкую форму,
Як рабілі бацькі і старэйшыя вашы браты.
Там, дзе наша зямля, там і цвёрдая наша платформа,
Што на век дваццаць першы наводзіць трывала масты!

IV

Час даўно патрабуе абновы струхлелай Будовы.
Тут назад не адступіш ніяк, хоць маўчы, хоць крычы.
Можа б, лепш разбурыць ды пачаць яе ўзводзіць нанова,
Бо падмурак асеў, сцены шашаль дашчэнту стачыў?!

Напракудзілі мы—так зямельку сваю здрасавалі,
Што як дзеве старой ёй не год і не два ялавець.
Па руках Земляроба смуткуюць абложныя далі,
Па свайму, не завознаму, зерню зажадалася клець...

Дайце людзям зямлю, і яна як Хрыстос уваскрэсне,
Смерцю смерць растаптаўшы ў імя панавання жыцця,
І адродзяцца ў сёлах забытыя даўнія песні,
І буслы гнездавацца з далёкіх краін прыляцяць.

Кажуць, лепей сініца ў руках, чымся жораў у небе—
Лепш валодаць зямлёй, чым ісці да яе ў прымакі.
Хай любоў ажыве да майстэрства стваральнікаў хлеба,
Да навукі сялянскай—ашчадна збіраць каласкі!

Як даўно мы пад грэчку зямельку сваю не аралі!
Ракі ў рэках звяліся, паснулі ў трысці шчупакі!
Не хачу я, каб Нарач зазнала нядолю Арала,
Каб пазналі ў барах ганарлівыя баравікі;

Каб радзелі лясы, усыхалі блакітныя рэкі,
Каб Чарнобыль палыхваў атрутным дыханнем сваім!
Можа, спынімся, людзі, хаця б на праводзінах веку
Падсякаць тонкі сук, на якім нетрывала сядзім?!

V

Пахадзіў я у «вінціках» доўга, пабегаў, як «фактар»,
Чалавекам пабыць ёсць жаданне і метрыка ёсць...
Дзякуй богу, што неяк пазбег я пакуль што інфаркту,
Што жыву на зямлі, як яе гаспадар, а не госць.

І цяплее душа — можа, вернецца хоць напалову
Тое права, што тройчы аплачана нашай крывёй,
І ў народзе маім ажыве беларускае слова,
У красе першароднай, без кпіны усмешкі крывой!

Вернем людзям зямлю і адродзіцца родная мова,
І адыдзе ў нябыт канцылярскі гібрыдны жаргон,
Прызнавацца ў каханні не будзем пазычаным словам
І мяняць «Крыжачок» на завэдзганы ў барах «Чарльстон».

Яшчэ пнуцца ўсукаць пад шумок нам спарыш дубальтовы,
Каб закрэсліць усё, чым народ жыў адметна вякі...
Ты крынічкай жывою звіні, маё роднае слова,
Плынь вялікай рацэ, як вядома, даюць раўчукі.

У гасподзе у нас спраў малых і вялікіх багата,
Будаваць вавілонскую вежу якраз не пара!
Разбяромся. Умесціць усіх наша светлая хата,
Хопіць хлеба і солі і добрага слова сябрам!

Хочаш ты ці не хочаш—настырна пастуквае ў шыбы
Вецер часу вялікіх, наспелых, настойлівых змен,
Разварушвае формул застойных руцінныя глыбы,
Скаланае цвярдыні старых пазаплеснелых сцен.

## Удзячнасць

Вырашана збудаваць у Маскве помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій.
З газет.

Так марудна пішацца, са скрыпам,
Летапіс пакут і горкіх страт,
Як пасля цяжкой хваробы грыпам,
Як пасля глухіх астрожных крат.

Голай праўдзе, скінуўшай адзенне,
Зазірнеш у твар—і смех, і жах...
Век не знаць бы новым пакаленням,
Як з няпраўдай біцца на нажах!

Як беззбройным у няроўнай бойцы
Прайграваць мацнейшаму той бліц,
Як ратунку ў дэспата-забойцы
Не вымольваць распасцёртым ніц!

Чую: стрэлу гук ляціць аднекуль—
Значыць, недзе некаму капцы.
Нарадзіўся я ў пачатку веку,
Паміраць збіраюся ў канцы.

А ці раз наведвалася ў госці
Тая, што страшней за ўсіх пачвар,
Папужаць пакору-ягамосця,
Смеючыся выскалам у твар!

Скажам, клець сарвецца, майна—віра!—
Некаму спраўляць памін душы,
Хоць пазбег ты кулі канваіра,
Хоць і кедр камлём не прыдушыў;

Хоць тры дні у шахце пад завалам
Пахрыпеў, як дыхавічны конь,—
Ледзь жывая плоць усё стрывала,
Адагнаўшы прэч заўчасны скон...

Дык ярчэй з вышынь надхмарных крэсаў
Ты, мая планіда, засвяці!—
Я—ахвяра сталінскіх рэпрэсій,
Мне будуюць помнік пры жыцці!

---

ім жадалася!) наша сумеснае з табой жыццё. Я рабіла выгляд, што адбіваюся ад дзяўчат, старалася нават злавацца на іх, ды гэта мне зусім не ўдавалася: не ўмела ні прыкідвацца, ні маніць. Ды і як зманіш, калі рот у цябе да вушэй, калі на твары, як на чыстым аркушы, напісана: «Дзяўчаткі, гаварыце, што хочаце, толькі гаварыце пра яго!»

І каб ты толькі ведаў, колькі пра цябе, пра нас з табою гаварылася тады ў нашым сёння лакоі па вуліцы Смідовіча.

Цябе дзяўчаты чамусьці толькі хвалілі. Ты і такі, ты і гэтакі, такіх, як ты, болей на свеце няма!.. Затое мяне... Затое мне даставалася! І панчохі цыраваць як след не ўмею — клапаціліся пра твае шкарпэткі. І крупнік варыць не навучылася.

А дзе было навучыцца, гадуючыся з самага маленства па чужых людзях? Есці гэты крупнік — і то не заўсёды даводзілася... І дарасла толькі па плячук табе, быццам я была вінавата, быццам я сама не хацела расці.

Але я тады нічога гэтага не баялася: ведала, верыла. І толькі пісем тваіх прагнула, як прагне чалавек напіцца ў спёку.

...Апошняя твая паштоўка прыйшла пад вечар 22 чэрвеня. У гэты дзень, зранку, увесь наш курс здаваў дзяржаўны экзамен па асновах марксізму-ленінізму. А пад вечар усіх нас ужо адправілі на акопы.

У той апошні перадваенны год любімай песняй у нас, моладзі, была «В далекий край товарищ улетает...» Мы спявалі яе лёгка, бесклапотна, асабліва не ўдумваючыся ў сэнс яе слоў:

Родные ветры вслед за ним летят.
Любимый город в синей дымке тает,
Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд.

Перайначанымі словамі гэтай песні пачыналася і твая апошняя паштоўка:

«В далекий край, подруга, улетаю... толькі не паляцяць за мной ўслед родныя вятры, толькі невядома, дзе і які будзе горад... А пра «нежный взгляд» і казаць няма чаго. Ад мяне, можа так здарыцца, хутка не будзе пісем. Тады ты не чакай, а пішы нашым дадому. На імя мае сястры Ліды. Пішы, раз, другі, трэці...»

Значыць, ты ведаў?

Мне не давялося табе адказаць. У мяне не было твайго адраса.

Мне не давялося пісаць Лідзе — дваццаць шостага чэрвеня па тваёй вёсцы праімчалі ўжо немцы на матацыклах... А сама я праз тыдзень пасля таго, як атрымала тваю апошнюю вестку, ішла ўжо ў натоўпе бежанцаў на Рэчыцу. Следам за мной, не адступаючы ні на крок, ішла вайна.

А ты... Ты пайшоў насустрач вайне.

...Неадольная гара імклівых гадоў залегла з таго зімовага дня, калі ты спатыкнуўся на гарачым снезе пад горадам Чудавам.

...На маіх скронях даўно ўжо залёг зазімак. І дзеці мае ўжо даўно дарослыя. І я ўжо не сню свайго юнацтва.

1962—1990 г.

---

*Віншуем!*



# Самааддане служэнне дзецям

**Уладзіміру ЛІПСКАМУ — 50 год**

Мы з ім равеснікі. У месяцы нараджэння ён за мяне старэйшы толькі на дзесяць дзён. Не важна, што па жыццёваму статуту я абагнаў яго ажно на дваццаць дзевяць год. Па службе, па служэнню дзецям мы равеснікі. Перад дзецьмі, нашымі чытачамі мы раўня.

Спазналіся мы ў «Вясёлцы». Праўда, не тады, калі выйшаў наш першы нумар, бо ўвесну 1957-га нашаму будучаму аўтару было яшчэ толькі семнаццаць, а трохі пазней, калі Валодзя прыйшоў на працу ў ЦК камсамола. Калі стварaўся часопіс, натуральна, што па праву апекі яго пад сваё крыло ўзяў камсамол. На першым паверсе свайго будынка ён вылучыў нам два невялікія пакойчыкі, дзе і змясцілася ўся рэдакцыя. Тут пачалося супрацоўніцтва лічаных тады па пальцах старэйшых літаратараў, якія пісалі для дзяцей, з маладымі, пачынаючымі, поўнымі жадання дапамагчы нам. І Валодзя Ліпскі стаў нашым памочнікам. Па сваім службовым абавязку, як супрацоўнік ідэалагічнага аддзела, ён павінен быў бы кіраваць намі, але ўжо маючы пэўны запас жыццёвага вопыту, напісаўшы ўжо свае першыя кніжкі публіцыстыкі «Райкомаўскія будні», «Дзень за днём», «Знайсці сябе», «Якое яно, шчасце?», малады аўтар, а неўзабаве і малады бацька, ён усёй душой пацягнуўся да радасці спазнання псіхалогіі маленства, да дзіцячай літаратуры. Першыя спробы не адразу ўдаваліся. Усё яшчэ заміналі павучальнасць, дыдактычнасць, моўная ненатуральнасць. Але з цягам часу аўтар усё болей і болей даходзіў да сутнасці асаблівасцей жанру, хоць і давалася ўсё гэта немалымі намаганнямі.

Так некалі далучаўся да дзіцячай літаратуры са старонак «Вясёлкі» цяпер вось сам ужо другі дзесятак год яе галоўны рэдактар Уладзімір Ліпскі. Невялічкі калектыў рэдакцыі, які з дня ўтварэння не пабольшаў ні на адзінку, ні на паўадзінкі, гэта сапраўды творчы асяродак энтузіястаў, які з любоўю і захапленнем робіць сваю справу. Тыраж, блізкі да двухсот тысяч, гаворыць сам за сябе. Не зважаючы на рознасць узростаў, як супрацоўнікі і аўтары, дзіцячыя пісьменнікі і мастакі шчаслівыя ўжо тым адным, што з кожным новым пакаленнем сваіх чытачоў мы заўсёды равеснікі, штораз пачынаем адкрываць і спазнаваць свой бясконцы свет.

Ці не таму Уладзімір Сцяпанавіч, пачаўшы з адкрыцця псіхалогіі маленства, каторы год з пільнай увагай даследчыка адкрывае для сябе і для нас не менш складаныя псіхалагічныя праявы ў характарах, у паводзінах і ўчынках не наогул чалавека, а рэальных людзей, якія калі не штодня, то абавязкова хоць раз у жыцці ў выключных абставінах вылучаны рабіць для сябе адзін-адзіны правільны выбар перад злом або дабром, перад праўдай і няпраўдай, перад жыццём і смерцю. Нездарма гэты галоўны матыў яднае і яго кнігі, яго дакументальныя аповесці: «Невядомы» — пра беларускага юнака-нарадавольца Ігната Грынявіцкага, «Крутыя вёрсты» — пра франтавую медсястру Зінаіду Марчанку-Тусналобаву, «Стрэлы над старым акопам» — пра міліцыянера Вячаслава Сцяпанава, які загінуў, споўніўшы да канца свой людскі абавязак, «Пралескі ў небе» — пра лётчыка Аляксандра Мамкіна, які цаной уласнага жыцця ўратаваў дзяцей сірочага дома, выхапіўшы іх з фашысцкага пекла.

Бадай, найболей глыбокім аналізам філасофскага аспекта абранай аўтарам тэмы вылучаецца яго кніга «Урокі Купрэвіча» — пра выдатнага вучонага-біёлага, які, будучы прэзідэнтам нашай акадэміі, сваімі пошукамі і адкрыццямі высока ўзняў аўтарытэт беларускай навуковай думкі.

Асабіста мне не здаюцца выпадковымі выбар тэм, сюжэтаў, людскіх характараў, якія вабяць Уладзіміра Ліпскага. Адны з іх болей удаюцца пісьменніку, другія меней. Адны вырашаюцца ім у жанры адкрытай, надзённай, часта дакументальнай публіцыстыкі, другія ў спробах аналітычнага даследавання і абагульнення. Што ж лучыць між сабой яго творчую разнастайнасць? Я сказаў бы коратка — жыццёвы аптымізм, актыўны грамадскі тэмперамент, уласцівы самой натуры пісьменніка.

Што такое для Ліпскага кнігі для дзяцей, што такое для яго «Вясёлка», якую ён рэдагуе? Не забаўка, не вясёлая бацькоўская і дзедаўская розрыўка ў вольны ад работы, ад службы час. Гэта і ёсць сама работа і самааддане служэнне не ўвогуле маленству, а рэальным сучасным дзецям у наш цяжкі і трагічны час, калі, нарэшце, павінны скончыцца рабскія крывадушша і цынізм нашай доўгацярплівай удзячнасці «за счастливое детство».

Казённаму канвееру абяздоленага маленства хапае работы, але ва ўмовах Беларусі да ўсяго гэтага дадалася яшчэ і чарнобыльская трагедыя, няўхільны і бязлітасны цяжар якой абрушыўся зноўтакі і перш за ўсё на дзяцей. Як ратаваць нам нашу будучыню? Суджана нам жыць на сваёй зямлі, ці на векі вечныя зарасці ёй чарнабыллем і чартапалохам?

Ратуйце дзяцей! — першыя словы чалавека, які трапляе ў любое безвыходнае няшчасце. Так было заўсёды.

Калі ўтвараўся Усесаюзны дзіцячы фонд, яго беларускае аддзяленне ўзначаліў Уладзімір Ліпскі. Кожны, хто ведаў здольнасці, нястомную энергію і яго адданасць дзецям, быў пэўны, што гэта адзіная кандыдатура, якой, як кажуць цяпер, не магло быць альтэрнатыў. Новая пасада, хоць і пачэсная, абяцала яму толькі адно — новыя бясконцыя канфлікты, непрыемнасці, зацятую барацьбу з усемагутнай уладай многагаловай пачвары, імя якой цяпер ужо ўсім вядома, як непрабіўная бюракратычна-апаратная сістэма. «Усё лепшае — дзецям» — дзесяцігоддзямі з усіх трыбун вяшчала яна гэты стэрэатыпны заклік, але калі і сапраўды прыйшлося не толькі штосьці даць дзецям, а ў першую чаргу выхапіць, ратаваць іх з чарнобыльскага пекла, з экалагічна небяспечных паселішчаў, з нялюдскіх сіроцкіх прытулкаў, тут трыбунны пафас нашых дабрадзеяў вокамгненна знікаў.

І трэба аддаць належнае Уладзіміру Сцяпанавічу. Яго самаадданасць дзецям вытрывала ўжо не адно выпрабаванне. І не раз яшчэ вытрывае. Барацьба ідзе за лёс будучыні народа не год і не два, а на працягу ўжо многіх пакаленняў.

Не ведае спачыну душа падзвіжніка, напагатове яго пяро. Нядаўна выйшла з друку кніга, напісаная ім сумесна з украінскім пісьменнікам Б. Чалым «Любі мяне пры ўсякай долі» — аб трагічным лёсе беларускіх і ўкраінскіх юнакоў і дзяўчат, гвалтоўна вывезеных у няволю фашысцкімі акупантамі. На падыходзе вялікая работа, матэрыял для якой збіраецца з апавяданняў, сустрэч, знаёмстваў з дзецьмі і людзьмі, што самі перажылі абяздоленасць і сіроцтва. Кніга будзе называцца «Падкідыш». Гэта той абсяг уражанняў, развагу, болю і трывог, якімі жыве пісьменнік штодня.

Ад усяе душы падажаем яму поспеху.

**Васіль ВІТКА.**

Тамара ГАРОБЧАНКА

# Нацыянальны, рэгіянальны, мясцовы?..

...«СТРАЧАНЫ ТРАДЫЦЫІ, тое, што прыносіла беларускаму тэатру славу і пашану. Страчана перш за ўсё нацыянальнае аблічча тэатра».

Услед за крытыкам А. Сідарэвічам паўтару: агульнапрызнана думка, што сённяшняя грамадская сітуацыя ў краіне не вельмі спрыяльная для мастацтва, якое не здольна патрапіць за палітыкай, публіцыстыкай. Я даўно заўважыла адну асаблівасць. Прызнаючы ўвогуле, што беларускі тэатр — больш не духоўны павадыр беларускага народа, мы суцяшаем сябе тым, што з'ява «не правадырства» — агульнасаюзная і шукаем прычыны заняпаду ў сферах па-за тэатральных: у часах застою, у камандна-адміністрацыйнай сістэме кіравання культурай, у сістэме прафесійнай адукацыі, наогул у **сістэме.** Усё гэта справядліва. Але ці не здымаем мы тым самым адказнасць з канкрэтных людзей, якім нададзены высокі давер кіраваць нацыянальнымі тэатрамі, а гэта значыць і **ствараць** нацыянальную культуру?

Назіраецца яшчэ адна тэндэнцыя. Асобныя тэарэтыкі і практыкі тэатра настойліва імкнуцца супакоіць грамадскасць: маўляў, у беларускім тэатры працягваецца... звычайны творчы працэс і падстаў для хвалявання няма.

Звярнуўшыся да сучаснай сцэнічнай практыкі, я вылучыла шэраг пытанняў, якія лічу галоўнымі. Якую ролю адыгрываюць нашы нацыянальныя тэатры ў адраджэнні беларусаў як нацыі? У выяўленні нацыянальнага беларускага характару? У абуджэнні гістарычнай памяці народа? Няўжо пытанні гэтыя шмат у чым рытарычныя?..

ВЯДОМА, было б наіўна вінаваціць у тэатральным заняпадзе толькі дзеячаў тэатра і творчую інтэлігенцыю. Фальшывая ідэя «агульнай савецкай культуры» і «агульнай мовы» нанесла вялікую шкоду нацыянальнай годнасці і культурнай самабытнасці ўсіх народаў нашай краіны. Гаварыць і нават думаць аб праблемах культурнага федэралізму і нацыянальным культурным суверэнітэце было проста небяспечна. Разбуральны вынік такіх «ідэй» паўплываў не толькі на культуру, але і на ўсе сферы грамадскага, эканамічнага, палітычнага жыцця. Дакладную думку наконт гэтага выказвае філосаф В. Чурбанаў: «Культура поруч з прыродай з'яўляецца дамінантай вобраза жыцця нацыі. Менавіта з гэтай прычыны уніфікацыя культур, якая ўкаранялася пад выглядам «збліжэння» і «зліцця», закранула інтарэсы зусім не толькі інтэлігенцыі, як гэта выглядае на паверхні, але і многіх дзесяткаў мільёнаў людзей, таму што ўварвалася ў іх звычай на свой нацыянальны лад пекчы хлеб, будаваць сям'ю, уладкоўваць побыт, мець зносіны».

На Беларусі як, бадай, нідзе болей, негатыўныя з'явы ўзмацняліся — мэтанакіраваным знішчэннем беларускай мовы. Знешне быццам бы ўсё было прыстойна. Тры нацыянальныя тэатры горш ці лепш, але ставілі і ігралі спектаклі па-беларуску. У штогодніх справаздачах гучна рапартавалі аб працэнтах беларускай драматургіі ў рэпертуары. У Акадэмічным тэатры імя Я. Коласа беларуская мова часам гучала на рэпетыцыях, ды й справатворчасць таксама вялася на роднай мове. Быццам бы няблага было і з нацыянальнымі кадрамі — аснову купалаўскай і коласаўскай труп складалі выпускнікі БДТМІ...

Разам з тым моўная праблема для беларускай сцэны з'яўляецца адной з самых важных, самых балючых. Так, вельмі сур'ёзны папрок у адрас тэатраў зрабіў пісьменнік Н. Гілевіч: «Можна і яшчэ сто гадоў мітусіцца, прымаць захады, заклікаць дзеячаў беларускай сцэны: «Падымем нацыянальны тэатр на вышэйшы ўзровень» — і ніякага ўздыму, ніякага поспеху не будзе, пакуль тэатр не пачне ў поўным сэнсе слова працаваць на беларускай мове... Тэатр заўсёды ў любым кутку быў і ёсць школай мовы. Унікальнае ў гісторыі чалавечай цывілізацыі выключэнне — Беларусь, дзе нацыянальны тэатр стаў месцам калечання мовы, выхаваннем непавагі да гэтага найкаштоўнейшага скарбу народа». Горкія, ды справядлівыя словы.

Дзесяцігоддзямі існуючая тэорыя «зліцця нацый і культур», безумоўна, паўплывала як на моўнае становішча нацыянальных тэатраў Беларусі, так і на самасвядомасць саміх тэатральных дзеячаў, якія перасталі бачыць у нацыянальнай сцэне квінтэсенцыю духоўнасці народа, яго адвечных каранёў і гістарычнага вопыту. Супольнасць, з'яднанасць усіх гэтых першапрычын прывяла да таго, што нашы нацыянальныя тэатры паступова страчвалі сутнасную, каранёвую сувязь з нацыянальнай тэатральнай традыцыяй і ператварыліся ў калектывы, якія лічыліся беларускімі бадай па рэгіянальным прынцыпе.

Былі ў сцэнічнай практыцы і шчаслівыя выключэнні. Так, нацыянальныя традыцыі, заснавальнікамі якіх па праве лічацца В. Дунін-Марцінкевіч, І. Буйніцкі, Ф. Ждановіч, Е. Міровіч, У. Галубок, зрэдку выяўляліся ў творчасці сучаснай рэжысуры, якая часам нават узбагачала вопыт мінулага новым вобразна - асацыятыўным, метафарычным мысленнем. (Маюцца на ўвазе такія спектаклі, як «Людзі на балоце» паводле І. Мележа, «Трыбунал» А. Макаёнка, «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Радавыя» А. Дударава, «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава ў Тэатры імя Я. Купалы; «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі» У. Караткевіча, «Сымон-музыка» паводле Я. Коласа, «Вечар» А. Дударава ў Тэатры імя Я. Коласа).

Было б, аднак, памылкаю думаць, што нацыянальная сцэна павінна задавальняцца толькі беларускай драматургіяй. Спасціжэнне агульначалавечых каштоўнасцей на падставе драматургіі класічнай, замежнай, а таксама драматургіі народаў СССР цалкам верагодна. Менавіта дзякуючы падобным творам нашы акадэмічныя нацыянальныя тэатры маюць свае дасягненні. (Можна згадаць «Клеменса» К. Саі, «Закон вечнасці» Н. Думбадзе, «Энергічных людзей» В. Шукшына ў коласаўскім тэатры, спектаклі «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Р. Лордкіпанідзе, «Характары» В. Шукшына, «У ноч зацмення месяца» М. Карыма, «Святая святых» І. Друцэ, з апошніх прэм'ер— «Памінальная малітва» Р. Горына паводле Шалом-Алейхема ў купалаўскім тэатры. Магчыма, хтосьці мог бы прапанаваць яшчэ некалькі назваў).

Гэтыя спектаклі, безумоўна, узбагачаюць нацыянальнае тэатральнае мастацтва. Аднак сама іх раскіданасць на працягу дзесяцігоддзяў — сведчанне, хутчэй, выпадковасці, як заканамернасці. Паміж мастацкімі ўзлётамі і дзяжурным рэпертуарам часцяком заўсёды існавала непераадольная бездань. Адзін пералік пастановак, якія цяжка аднесці не толькі да нацыянальнай культуры, але і да прафесійнага мастацтва наогул, заняў бы занадта шмат месца.

І, магчыма, найбольш няпэўным, калі хочаце — заганным стаўся дыялог нашых вядучых тэатраў з класікай. Як вядома, менавіта класічная п'еса заўсёдна выпрабоўвала творчую асобу на прафесійнасць, інтэлект, самастойнасць мыслення. Тэатр алюзій, шырока распаўсюджаны ў недалёкім мінулым, гранічна звузіў і абмежаваў наша разуменне класікі, абумовіў утылітарнае, а часам і прымітыўнае стаўленне да яе. Выяўляючы ў класічнай п'есе толькі сучасна-актуальнае, палітычна-злабадзённае, тэатры не заўважалі праблем адвечных, агульначалавечых. У выніку ніводзін спектакль класічнага рэпертуару двух апошніх дзесяцігоддзяў, увасоблены на купалаўскай і коласаўскай сцэне, не зрабіўся нацыянальным культурным здабыткам. Не пакінулі ніякага следу ў тэатральнай гісторыі «Вішнёвы сад» А. Чэхава, «Рамэа і Джульета» У. Шэкспіра (Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа); «Тарцюф» Мальера, «Дзеці сонца» М. Горкага (Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць. Таму, напэўна, так трывожна гучаць словы артыста Аўгуста Мілаванава: «Увесь свет іграе Чэхава, Дастаеўскага, Талстога... А дзе ж мы? А мы проста не можам, не ўмеем. Мы развучыліся разумець гэтых вялікіх мастакоў, бо злачынна адрынулі ўсе сувязі з нашым мінулым. Хто ад гэтага набыў, а хто страціў? Ці ж трэба адказваць».

СЁННЯ, калі ва ўсім нашым грамадстве ідзе карэнная перабудова, калі адбываецца пераацэнка гістарычнага мінулага і з небыцця вяртаюцца прозвішчы славутых дзеячаў беларускай культуры, калі абуджаецца нацыянальная самасвядомасць народаў, натуральна ўзнікаюць пытанні: як удзельнічаюць у гэтых складаных працэсах нашы нацыянальныя тэатры? Ці адлюстроўваюць яны ў сваёй творчасці разняволеную народную свядомасць, імкненне беларусаў да гістарычнага і культурнага адраджэння? Тут шмат мог бы зрабіць зварот тэатраў да багацейшай, шматвяковай гісторыі беларускага народа, да жыццяў слаўных сыноў і дачок, склаўшых яе славу і гонар.

Беларуская літаратура апошнім часам дае добрыя прыклады сучаснага асэнсавання гісторыі. Плённа працуюць у гэтым напрамку У. Арлоў, Л. Дайнека, В. Іпатава, К. Тарасаў, Т. Бондар і іншыя. Праяўляюць цікавасць да гістарычнай тэмы і беларускія драматургі. П'есы А. Вольскага пра Алаізу Пашкевіч, А. Петрашкевіча — пра Францыска Скарыну, В. Іпатавай — пра Давыда Гарадзенскага, І. Масляніцынай — пра Ефрасінню Полацкую, В. Тарнаўскайтэ і В. Валчковай — пра Рагнеду. Полацкая князёўна Рагнеда стала гераіняй і новай драмы І. Чыгрынава. Яму ж належыць і драма пра нашага славутага продка Вашчылу — кіраўніка сялянскага паўстання на Магілёўшчыне ў XVII стагоддзі. Аднак, паводле маіх звестак, ніводзін з гэтых твораў пакуль што не зацікавіў нашы нацыянальныя тэатры. А ці не грамадскі абавязак нацыянальнай сцэны давесці старонкі нацыянальнай гісторыі да сучаснага гледача? Сітуацыя ж на Беларусі выключная...

Менавіта абыякавасць да роднай гісторыі абумоўлівае, на мой погляд, вельмі сціплыя дасягненні нашых вядучых тэатраў у мастацкім асэнсаванні нацыянальнага беларускага характару. Як вядома, паняцце нацыянальнага ў мастацтве характарызуецца не толькі мовай, але і складаным комплексам духоўных выяўленняў нацыі, сярод якіх нацыянальны характар, нацыянальнае светаўяўленне, нацыянальная памяць і г. д.

Як жа ўсе гэтыя духоўныя выяўленні стасуюцца са сцэнічнай практыкаю нацыянальных тэатраў? На якіх спектаклях глядач сёння можа спасцігнуць глыбінную сутнасць характару беларуса, яго духоўны свет, яго звычаі і норавы, адметнасць яго побыту? Не рускага, не ўкраінца, не грузіна, а менавіта беларуса? Ды й што гэта такое наогул — нацыянальны характар? На жаль, навука пра тэатр амаль не распрацоўвае гэтае складанае пытанне. Таму даводзіцца звяртацца да філасофіі. Слушнай уяўляецца мне выснова філосафа А. Гулыгі: «...размова ідзе не аб нейкіх асобных рысах характару, якія належаць толькі пэўнаму народу, гэтага няма, ёсць нейкая цэласнасць «народнай душы», што ўваходзіць у больш шырокае паняцце нацыянальнай культуры. Разуменне адзінства культуры як сістэмы каштоўнасцяў, — вось галоўны прынцып нацыі. Тут шмат ірацыянальнага, цяжка вытлумачальнага, аднак гэта рэальнасць, якую нельга не ўлічваць: лад жыцця, звычкі, традыцыі, узаемаразуменне і ўзаемадавер, тое, што мы больш за ўсё шануем. Нацыя — гэта арганізм, часткай якога адчувае сябе чалавек ад нараджэння і да смерці, па-за якім ён губляецца і становіцца безабаронным. Нацыя — гэта супольнасць лёсу і надзеі».

Гэтаму ж пытанню прысвечаны і вельмі цікавы артыкул Г. Гачава ў 2-ім нумары часопіса «Современная драматургия» за 1990 г. Тым, хто цікавіцца пытаннем нацыянальнага, раю прачытаць яго. Я ж спыню ўвагу толькі на адным паняцці, якім апелюе аўтар — «нацыянальны космас» — як вышэйшай праяве светаўспрымання, якое кожны народ фарміруе, творыць з агульнага хаосу сусветнага быцця ў залежнасці ад нацыянальных, этнаграфічных і духоўных традыцый, асаблівасцей прыроды, побыту, стаўлення да першастыхій — зямлі, вады, паветра, агню.

Справа навукі — даследаваць нацыянальны характар, справа мастацтва — увасобіць яго вобразнымі сродкамі. Што ж тычыцца тэатра, я перакanana, асэнсаваць вытокі і самабытнасць характару беларуса можна толькі на беларускай драматургіі. Між тым узаемаадносіны паміж тэатрамі і драматургамі нельга лічыць нармальнымі. Аўтары, як правіла, скардзяцца на абыякавасць рэжысёраў, тыя ж у сваю чаргу заяўляюць, што ўсё лепшае з беларускай драматургіі ўвасоблена, а браць слабыя п'есы не мае сэнсу. Аднак практыка часам абвяргае гэты «галоўны» аргумент...

НЯДАЎНА на двух нацыянальных сцэнах з'явіліся спектаклі, якія я лічу буйной удачай тэатраў менавіта ў мастацкім асэнсаванні беларускага характару. Гэта «Хам» паводле Э. Ажэшкі ў Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа і «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Першы мае падставаю класічны літаратурны твор, другі — далёка не дасканалая п'еса пачынаючага беларускага драматурга. Вось і падумалася: ці не на агульную карысць было б больш уважліва, ашчадна паставіцца тэатрам як да класічнай спадчыны, так і да сучасных беларускіх твораў?

Што ж так вабіць у меладраматычнай гісторыі кахання Паўла і Франкі з аповесці «Хам» Э. Ажэшкі? Рэжысёр Б. Эрын дакладна адчуў і выявіў сувязь дня мінулага і дня сённяшняга. Акцёры У. Куляшоў і С. Акружная паэтычна і ўзнёсла даносяць важную аўтарскую думку — «кожнаму паводле веры ягонае». Герой У. Куляшова Павел жыве па законах спрадвечнай хрысціянскай маралі, яго міласэрнасць бескарыслівая, скіраваная на выратаванне душы другога чалавека. Адсюль яго сіла і духоўная моц. С. Акружная раскрывае трагедыю бязвер'я Франкі, што і абумоўлівае яе трагічную пагібель. У спектаклі коласаўцаў праз глыбокую веру ў Бога, праз сумленныя адносіны да працы і чалавека выяўляецца велічнасць, духоўнасць, прыгажосць сціплага селяніна-беларуса.

Пастаноўка купалаўцаў «Страсці па Аўдзею» ў рэжысуры В. Раеўскага ідзе сваім шляхам у спасціжэнні беларускага нацыянальнага характару, у асэнсаванні трагічнай старонкі гісторыі беларускага сялянства. Нацыянальная сцэна неаднойчы распавядала пра гаротны лёс селяніна-працаўніка, пра ягоную любоў да зямлі, шчодра палітай слязьмі, потам і крывёю. Лявон Зяблік («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), сагнаны панам з кавалачка поля, канчае жыццё самагубствам, таму што не ведае, не разумее, як яму, беззямельнаму, жыць на гэтым свеце. Леапольд Гушка («Бацькаўшчына» К. Чорнага) прадае ўсё, што мае, скідае з сябе апошнюю світку і шапку, каб купіць дзве дзесяціны зямлі і стаць сапраўдным гаспадаром.

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

# Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: ДЭГРАДАЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

## 4. НАШЫ СЁННЯШНІЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ РЭАЛІІ

Пры ўсіх тых негатыўных з'явах, што зведаў наш край за апошнія дзесяцігоддзі, ці можна здзіўляцца, што калі гадоў пяць таму назад нацыянальна свядомы касцяк беларусаў пачаў ратавацца ад знікнення як самабытнага этнасу, ад многіх сваіх братоў па дакументах яны адчулі такое супраціўленне, што маглі б сцяг адраджэння ўпусціць з рук. А колькі лаянкі давялося пачуць ад беларусаў з дашчэнту дэманціраванай нацыянальнай самасвядомасцю ў час абмеркавання праекта Закона аб мовах у БССР! Устаноўлены беларусамі сусветны рэкорд па ахайванні роднай мовы наўрад ці будзе калі-небудзь перакрыты іншымі народамі. Ёсць усе падставы за такія ўчынкі афармляць праз адпаведныя органы матэрыялы на атрыманне права быць занесенымі ў сусветнавядомую кнігу рэкордаў Гінеса.

Было б марнай і недарэчнай справай спрабаваць цяпер падлічыць, колькі ж у народзе засталося нацыянальна свядомых і хворых на нацыянальны нігілізм людзей. Нават пры колькаснай перавазе апошніх арыентацыю патрэбна трымаць на першых, бо яны ёсць увасабленне прагрэсіўнага ў нацыі. Іх патэнцыі не вымераць арыфметычнымі паказчыкамі, як не вымераць магчымага ўраджаю па колькасці ў сявеньцы зярнят: усё залежыць ад таго, у якую глебу яны пападуць і як будзе арганізаваны догляд за пасевам.

**Апошнія пяць гадоў, не пабаюся сказаць, не ўнеслі прыкметных перамен у нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Да іх жыцця пакуль што яшчэ вельмі і вельмі мала дапасоўваюцца такія словы М. С. Гарбачова: «Перабудова выклікала імклівы рост нацыянальнай самасвядомасці, пачуцці нацыянальнай гордасці ва ўсіх нашых народаў за сваю гісторыю, культуру, мову, традыцыі, звычаі, гарачае імкненне не толькі захаваць, але і прымножыць нацыянальныя каштоўнасці, якія ідуць з глыбінь стагоддзяў. І гэты працэс падтрымліваецца партыяй, якая беспаваротна асудзіла грубейшыя скажэнні ленінскай нацыянальнай палітыкі, тыя дэфармацыі, якія пакінулі глыбокія шрамы ў нацыянальнай самасвядомасці». Шырачэйшыя пласты беларускага народа ўсё яшчэ знаходзяцца ў глыбокай спячцы, а партыйная арганізацыя не робіць эфектыўных захадаў па іх нацыянальным абуджэнні. Прычына такой летаргіі — вельмі істотнае па глыбіні і працяглае па часе разбурэнне нацыянальнай самасвядомасці. Самой жа па сабе ёй ужо ніколі не адрадзіцца. Патрэбна ў даным накірунку тытанічная стваральная праца ўсіх тых, хто адчувае сувязь з традыцыямі свайго народа, разумее ўсю небяспеку яго трагедыі. Не павінны стаяць убаку ад вырашэння гэтай складанай і так запозненай праблемы людзі, якія самі прыйшлі да ўлады ці масы даверылі ім кіраваць жыццём беларусаў.**

**Наколькі далёка зайшло размыванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў з-за нашых памылак у рэгуляванні міжнацыянальнымі адносінамі на іх этнічнай зямлі, дазваляюць меркаваць прыведзеныя філосафам з Магілёўшчыны Н. Е. Ліхачовым даныя на канферэнцыі «Народ, культура, перабудова», што праходзіла ў чэрвені 1989 года ў Мінску. У ходзе сацыялагічнага даследавання ў гэтай вобласці высветлілася, што толькі 32 працэнты апытаных могуць свабодна думаць і размаўляць па-беларуску, затое па-руску — 84 працэнты. Дрэннае валоданне роднай мовай зрабілі беларусаў абыякавымі да яе магчымага ўкаранення ў розныя сферы грамадскага жыцця: толькі 26 працэнтаў прызналі неабходным яе выкарыстанне ў афіцыйным справаводстве, 10 працэнтаў выказаліся за выкладанне на ёй прадметаў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, 16 працэнтаў згодны з уключэннем у праграмы ВНУ курсу па гісторыі БССР. Зразумела, што без прыняцця экстраных і эфектыўных захадаў нацыянальная самасвядомасць беларусаў Магілёўшчыны апынецца на такім узроўні, што яна цалкам адыдзе ад гістарычна-культурнай спадчыны сваіх продкаў, будзе жыць паводле традыцый і нормаў рускай нацыі, што ўжо не раз здаралася з перыферыйнымі ўсходнімі пластамі беларускай нацыі.**

Такія несуцяшальныя, як па Магілёўшчыне, звесткі, напэўна, давялося атрымаць пры правядзенні сацыялагічных даследаванняў і ў іншых абласцях, што не дае падстаў сядзець, склаўшы на каленях рукі, як гэта рабілася ў нас на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду. Думаецца, многімі добра памятаецца, дзякуючы шырокай прапагандзе ў друку і па радыё, што катастрафічнае падзенне менш як за дзесяцігадовы перыяд (1970—1979 гг.) удзельнай вагі беларусаў, якія прызналі сваю мову роднай, з 80,6 да 74,1 працэнта, зусім не выклікала занепакоенасці ў верхніх эшалонах партыйных і савецкіх органаў, навуковай інтэлігенцыі рэспублікі, а, наадварот, расцэньвалася імі як важны крок на шляху інтэрнацыяналізацыі культуры, паглыблення дружбы беларускага і рускага народаў. Зыходзячы з такой высновы, наш кіруючы апарат, вядома, нічога не стараўся рабіць, каб спыніць моўную асіміляцыю беларусаў і ў новым дзесяцігоддзі. Таму гэты надзвычай шкодны працэс набыў да пачатку 90-х гадоў вельмі пагражальныя маштабы.

Рускамоўная асіміляцыя беларусаў рабіла іх няўстойлівымі і ад нацыянальнай асіміляцыі ўвогуле. Трагічна, што адбывалася гэта не дзесьці ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, сярод іншанацыянальнага насельніцтва, а на сваёй роднай этнічнай тэрыторыі. За апошнія дзесяцігоддзі колькасць рускага насельніцтва тут павялічвалася больш шпаркімі тэмпамі, чым карэннага. І прычына такой дэмаграфічнай з'явы не столькі міграцыйныя працэсы, колькі добраахвотная адмова беларусаў ад стаўшай непрэстыжнай для іх роднай нацыі з прычыны страты яе мовы і пераходу на рускую. Што многія паводле даных Усесаюзных перапісаў насельніцтва рускія на тэрыторыі Беларусі — гэта не этнічна рускія, а ёсць значная частка этнічных беларусаў, якія з-за няведання сваёй роднай мовы і пераходу на рускую свядома залічваюць сябе да рускай нацыі, могуць служыць і шматлікія факты, калі дзеці змешаных беларуска-рускіх сем'яў, а нярэдка беларуска-ўкраінскіх запісваюцца іх бацькамі да рускай нацыі. Беларусь ужо даўно выйшла на адно з першых месцаў у краіне па адноснай колькасці змешаных шлюбаў. Але, калі ў іншых рэспубліках дзеці ад такіх шлюбаў пераважна залічваюць сябе, стаўшы дарослымі, да карэннага насельніцтва, якое дало назву данаму нацыянальнаму рэгіёну, у нас на Беларусі назіраюцца адваротныя з'явы, што не ў інтарэсах яе нацыянальнага развіцця.

**Са сказанага нельга заключыць, што аўтар супроць міжнацыянальных шлюбаў. Ён толькі за тое, каб дзяцей ад такіх шлюбаў правільна выхоўвалі ў дачыненні да роднага краю, рабілі адказнымі за яго далейшы культурны рост, чаго не дасягнеш пры няўхільным падзенні адноснай колькасці карэннага насельніцтва. Абсалютная ж большасць цяперашніх маладых беларускіх мацярок не вучаць дзяцей мове сваіх продкаў, бо самі не ведаюць яе. Калі пагадзіцца з думкай Бальзака, што будучае нацыі залежыць ад маці, дык няцяжка зразумець, якую долю сваёй нацыі падрыхтоўваюць нашыя беларускія маладыя маці. Ці не час прадумаць у такой трагічнай сітуацыі аб якіхсьці формах ідэалагічна-асветнай працы па прыцягненні маладых мацярок да засваення імі духоўных здабыткаў і перш за ўсё мовы свайго народа?**

**Паводле маштабаў размывання змешанымі сем'ямі нацыянальнай самасвядомасці людзей папераджае беларусаў ішлі мо толькі чувашы, падлеткі якіх з чувашска-рускіх сем'яў амаль поўнасцю (98 працэнтаў) лічылі сябе ў 70-х гадах рускімі. Не сумняваюся, што з пашырэннем сацыяльных функцый беларускай мовы, больш грунтоўным авалоданнем ёю, бясспрэчна, пэўная частка такіх абруселых беларусаў ізноў будзе лічыць сябе беларусамі. Такая ратацыя ў самасвядомасці даволі часта назіралася ў практыцы іншых этнасаў.**

Як бачым, мова з'яўляецца адным з вырашальных фактараў вызначэння людзьмі сваёй нацыянальнасці, тым больш, калі справа датычыць русіфікацыі беларусаў. У антрапалагічным плане у іх з рускімі больш падобнага, чым спецыфічнага. Апошняе ўгадваецца толькі спецыялістамі, першае ж заўважаецца нават радавымі людзьмі. Вось чаму са стратай роднай мовы і пераходам на рускую беларусы, як ніякая іншая нацыя, так хутка асімілююцца, называючы сябе рускімі. З апошнімі, як вядома, у іх вельмі шмат чаго агульнага і ў гісторыі. Значыцца, каб узняць на належны ўзровень нацыянальную самасвядомасць беларусаў, што ў інтарэсах не толькі іх, але і ўсёй супольнасці савецкіх і славянскіх народаў, каб зрабіць беларусаў устойлівымі ад шкоднай на сучасным этапе гісторыі асіміляцыі, патрэбна ў першую чаргу расшырыць да максімальнай адзнакі рамкі сацыяльных функцый беларускай мовы, што будзе спрыяць росту яе прэстыжнасці сярод карэннага і некарэннага насельніцтва рэспублікі, далучэнне ўсіх і кожнага да багацейшага патэнцыялу духоўных каштоўнасцей, гісторыі нашага краю, што заканамерна павысіць гонар за яго мінулае і адказнасць за будучае. Чалавек, якому дарагія інтарэсы свайго народа, заўсёды адчувае ў аднолькавай ступені сваю адказнасць як перад яго гісторыяй, так і перад новымі пакаленнямі.

Шмат хто, у тым ліку і самі беларусы, і па сёння задаюць сабе пытанне, чаму многія прадстаўнікі гэтага этнасу так цягнуцца да рускай мовы і выключна толькі па ёй вызначаюць сваю нацыянальную прыналежнасць. Усё гэта дэтэрмініравана, паддаецца растлумачэнню. Не сумняваюся, што для пэўнай часткі беларусаў руская мова стала адзінай ці, як некаторыя з іх кажуць, другой роднай мовай не з прычыны якойсьці магічнай яе сілы, а толькі з-за няведання ці дрэннага ведання сапраўды роднай, матчынай мовы, г. зн. беларускай. Будзе марнай справай нават днём з агнём паспрабаваць знайсці беларуса, які добра б валодаў, паважаў сваю родную мову, але цураўся б сваёй нацыі. Ды і гістарычнай практыцы ўвогуле невядома, каб людзі, гаворачы на роднай мове, адносілі сябе да якой-небудзь іншай нацыі, толькі не сваёй. Затое, як багата фактаў, калі іншапляменнікі залічваюць сябе ў «штат» нацыі, на мову якіх яны перайшлі. Такіх фактаў, прычым рознай даўніны, вельмі шмат дае нам і прыклад Беларусі. Таму няма падстаў не пагадзіцца з даволі шырока распаўсюджанай у нашым перыядычным друку формулай: «Гіне мова, гіне і нацыя». Калі ў полымі распачатай фашысцкай Германіяй вайны гарэлі нашыя гарады і вёскі, фізічна знішчаліся людзі, насаджалася чужая культура, не дарэмна ж народны пясняр Янка Купала, ведаючы пра ўсё гэта, слушна запэўніваў: «Пакуль жыве мова — жыве Беларусь». У лёсе кожнай нацыі нібыта адлюстроўваецца пачатак і канец жыцця кожнага паасобнага яе індывіда. І ён перад тым, як яго сэрца зробіць апошні ўдар, спачатку страціць мову, а затым адыходзіць у нябыт. Могуць запярэчыць, што бывае чалавеку зойме мову, а ён яшчэ пэўны час жыве. Бывае. Але што гэта за жыццё? Без мовы нецікава, страшна жыць як індывідууму, так і яго народу ў цэлым.

А цяпер колькі слоў пра чужую родную мову, раз такое паняцце шырока забытавала ў народзе. Пераканаиы, што сапраўды роднай мовай не можа стаць ніводная іншая мова, якім бы яна ні валодала функцыянальным і сацыяльным дыяпазонам у грамадскім жыцці. Сапраўды роднай мовай з'яўляецца толькі тая, што арганічна ўплятаецца ў тканіну нацыянальна-культурнага арганізма кожнага канкрэтнага народа, жыве і памірае разам з ім. Пры іншым жа падыходзе, чаго добрага, роднай мовай назавуць яшчэ і тую, якую заваёўнікі навязалі пакоранаму народу гвалтам, прымусілі адлучыцца, забыць роднае слова продкаў. Прыкладаў такога здзеку нямала ведае гістарычны вопыт, ад чаго боль за пазбаўленне права мець родную мову ніколі не праходзіць у прыгнечаных народаў.

Чыста фармальнае, дакументальнае прызнанне роднай мовай мовы іншага народа — гэта вынік якіхсьці дэфармацый у нацыянальным развіцці асобы ці этнасу ў цэлым, немагчымасці здзяйснення імі сваіх нацыянальных ідэалаў. Пры спрыяльных абставінах яны без усялякіх ваганняў перастаюць называць чужую, хоць і добра засвоеную, мову роднай, пераходзяць да біялагічна роднай, матчынай мовы. Пераканаўчы доказ таму адыход многіх еўрапейскіх народаў ад лацінскай, а цюркамоўных — ад арабскай моў. Калі ўжо на той ранняй стадыі развіцця цывілізацыі нацыянальныя, суперінтэрнацыянальныя мовы не змаглі задаволіць сацыяльна-культурных запатрабаванняў народаў, дык зусім нелагічна думаць, што такія мовы цяпер могуць узяць на сябе выкананне падобных функцый.

Надаючы такое важнае значэнне мове ў фарміраванні, развіцці і ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці этнасу і кожнага яго члена паасобку, усё ж ніяк нельга перабольшваць ролі данага фактару. Вось таму лічу, што вызначэнне сваёй нацыянальнасці, толькі на падставе мовы аднаго з бацькоў, няхай сабе ён будзе належаць і да значнай па колькасці насельніцтва нацыі, ці на падставе абумоўленага рознымі прычынамі пераходу на іншую мову, наўрад ці будзе правамерным. Мова, хаця і вырашальная прыкмета нацыі, але ўсё ж не адзіная. Важную ролю таксама адыгрываюць эканамічныя, прыродна-геаграфічныя і іншыя фактары. Для прыкладу спаслацца тут можна на амерыканскую нацыю.

**Як вядома, Паўночная Амерыка засялялася ў асноўным толькі еўрапейцамі, якія паходзілі з Вялікабрытаніі і размаўлялі на англійскай мове. Калі б гэтыя перасяленцы пры вызначэнні сваёй нацыянальнасці кіраваліся толькі моўным фактарам, дык на поўначы заходняга паўшар'я нашай планеты большасць белых перасяленцаў была б проста англічанамі, значная частка — французамі, італьянцамі і прадстаўнікамі некаторых іншых еўрапейскіх народаў. Але спецыфіка прыродна-геаграфічных і кліматычных умоў, агульнасць тэрыторыі, асабліва і ў многім непаўторны для Еўропы змест эканамічнага жыцця і шэраг іншых фактараў кансалідавалі гэтыя перасяленчыя еўрапейскія народы безадносна да іх мовы ў адну нацыю — амерыканскую. Ды ці толькі еўрапейскія народы. Праз пэўны час называюць сябе амерыканскай нацыяй і прадстаўнікі чорнай і жоўтай рас, якія прыязджаюць у ЗША, на сталае жыццё. Такім чынам, у ходзе сумеснага эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і духоўнага жыцця становяцца адной нацыяй народы, якія гаварылі і нават працягваюць гаварыць на розных мовах, маюць больш спецыфічнага і асаблівага, чым агульнага, у нацыянальным характары. Усё гэта гаворыць аб тым, што адыход ад той мовы, на якой гаварылі нашы бацькі і дзяды, не можа быць адзінай абавязковай падставай мяняць нацыянальнасць, і асабліва калі сам чалавек яшчэ да канца не пераканаиы ў гэтым. Адносіны да сваёй нацыі не павінны так лёгка пахіснуцца і прывесці чалавека да паспешлівага, а зачастую няправільнага выбару нацыянальнай прыналежнасці ад страты толькі адной з яе прыкмет, няхай сабе будзе і такой важнай, як мова. Калі чалавек цвёрда пераканаиы, што ён паводле свайго этнічнага паходжання беларус, украінец, літовец, латыш ці прадстаўнік якой-небудзь іншай нацыянальнасці, дык нягледзячы нават на тое, што ён у выніку якіх-небудзь прычын не валодае роднай мовай, вымушаны жыць па-за межамі рассялення свайго народа, ён пры такім поглядзе на рэчы заўсёды можа лічыць сябе яго прадстаўніком. І калі ж насуперак разумнаму сэнсу шмат хто з беларусаў нават на зямлі ўласнай Бацькаўшчыны, адрокшыся ад роднай мовы і засвоіўшы рускую, залічвае сябе да рускай нацыі, дык гэта, несумненна, можа выклікацца істотнымі праколамі дзесьці і ў іншых кампанентах, што вызначаюць нацыянальную самасвядомасць чалавека.**

Адпаведныя органы і службовыя асобы, не жадаючы чагосьці канкрэтнага рабіць, каб спыніць дэмантаж нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, стараюцца давесці да масаў, што тут у нас не ўсё так і кепска, што дзесьці асабліва ў рэгіёнах з высокай ступенню інтэрнацыяналізацыі насельніцтва, значна горш вырашаецца гэтая праблема. Пагадзіцца можна толькі з тым, што яна ўвогуле нідзе лёгкай не бывае. Нас ні ў якім разе не павінна супакойваць акалічнасць, што ў параўнанні з іншымі рэспублікамі Беларусь яшчэ і сёння мае даволі высокі працэнт карэннага насельніцтва. Уся справа ў тым, як развіта ў яго пачуццё нацыянальнага, а што яно знаходзіцца на неналежным узроўні, сведчаць перш за ўсё непараўнальна мізэрныя маштабы выкарыстання беларускай мовы ў розных сферах грамадскага жыцця і ў міжасобасных зносінах. Па сутнасці многія сённяшнія беларусы з'яўляюцца прадстаўнікамі свайго этнасу толькі па пашпартах. А гэтым жа не захаваеш нацыю ад распаду. Дакументальны запіс не можа разглядацца як сведчанне праяўлення нацыянальнай самасвядомасці.

Адзначанае ў нацыянальным жыцці беларусаў не заўсёды мела сабе раўналежныя з'явы ў іншых саюзных і аўтаномных рэспубліках. Наадварот, яшчэ на рубяжы 70—80-х гадоў многія нават самыя малыя на

(Працяг на стар. 14—15).

# Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: ДЭГРАДАЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

(Пачатак на стар. 13).

колькасці народы, якім адкрыта прадказвалі немінучую пагібель у выніку асіміляцыі, з зайздроснай сілай пацягнуліся да сваіх гістарычных каранёў, роднай культуры і мовы. Таму здзіўляе, што дзяржаўных і партыйных кіраўнікоў, вучоных нашага краю зусім не пужала, што значная частка беларусаў усё яшчэ не магла пераадолець сваёй пасіўнасці ў нацыянальна-культурным адраджэнні, не жадала сваімі духоўнымі здабыткамі ўзбагачаць культурны патэнцыял планеты, а заставалася толькі спажыўцом таго, што стваралі іншыя народы. Міма такой абыякавасці нацыі з багатымі гістарычнымі традыцыямі да свайго будучага лёсу ніяк нельга было праходзіць асобам, якія закліканы рэгуляваць, навукова прадбачыць ход развіцця міжнацыянальных адносін. Каб такое прадбачанне было надзейна пастаўлена на навуковы грунт, беларусы не зайшлі б у такі цёмны тупік.

## 5. ЧАС МЯНЯЦЬ ПАДЫХОДЫ

Хаця я залічваю сябе да вялікіх аптымістаў, мушу, аднак, заявіць, што гады перабудовы не ўнеслі прыкметных перамен у нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Прычына: адбылася вельмі вялікая дэстабілізацыя яе, пра што, пераканаўча паказана вышэй. Самой па сабе ёй ніколі не адрадзіцца. Патрэбна мэтанакіраваная дзейнасць людзей, на плячах якіх ляжаць функцыі па кіраванні грамадскім жыццём беларусаў. Гісторыя дае кіраўніцкаму апарату, вучоным шанц змыць не толькі з сябе, але і са сваіх папярэднікаў грэх за тое, што далёка не ўсё рабілі па разумным фарміраванні, глыбокім навуковым асвятленні міжнацыянальных адносін у рэспубліцы. Трэба цвёрда засвоіць, што беларуская сацыялістычная нацыя ператварылася ў штосьці аморфнае ў этнічным сэнсе не спантанна, не стыхійна ці добраахвотна, а ў пераважнай ступені ў выніку мэтанакіраванай дзейнасці шырокай сеткі дзяржаўных і партыйных органаў, міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі па размыванні нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа пад выглядам інтэрнацыяналізацыі яго жыцця, якія ў сваю чаргу выконвалі гэтым волю цэнтральнай, агульнасаюзнай бюракратычна-каманднай сістэмы кіравання эканомікай, палітыкай і культурай. Было б утопіяй разлічваць, што аднаўленне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа можа адбыцца само па сабе, без ажыццяўлення глыбока прадуманых мерапрыемстваў па павышэнні яго ролі і актыўнасці ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці, па наданні пэўнай прэстыжнасці яго культуры і мовы як вырашальных фактараў росту нацыянальнай годнасці. З нацыянальнай самасвядомасцю чалавек не нараджаецца, яна фарміруецца пад уздзеяннем шматлікіх фактараў, а калі апошнія бяздзейнічаюць, асоба можа не мець нават самых элементарных звычак павагі і пашаны да свайго народа, у любы момант гатова, калі не здрадзіць, дык быць проста абыякавай, а то і пагардлівай да яго.

**Нацыянальная самасвядомасць фарміруецца пад уплывам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, што робіць надзвычай актуальным мэтанакіраваны ўплыў на яе, каб не даць праяўленню непажаданых адхіленняў у развіцці этнасу. Асабліва важным тут з'яўляецца ўмелае выкарыстанне ўсяго комплексу гістарычных традыцый і духоўных каштоўнасцей, якія маглі б нарадзіць у сённяшніх пакаленняў беларускай нацыі здаровы гонар за сваіх прашчураў, нястрымнае жаданне ўзбагаціць, напоўніць новым зместам атрыманае ад іх у спадчыну, што можна толькі праз велізарную стваральную творчую працу, бо любы народ, калі ён абапіраецца толькі на здабыткі — няхай сабе і надзвычай багатыя — толькі сваіх папярэднікаў, немінуча адстане ад суседзяў, а ў горшым выпадку можа стаць ахвярай іх асіміляцыі.**

**Цяпер, калі так расхістана наша нацыянальная самасвядомасць, нельга пры прыняцці тых альбо іншых крокаў па адраджэнні духоўнай культуры, у тым ліку і мовы, зыходзіць толькі з таго, што скажа народ. Яго трэба спачатку праз вялікія намаганні ўсяго корпуса творчай інтэлігенцыі, адпаведных органаў кіравання грамадствам паступова вярнуць да нармальнага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці, якая так моцна паддалася эрозіі ў выніку занядбання нашай гістарычнай і духоўнай спадчыны, мэтанакіраванай работы па хутчэйшым зліцці савецкіх народаў. А да таго, пакуль не ўсталюецца ў душах беларусаў высакародная, не параўнальная ні з чым па сваёй каштоўнасці нацыянальная самасвядомасць, адзіным крытэрыем нашых падыходаў да іх духоўнага развіцця павінна быць не апытанне людзей, як гэта намі робіцца і па сённяшні дзень пры вызначэнні, да прыкладу, мовы навучання дзяцей у агульнаадукацыйнай школе, а ўмелае і поўнае выкарыстанне тых прынцыпаў і законаў грамадскага развіцця, якія могуць забяспечыць адпаведную перспектыву для нацыі ў цэлым, а не толькі для якіх-небудзь паасобных яе пластоў.**

Беларускае адраджэнне, пра якое мы не першы год вядзём адкрытую гаворку, не можа не насіць мэтанакіраваны характар, яму павінна быць падпарадкавана глыбока прадуманая растлумачальна-асветніцкая работа. Беларускаму народу трэба добра ведаць, якім ён быў у мінулым, якім з'яўляецца сёння, якім павінен стаць у будучым, каб захаваць за сабою пачэснае месца сярод цывілізаваных этнасаў планеты. У такой ідэалагічнай працы з людзьмі няма дробязей, бо пры ўмелым падыходзе нават самы нязначны факт можа абудзіць нацыянальны гонар у народзе. У нас ёсць што сказаць яму пра далёкае і зусім недалёкае мінулае, толькі шкада, што не заўсёды мы ўмелі гэта данесці да яго розуму і сэрца.

Радуе, што нават пры такіх сур'ёзных недахопах у ідэалагічнай, выхаваўчай працы, архіскладаных варунках жыцця беларусаў яны ўсё ж выжылі на шчасце самім сабе і планетарнай цывілізацыі. Цуда тут не адбылося. Праўда, з асяроддзя беларускага этнасу за апошнія два-тры дзесяцігоддзі, калі на карту быў пастаўлены яго лёс, не з'явіўся на свет вялікі геній, сапраўдны патрыярх нацыі, затое зямля, так бы мовіць, не спыняла нараджаць змагароў за нацыянальныя правы сярэдняй рукі. Нацыянальная самасвядомасць любога народа ў значнай ступені залежыць ад таго, якіх палітыкаў і палкаводцаў, геніяў культуры і навукі ён даў чалавецтву. Няцяжка зразумець, як бы духоўна збяднеў рускі народ, каб у яго не было М. В. Ламаносава і А. С. Пушкіна. Не меншыя б вынікі для нацыянальнай самасвядомасці палякаў мела б адсутнасць у іх такіх вялікіх людзей, як М. Капернік, Ф. Шапэн. Ганарацца нацыі сваімі выдатнымі дзяржаўнымі дзеячамі, правадырамі масавых паўстанняў, буйнымі палкаводцамі, вынаходнікамі, спартсменамі. Зусім не абдзяліў Бог імі і беларусаў. Але іх найлепшыя прадстаўнікі, не выключаючы нават Ф. Скарыны і К. Каліноўскага, заставаліся працяглы час забытымі для асноўнай масы народа і вельмі шкада, што і для яго маладых пакаленняў. І таму не дзіўна, што выключыўшы з памяці людзей імёны і справы слынных сыноў і дачок свайго, беларускага народа, адпаведныя структуры ўлады, партыйных ідэалагічных службаў не змаглі ці не схацелі выхаваць у яго належнага нацыянальнага гонару. Усё гэта разумелася этнічна свядомымі беларусамі, і ў процівагу афіцыйным уладам, яны стала імкнуліся не толькі ў сваім асяроддзі, але і па-за яго межамі падтрымоўваць у народзе дух нацыянальнай вартасці.

**Такі здаровы нацыянальны настрой ніколі не заміраў сярод беларускай мастацкай інтэлігенцыі, студэнцкай моладзі. Надыдзе час, і грамадства яшчэ назаве прозвішчы тых, хто у пошуках выйсця з нацыянальнага крызісу так і не змог у 40 — 70-я гады закончыць вышэйшую навучальную ўстанову, дзесяцігоддзямі ўтрымліваўся на радавой пасадзе, быў на ўліку ў адпаведных органах. Здавалася, нацыянальнае жыццё беззваротна ішло да заняпаду, але найлепшыя сыны і дочкі беларускага народа, не зважаючы на ўсё гэта, з нятольнай энергіяй працавалі на карысць яго духоўнай культуры, верачы ў яе неўміручасць. Проста дзіву даешся, што ў такіх экстрэмальных умовах беларуская нацыя за кошт сваіх самых высакародных людзей не адстала ад іншых у тым, што было зроблена за апошнія пяцьдзесят гадоў у мастацкай літаратуры, жывапісе, музыцы, архітэктуры. У неспрыяльны для ўсякага нацыянальна-культурнага развіцця перыяд брэжнеўска-суслаўскага застою ў рэспубліцы ствараюцца, плённа разгортваюць сваю дзейнасць інструментальна-вакальныя ансамблі «Песняры», «Верасы», «Сябры», «Чараўніцы», якія вельмі станоўча паўплывалі на нацыянальную самасвядомасць беларусаў, асабліва маладой змены. Гэтаму ж служыла выданне дванаццацітомнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, шматтомнага Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.**

Складанасць, неардынарнасць задач, якія даводзіцца сёння вырашаць па ўратаванні велізарнай масы беларусаў ад нацыянальнай абыякавасці, вымушаюць прызнаць, што сярод літаратараў, мастакоў, кампазітараў і людзей іншых творчых прафесій былі аднак і такія, якія не ўмелі ці не хацелі жыць інтарэсамі свайго народа. Далёка не кожны з прадстаўнікоў духоўнай інтэлігенцыі Беларусі мае падставы падпісацца пад сказаным М. С. Гарбачовым на адной са сваіх сустрэч з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды: «Літаратура рыхтавала грамадства да перамен, трывожыла грамадскае сумленне. Некаторыя публіцысты смела выступалі за тыя ідэі, якія сёння набылі сілу партыйных і дзяржаўных рашэнняў у эканоміцы, культуры, асвеце». Такіх у нас было ўсё ж мала. Большасць, захлёбваючыся, пісала пра росквіт культуры і асветы, забіваючы галовы чытачоў працэнтамі росту наведванняў культурна-асветных мерапрыемстваў, пра павышэнне агульнаадукацыйных і прафесійных ведаў, не лічачы патрэбным паказаць сапраўдны стан нацыянальна-спецыфічнага ў духоўным жыцці беларускага народа, яго мовы, пераканаўча давесці людзям, што толькі праз прагрэсіўна-самабытнае можна ўзбагаціць шматнацыянальную савецкую культуру. У нас жа гэтае самабытнае проста выплывала з-пад рук, таму што і для многіх прадстаўнікоў нацыянальнай духоўнай культуры беларуская мова пераставала быць рабочай мовай. Па форме іх творы нічым не адрозніваліся ад таго, што нараджалася дзесьці далёка за межамі рэспублікі.

Будучы мала ўпэўненымі ў выжыванні нацыянальнай культуры, некаторыя з прафесійных прадстаўнікоў яе свядома імкнуліся значную частку сваіх твораў прысвяціць культурам іншых народаў, асабліва рускага, у надзеі захаваць сваё імя сярод дзеячаў мастацтва краіны, а ў лепшым выпадку — свету. Многія з рускамоўных песняў, музыку для якіх напісалі беларускія аўтары, успрымалася ўдалечыні ад іх радзімы як здабытак рускай савецкай эстрады. Далёка не ўсе свае творы будавалі на нацыянальным матэрыяле беларускія жывапісцы, скульптары і архітэктары, што зусім не садзейнічала фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці народа, які сваёй працай ствараў матэрыяльныя перадумовы для развіцця гэтых відаў культуры.

**Дужа непакоіць, што гэтыя адмоўныя з'явы маюць месца і ў наш час, хаця ўмовы для мастацкай дзейнасці нацыі непараўнальна лепшыя, чым у мінулым. Не ўсведамляючы значэння, ці проста не жадаючы стымуляваць нацыянальную самасвядомасць, значная частка беларускай духоўнай інтэлігенцыі, якая знаходзіцца на матэрыяльным утрыманні свайго народа, яшчэ і сёння вельмі мала клапоціцца аб творчым развіцці яго культурнай спадчыны і часта больш працуе над тым, што належыць чужым, а не роднаму этнасу. Запамятаўся дзень 17 жніўня 1989 года, калі Беларускае рэспубліканскае радыё транслiравала на Маскву выступленні артыстаў нашага опернага тэатра. Шмат хто з іх выкарыстаў такую нагоду. Спявалі на замежных і рускай мовах, а вось на роднай так ніхто і не выйшаў у саюзны эфір! А іх жа маглі ў той час слухаць і многія з беларусаў, якіх лёс закінуў у розныя куткі краіны, якія зусім не абыякавыя да сваёй матчынай мовы, да тых здабыткаў духоўнай культуры, якія выраслі на беларускай глебе. Выдатных магчымасцей выйсці праз усесаюзнае радыё на далёкіх і мясцовых беларусаў нашыя оперныя спевакі не выкарысталі, чым маглі толькі пасеяць у многіх са сваіх прыхільнікаў сумненне, а ці заслугоўвае ўвогуле штосьці здабытае намі ў гэтай сферы вакальнага мастацтва для выхаду за межы ўласнае рэспублікі? А такое сумненне ўжо само па сабе можа разглядацца як падрыў нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. І балюча, недаравальна, што адбылося яно па віне тых, хто сваім становішчам у грамадстве абавязаны дбаць пра духоўную сталасць нацыі.**

Калі б у беларускага народа не было нейкіх унутраных, не падуладных простым вокам убачыць ахоўных функцый у віхуры асіміляцыйных працэсаў, мы б пры тых нядбайных адносінах да яго з боку афіцыйных уладаў, пэўнай часткі вучоных і творчай інтэлігенцыі мелі б куды больш вялікія страты ў нацыянальнай самасвядомасці, чым яны аказаліся на самай справе. Нават у самыя неспрыяльныя часіны прабіваліся парасткі нацыянальнага духу, што не давала беларускаму этнасу канчаткова растаць сярод іншых. Можна з прыемнасцю адзначыць, што сёння ў нас даволі выразна прасочваюцца аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары паглыблення працэсу кансалідацыі беларускай нацыі. Але ўсё гэта адбываецца ў межах нулявога цыкла. У яе пакуль што не стае моцнай волі, цвёрдага ўсведамлення, таму вельмі важная растлумачальная, мэтанакіраваная работа ў масах па фарміраванні ў іх гуманістычных адносін да гістарычнай спадчыны, да сваіх духоўных каштоўнасцей. Шанаванне, прымнажэнне ўсяго таго, што стварае ў нашым нацыянальна-культурным жыцці спецыфіку, адметнасць не можа адмоўна паўплываць на дружбу савецкіх народаў, наадварот, ад гэтага мы станем толькі больш патрэбнымі і цікавымі для іх.

Недаравальна слабым месцам у ідэалагічнай, культурна-асветніцкай працы з масамі было і застаецца так званае інтэрнацыянальнае і патрыятычнае выхаванне. Не толькі ў краіне, але і ў нашай рэспубліцы па гэтай праблеме напісаны горы кніг, брашур, артыкулаў. Але калі ўважліва ўнікнуць у іх змест, дык асаблівых адрозненняў паміж першым і апошнім відамі выхавання не знаходзіш: пры інтэрнацыянальным прапануецца фарміраваць у людзей гуманістычныя адносіны да іншых народаў, пры патрыятычным — любіць Краіну Саветаў, у якой жывуць і працуюць больш за сто нацый і народнасцей, а што датычыць уласнага народа, радзімы з малой літары, дык аб гэтым амаль ні слова. Думаецца, зусім лагічна, калі ёсць інтэрнацыянальнае выхаванне, дык мае права на жыццё і нацыянальнае, тады будзе зразумелым, што ў апошнім выпадку размова павінна весціся пра ўсё тое, што канкрэтна датычыць пэўнай этнічнай супольнасці людзей: на беларускай зямлі — гэта беларусы, на татарскай — татары і г. д. Без глыбока прадуманага нацыянальнага выхавання не можа сфарміравацца ў людзей нармальнай этнічнай самасвядомасці, яны вельмі лёгка могуць апынуцца на пазіцыях нацыянальнага нігілізму ці шавінізму, што амаль у аднолькавай ступені шкодна для нармальнага развіцця кожнага народа.

**Інтэрнацыянальнае і патрыятычнае выхаванне людзей у нас у рэспубліцы пераважна вядзецца на матэрыялах з падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны. Такога прынцыпу прытрымліваюцца і пры манументальнай прапагандзе гістарычнага мінулага беларускага народа, хаця яно ж складаецца не толькі з рэвалюцыйных, ратных подзвігаў. Каб моладзь уваходзіла ў жыццё добра падрыхтаванай, яе душы павінны быць напоўнены ўсім комплексам якасцей, якія вызначаюць высокаразвітую, з багатым нацыянальным патэнцыялам асобу. Цяпер у рэспубліцы каля 10 тысяч мемарыяльных помнікаў, але сярод іх як мала такіх, якія ўзведзены ў гонар простых людзей працы, тых самаадданых беларускіх хлопчыкаў, якія цалкам замянілі сваіх бацькоў у полі і на сенажаці ў 1944—1945 гады, а таксама ў гонар жанчын, што на сваіх плячах цягалі плугі, насілі на дзесяткі кіламетраў ад чыгуначных станцый мяхі з насеннем, для праслаўлення маладзенькіх дзяўчат, што з піламі і сякерамі ў руках валілі стогадовыя хвоі і елкі для аднаўлення гарадоў. Як ні цяжка было, але Беларусь выканала даведзеныя ёй планы здачы збожжа дзяржаве, перадала нямала яго дадаткова да задання ў фонд Чырвонай арміі. Ці ж не дабавіла б у нацыянальную самасвядомасць манументальнае ўвасабленне такога працоўнага гераізму беларускага народа? Адзначаных гістарычных фактаў мы не маем права абыходзіць, калі жадаем сфарміраваць нацыянальна спелага беларуса. Нямала вартага з яго стваральнай працы можна адшукаць і за іншыя перыяды гісторыі.**

Свядома, мэтанакіравана вяртаючы народ да гістарычных каранёў, нацыянальных традыцый, вельмі важна давесці да яго розуму сэнс беларусізацыі 20 — 30-х гадоў, прычым не дзеля яго больш глыбокай дасведчанасці пра мінулае, колькі ў мэтах узяць з яе ўсё карыснае, што магло б спатрэбіцца для сённяшняй практыкі. Народу трэба адкрыта заявіць, пераканаўча давесці, што на сёння мы не па сваёй волі апынуліся амаль у аналагічным сярэдзіне 20-х гадоў становішчы, калі асноўным паратункам справядліва была прызнана беларусізацыя. Таму ў сучасных умовах варта было б з прыцягненнем самых шырокіх колаў грамадскасці, асабліва моладзі, крытычна ацаніць вопыт, назапашаны ў час беларусізацыі 20-х — пачатку 30-х гадоў, якая адыграла значную ролю ў актывізацыі творчай дзейнасці беларусаў не толькі ў галіне духоўнага жыцця, рас-

паўсюджванні роднай мовы. Увачавідкі ўбачыўшы, як партыя і ўрад клапоцяцца аб яго сапраўдным росквіце, ідуць смела на вылучэнне беларусаў ва ўсе органы кіравання гаспадаркай і грамадствам, народ адказаў на гэтыя клопаты небывалым уздымам творчай актыўнасці. І калі распачатую ў тыя гады працу па беларусізацыі не ўдалося давесці да яе лагічнага канца, дык гэта не ад таго, што ў яе аснову былі закладзены якія-небудзь памылковыя рашэнні, а хутчэй за ўсё, што яе ўплыў на нацыянальны рух, абуджэнне жыватворнай энергіі беларускага народа прыйшоўся камусьці не даспадобы. Думаецца, што ў наш час вельмі важнае значэнне маглі б мець навуковыя публікацыі па абагульненні станоўчай практыкі першай савецкай беларусізацыі, пра якую сучасныя людзі вельмі мала дасведчаны. Заканамернае імкненне сённяшніх пакаленняў беларусаў працягнуць справу сваіх дзядоў і бацькоў, якая па віне унітарнай агульнасаюзнай каманднa-бюракратычнай сістэме прыйшла да заняпаду, станоўча адбілася б не толькі на паляпшэнні ўсяго стану нашага грамадскага жыцця, але і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

Адказнасць людзей за лёс свайго народа шмат у чым залежыць ад правільнага разумення імі паняцця карэнная і некарэнная нацыя. У сваёй аснове такі падзел нацый зусім лагічны, бо кожная з іх можа існаваць толькі на пэўнай тэрыторыі. Бестэрытарыяльных нацый не ведае гісторыя. Супольнасць людзей, якая за працяглы час свайго пражывання на пэўнай тэрыторыі перарасла ў нацыю, мае падставы ў дачыненні да гэтай зямлі называць сябе карэннай. Пазбаўляць яе права так называцца было б негуманна, пярэчыла б прынцыпам элементарнай логікі.

**Ніводная карэнная нацыя не жыве ў чыстым выглядзе на сваёй гістарычнай тэрыторыі. Тут жа, прычым даволі працяглы перыяд, могуць жыць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, будучы вельмі часта тым этнічным матэрыялам, якім стала папаўняецца склад карэннай нацыі. Але здараецца такое, што гэтыя прадстаўнікі не толькі не асімілююцца з апошняй, а, наадварот, утвараюць на яе гістарычнай тэрыторыі ўстойлівую, з шырокім наборам прыкмет самабытную супольнасць, нацыянальную групу, блізкую да сваёй асноўнай нацыі, якая жыве дзесьці на зусім іншай уласна этнічнай тэрыторыі. У такім выпадку, нягледзячы на любую працягласць пражывання прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей на гістарычнай тэрыторыі асноўнай нацыі, усё-такі іх нельга прызнаць карэннай нацыяй данага краю. Было б проста нелагічна ў межах адной і той жа тэрыторыі карэннымі лічыць і яе асноўную нацыянальнасць, і ўсіх тых прадстаўнікоў іншанацыянальнага насельніцтва, якое па самых розных прычынах апынулася ў гэтым месцы. І гэта не павінна крыўдзіць апошніх, паколькі яны добра ўсведамляюць, што правам называць так сябе валодаюць іх асноўныя нацыянальнасці на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, з якою ў іх звычайна існуюць шырокія сувязі, нягледзячы на адлегласць і час адрыву ад роднага этнасу. Пазбаўленне ж асноўнай спрадвечнай нацыі таго ці іншага рэгіёна называць сябе адзінай карэннай ці дзяліць гэтае права яшчэ з кімсьці зніжала б яе адказнасць за лёс развіцця данай тэрыторыі, адрывала б людзей ад гістарычных каранёў, садзейнічала б усталяванню касмапалітычных поглядаў. Важна толькі з факта падзелу насельніцтва таго ці іншага рэгіёна на карэннае і некарэннае не дапускаць якіх-небудзь сацыяльных пераваг на карысць першага.**

Усёй сваёй гістарычнай практыкай беларускі народ заслужыў права называцца карэнным у дачыненні да той тэрыторыі, дзе ён жыве сёння. Найпершая задача ідэалагічных службаў, творчай інтэлігенцыі, культурна-асветных устаноў давесці яму ўсю адказнасць за развіццё спрадвечных для гэтай зямлі культуры і мовы, якія ў іншым месцы планеты не маюць сваёй нацыянальнай радзімы. Калі народ зразумее гэта, што будзе сведчыць аб напаўненні яго душы высокім зарадам нацыянальнай самасвядомасці, ніякіх пагроз для асіміляцыі беларускай культуры і мовы не будзе існаваць на іх карэннай тэрыторыі.

Нацыянальная самасвядомасць чалавека — гэта вялікі неацэнны дар, які прыходзіць да чалавека ў выніку яго ўнутранага развіцця, якое ў сваю чаргу можа дасягнуць патрэбнага ўзроўню толькі пры ўмовах свядомага ўздзеяння на людзей цэлага комплексу фактараў. Мэтанакіраванае ажыццяўленне гэтага комплексу мерапрыемстваў па давядзенні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў да ўзроўню, які забяспечваў бы ім поўную гарантыю ад культурнай асіміляцыі, знікнення як самастойнай нацыі, мае з аднаго боку спрыяльныя, з другога—неспрыяльныя перадумовы. Ажыццяўленню яго спрыяюць перш за ўсё кампактнае пражыванне беларусаў на сваёй спрадвечнай тэрыторыі, іх параўнальна высокі адукацыйны ўзровень, багаты прафесійна - вытворчы вопыт, салідная практыка адраджэння эканомікі і культуры пасля неверагодна цяжкіх разбурэнняў у выніку дзвюх сусветных войнаў. Галоўная ж прычына, што абцяжарвае працэс усталявання трывалай нацыянальнай самасвядомасці, — гэта памылковасць поглядаў, непаважлівасць адносін многіх беларусаў да сваіх гістарычных, нацыянальных традыцый, да ўласнага будучага. Меў рацыю Зянон Пазняк, калі пісаў, што «канфлікт праходзіць праз нас саміх, праз нашы душы, што выракліся Бацькаўшчыны і мовы і цяпер вяртаюцца да іх з цяжкасцю і балесным прасвятленнем».

Ліквідаваць пагражальны для лёсу нацыі ўласцівы ёй цяпер унутраны канфлікт можна, яшчэ раз паўтару, толькі праз свядомае выхаванне ў людзей вялікай павагі да сваіх духоўных традыцый, жадання прымножыць іх. З дапамогай цэлага комплексу мерапрыемстваў па ўзвышэнні ўнутранага зместу асобы чалавека патрэбна настойліва дамагацца таго, каб не толькі прафесійныя дзеячы культуры, але пераважная большасць людзей і асабліва маладыя сем'і, якія яшчэ толькі водзяць сваіх дзяцей у дашкольныя ўстановы, адчувалі адказнасць за будучае беларускай нацыі, культуры і мовы. Бясспрэчна, патэнцыі творчай інтэлігенцыі — гэта вялікая сіла для развіцця культуры, але ж яшчэ большай сілай з'яўляецца сам народ. Сёння пакуль што ён не мае акрэсленай пазіцыі ў гэтай адказнай сферы дзейнасці чалавецтва. Яму патрэбна дапамога з боку тых, хто ажыццяўляе кіраванне грамадскімі працэсамі, хто тэарэтычна асэнсоўвае будучае нацыі.

Мы павінны актыўна падтрымоўваць усё прагрэсіўнае, што цяпер адраджаецца ў беларускім народзе і служыць аднаўленню яго нацыянальнай самасвядомасці. Датычыць гэта і правядзення масавых спрадвечных свят Дзядоў, Купалля, Каляд і г. д. Шкада толькі, што пры іх арганізацыі даводзіцца пераадольваць шмат перашкод, якія так умела расстаўляе далёкая ад правільнага разумення нацыянальных духоўных традыцый адміністрацыя.

Зусім бесперспектыўнай будзе наша спроба ўсталяваць у душах беларусаў нацыянальную самасвядомасць, калі мы не вернем ім народную, гістарычную тапаніміку. Не сумняваюся, што людзі, якія жывуць у населеных пунктах, назвы якіх непісьменная мясцовая бюракратыя перакруціла на рускі лад тыпу «Отрадная», «Сиреневка», «Розовая», «Победная», «Октябрьская», «Первомайская» і г. д., ніколі не адчуюць сябе сапраўднымі беларусамі. Усямерна садзейнічаць трэба вяртанню ў нашыя пасведчанні аб нараджэнні, пашпарты, іншыя асабовыя дакументы карэнных беларускіх імёнаў, страта якіх нават трохі выпярэджвала выцясненне беларускай мовы з грамадскага жыцця, агульнаадукацыйнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школ.

**Вялікае ўздзеянне на нацыянальную самасвядомасць народа робяць прыродныя ландшафты, асабліва калі яму ўдалося ўнесці ў іх разумныя перамены. Вядомы прыхільнік, актыўны змагар за рускую культуру акадэмік Д. С. Ліхачоў пісаў: «...пейзаж краіны — гэта такі ж элемент нацыянальнай культуры, як і ўсё іншае. Не шанаваць родную прыроду — гэта тое ж, што не шанаваць родную культуру. Ён адлюстраванне душы народа».[1] Хто пабываў на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, не мог не заўважаць як мясцовыя жыхары, прытаіўшы дыханне, любуюцца цудоўнымі краявідамі акаляючых іх гор. Для вачэй казаха неабсяжныя прасторы пустыні здаюцца такімі ж прыгожымі, як альпійскія лугі для народаў Швейцарыі. Раней у нас часта недаацэньвалася значэнне тэрыторыі як фактару, што ў пэўным накірунку ўздзейнічае на фарміраванне і сучаснае развіццё этнасу. Вельмі моднай была думка, што паміж савецкімі нацыямі толькі ўяўна існуюць тэрытарыяльныя межы. Практыка паказала, што гістарычная, этнічная тэрыторыя нацыі ёсць для яе велізарная каштоўнасць як матэрыяльная аснова жыцця. Невыпадкова ў платформе КПСС па нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах катэгарычна прызнаецца недапушчальнай перакройка межаў савецкіх рэспублік. У выступленнях на вераснёўскім (1989 г.) Пленуме ЦК КПСС заўлялася, што замах на тэрытарыяльную цэласнасць саюзнай рэспублікі павінен кваліфікавацца як дзяржаўнае злачынства. А колькі такіх замахаў было раней! Гэта і будаўніцтва без уліку мясцовых патрэб буйных вытворчых аб'ектаў па лініі саюзных міністэрстваў і ведамстваў, гвалтоўнае перасяленне цэлых народаў з адных тэрыторый на іншыя без згоды з іх мясцовым насельніцтвам, пагражальных памераў міграцыя людзей у раёны з добра развітой сацыяльнай інфраструктурай, спрыяльнымі прыроднакліматычнымі ўмовамі, з вострай — часта штучнай — патрэбай у рабочай сіле і г. д.**

**Не абдзяліла прырода і беларуса сваімі непаўторнымі краявідамі, пад уздзеяннем якіх стагоддзямі фарміраваўся яго нацыянальны характар. Але бульдозеры, экскаватары, грэйдэры, скрэперы, бензапілы і іншыя тэхнічныя сродкі нанеслі вялікія, часта непапраўныя раны асяроддзю нашага пражывання. Не ўсё надае нацыянальны гонар беларусам, што апошнім часам зроблена па сацыяльна-культурным развіцці нашых вёсак і гарадоў, бо ў іх вельмі і вельмі мала чагосьці адметнага і нацыянальна-спецыфічнага, прывязанага да гістарычных традыцый. Многія нанава пабудаваныя кварталы гарадоў можна перанесці ў любы раён Расійскай Федэрацыі ці Украіны, дзе яны без усялякай перапрацоўкі свабодна «ўпішуцца» ў іх гарадскія структуры. Нашы архітэктары і будаўнікі грэбуюць разумным папярэджаннем акадэміка Д. С. Ліхачова: «Калі няма індывідуальных асаблівасцей, што адрозніваюць адну мясцовасць ад другой, адно сяло ад другога, адзін горад ад другога і ваш уласны дом ад суседніх, — уся краінаператвараецца ў пустыню нудную, нецікавую, а людзі ў ёй у людзей, пазбаўленых любові да родных месцаў»[2]. Такая аднастайнасць падрывае нацыянальную самасвядомасць людзей, рабіць іх няздольнымі ўносіць штосьці сваё, арыгінальнае ў палітру сусветнай культуры, перастае быць прыцягальнай для іншых народаў.**

Давяршыла заганныя адносіны разумнай істоты чалавека да беларускай прыроды чарнобыльская катастрофа. Шчыра кажучы, я нічога так не баюся, як магчымай абыякавасці майго народа да сваіх нацыянальных традыцый ад страху за вынікі Чарнобыля. Думкі, як выжыць біялагічна, могуць не пакінуць належнага месца ў галаве і сэрцы для клопатаў аб захаванні сябе як самабытнай этнічнай супольнасці, што ніколі само па сабе не можа забяспечвацца, а падтрымліваецца выключна вялікай энергіяй людзей па зберажэнні і далейшым развіцці сваіх духоўных традыцый. Бясспрэчна, калі нам удасца пашкоджаную чарнобыльскай навалаччу зямлю зноў паставіць на службу чалавеку, гэта вельмі ўздыме экалагічную свядомасць усяго беларускага народа, а разам з гэтым будзе садзейнічаць і росту нацыянальнай самасвядомасці, бо такой архіскладанай праблемы яшчэ не выпадала вырашаць ніводнаму этнасу. Беларусы і ўкраінцы першымі ў свеце распачалі нялёгкую, непрадбачаную сваёй выніковасцю барацьбу з «мірным» атамам. Патрэбна рабіць усё, каб не дапусціць масавай стыхійнай міграцыі насельніцтва з забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі кудысьці далёка за межы Беларусі. Калі верыць аўтарытэтным установам, у нашым родным краі дастаткова адносна чыстай зямлі, каб перасяліць сюды ўсіх людзей з небяспечных для пражывання месцаў.

Не палічыце мяне за панікёра, але хацелася б выкласці і такое меркаванне, якое недапасоўваецца да вышэйсказанага. Вынікі ўплыву чарнобыльскай трагедыі нам да канца невядомы, асабліва калі паспрабаваць спрагназіраваць іх на аддаленую перспектыву. Магчыма, сённяшняе пакаленне маладых беларусаў біялагічна будзе мацней, чым тое, якое нарodзіцца нават на зямлі, што спецыялістамі лічыцца адносна чыстай. Мяне палохае думка: а што, калі гэтая адносная чысціня не будзе тым гарантам, які забяспечыць у будучым нармальны генафонд для беларускай нацыі? Таму ці не разумней было б у імя яе захавання як самабытнай супольнасці на планеце, пэўную частку найбольш нацыянальна свядомых разнаполых маладых беларусаў, таксама нядаўна сфарміраваных сем'яў у агульнай сумарнай колькасці прыкладна да ста тысяч чалавек у арганізаваным парадку, за поўны дзяржаўны кошт кампактна перасяліць кудысьці на новае месца? І пажадана за межы СССР, паколькі апошнім часам тут разыгрываюцца вельмі небяспечныя міжнацыянальныя баталіі. Думаецца, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыхільна паставілася б да такой просьбы беларусаў і з дапамогай сусветнай прагрэсіўнай грамадскасці знайшла б на планеце Зямля спрыяльны паводле прыроднакліматычных умоваў кавалак тэрыторыі для гэтай колькасці беларусаў, каб яны тут маглі развівацца як самабытны народ. Менавіта самабытны. Таму накіроўваць у далёкі нязведаны край трэба беларусаў з высокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, якія на новым месцы клапаціліся б не толькі пра сваё біялагічнае, але і этнічнае існаванне, былі ўстойлівымі супроць усялякіх формаў асіміляцыі, паколькі магчыма толькі яны стануць адзінымі паўнацэннымі прадаўжальнікамі сучаснай беларускай нацыі. Калі ж праз сто — дзвесце гадоў іх цяперашняя Бацькаўшчына канчаткова вызваліцца ад чарнобыльскага пекла, ніхто не забароніць нашчадкам сённяшніх перасяленцаў з Беларусі пры жаданні вярнуцца на радзіму сваіх продкаў. Чарнобыль, як усё больш і больш разумеецца сусветнай грамадскасцю, — гэта агульначалавечая справа, і таму ў розных формах выратавання яго ахвяр трэба браць удзел усім краінам зямнога шара. Беларусы і ўкраінцы не па сваёй віне сталі заложнікамі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая ўжо і на сваіх ранніх стадыях мела інтэрнацыянальны характар.

А цяпер ад гэтай трывожнай глабальнай праблемы зноў пяройдзем да нашага ўнутрынацыянальнага жыцця.

**Відаць, для многіх не адкрыю сакрэту, калі скажу, што ступень нацыянальнай самасвядомасці кожнага народа ў значнай ступені залежыць ад яго здольнасці мець уласную дзяржаўнасць. Доўгі час апошняя адмаўлялася ў шматвяковай гісторыі беларускага народа, што не толькі пярэчыла ісціне, але і параджала пачуццё непаўнацэннасці. А ці ж не можа ён лічыць сябе непасрэдным пераемнікам раннефеадальных дзяржаўных фарміраванняў Полацкага і Тураўскага княстваў? З поўнай падставай беларускі народ можа лічыць сваёй дзяржавай і Вялікае Княства Літоўскае, якое на працягу некалькіх стагоддзяў было адным з самых магутных у Еўропе. Калі б гэта дзяржаўнае ўтварэнне не з'яўлялася ўласным для беларусаў, ім не ўдалося б сфарміравацца ў высокаразвітую для таго часу самабытную народнасць. Падкрэсліванне гэтага фактару вельмі важна ў нашай ідэалагічнай і культурна-асветніцкай працы, калі мы жадаем на трывалы падмурак паставіць справу адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.**

Мець сваю дзяржаўнасць — гэта яшчэ не азначае быць гаспадаром уласнага дома, тым больш, калі яна ўваходзіць у якую-небудзь федэрацыю. Уласная дзяржаўнасць надае законны гонар нацыі толькі ва ўмовах самастойнага ажыццяўлення ёю ўсяго комплексу функцый па кіраўніцтву эканомікай, палітыкай і культурай. Асабліва гэта датычыць тых сфераў, дзе даводзіцца мець справу не столькі з рэгуляваннем вытворча-тэхнічнымі адносінамі, колькі з адносінамі, якія напасрэдна датычаць саміх людзей. Да такіх сфераў у першую чаргу належаць вышэйшыя звёны апаратаў партыйных, савецкіх і прафсаюзных органаў, пракуратуры, юстыцыі, суда, службы дзяржаўнай бяспекі, міністэрстваў унутраных спраў, народнай адукацыі, аховы здароўя, культуры. Дзяржаграпрама БССР. У нас цяпер быццам бы і рацыянальная нацыянальная структура кіруючых работнікаў пералічаных міністэрстваў і ведамстваў, большасці вядучых устаноў і прадпрыемстваў, але калі прыгледзецца да апаратчыкаў толькі самых высокіх рангаў, дык сярод іх працэнт беларусаў куды меншы, чым у агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі. Калі па-ранейшаму вышэйшыя пасады тут будуць займаць пераважна прысланыя з цэнтра людзі, прадстаўнікі іншых народаў, у карэннага насельніцтва вельмі лёгка можа ўзнікаць комплекс непаўнацэннасці адносна сваёй здольнасці ўмець кіраваць уласным жыццём на рэспубліканскім узроўні. Трэба хутчэй аднавіць былую практыку, калі адпаведныя органы перыядычна давалі ў друк звесткі аб нацыянальнай структуры работнікаў розных прэстыжных сфераў дзейнасці чалавека. Чым жа дрэнна, калі калектывы ВНУ ці навукова-даследчых інстытутаў будуць ведаць нацыянальную структуру іх адміністрацыйных органаў, загадчыкаў кафедр, аддзелаў, лабараторый і сектараў? Дакладныя статыстычныя звесткі дапамогуць аб'ектыўна і правільна разабрацца, у якіх канкрэтна месцах існуе патрэба неадкладна заняцца падборам і вылучэннем на кіруючыя пасады беларусаў адпаведна з іх удзельнай вагой у складзе насельніцтва рэспублікі.

Задуманы У. І. Леніным тып савецкай федэрацыі забяспечваў за кожнай нацыяй шырокія правы па кіраванні грамадствам, толькі, на жаль, што пазней яны вельмі часта парушаліся. Суверэннасць рэспублік набыла ў поўным сэнсе слова намінальны характар, яны перасталі быць гаспадарамі ў сваім уласным доме. У афіцыйных жа дакументах, навуковай літаратуры ўсё гэта затушоўвалася, чорнае выдавалася за белае. Вось, да прыкладу, у якіх ружовых танах пісаў пра гэта больш за дзесяць гадоў таму назад спецыяліст па нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве ў СССР Э. Тадэвасян: «...умацаванне саюзных асноў дзяржавы адбываецца ў нас не на шляхах абмежавання суверэнных правоў саюзных рэспублік, а ў арганічнай сувязі і ў гарманічным спалучэнні з пашырэннем і ўмацаваннем гэтых правоў, узмацненнем іх гарантый». Думаецца, няма патрэбы раскрываць памылковасць прыведзенай цытаты цяпер, калі мы ведаем з апошніх партыйных дакументаў, што ўяўляла сабой наша каманднa-бюракратычная сістэма кіравання грамадствам. Калі нам удасца пазбавіцца ад усіх яе хібаў у выніку перабудовы, і Беларусь сапраўды стане суверэннай рэспублікай, гэта, несумненна, павысіць нацыянальную свядомасць яе карэнных жыхароў.

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**

[1]Лихачев Д. С. Заметки о русском. — «Новый мир». 1980. № 3. С. 24.

[2] Лихачев Д. С. Там же. С. 37.

